насці роднай мовай, памятаючы, што газета выхоўвае, вучыць.

Чытач павінен вучыцца мове ў газеты. Нашым настольным кіраўніцтвам у гэтай справе павінны быць творы Леніна і Сталіна.

Усесаюзная нарада рабселькораў пры «Правде» пісала ў сваім пісьме к таварышу Сталіну:

> «На тваіх артыкулах і прамовах мы вучымся, як змагацца за генеральную лінію партыі, як авалодваць тэхнікай нашай газетнай справы, як пісаць у газету, як сціела і ясна, вобразна і проста фармуляваць нашы мыслі, каб яны былі даступны мільёнам рабочых і сялян».

Глыбока вывучаць творы Леніна і Сталіна—вось што патрабуецца для работнікаў друку. **(Апладысменты).**

Мова нашых газет яшчэ вельмі засмечваецца бюракратычным хламам.

Часта ў газетах бывае абураючая няграматнасць.

Звернемся да прыкладаў:

Вось даслоўны стыль асобных артыкулаў газеты Лагойскага раёна «Чырвоная Лагойшчына»:

> «Калгаснікі калгаса «Ўдарнік», Швабскага сельсовета, рашуча пратэстуюць замаха забіць селькора т. Навіцкага і супроць нечалавечых здзекаў над калгасным племянным жарабцом» **(Смех).**

Гэта—узор бяграматнасці і беззмястоўнасці. За няграматнасць газеты ЦК КП(б)Б зняў з работы рэдактара Чаплінскага, з забаронай яму працаваць у органах друку. Гэта—сур'ёзная перасцярога для работнікаў друку.



**Селькоры-ўдарнікі менскай раённай газеты «Шлях соцыялізма». У першым радзе (злева направа): ІВАНОЎСКІ В. І., КУЛІНЧЫК У. О., БЕЛЬСКІ Г. С., ГАРАЧКА І. Ф., Стаяць ззаду: ЯЧЭЙКА А. Ф., СКАРАБАГАТЫ І. В., ВАЛЬКОВІЧ А. Я., КАЛЕЙНІК П. С.**

У нумары «Комунар Заслаўшчыны» ад 10 кастрычніка 1934 г. пры падліку аказалася 203 граматычных і 48 стылістычных памылак.

У газеце «Ўдарнік», Суражскага раёна, у артыкуле «Расце соцыялістычная культура» (ў нумары за 7 лістапада) напісана:

«Дыялектыка разглядае рэч, з'явішча ў дынаміцы, гэта значыць як рэзультат папярэдняга і прадпасылку для далейшага развіцця».

Што зразумее з гэтага чытач раённай газеты? Абсалютна нічога.

У газеце «Шлях соцыялізма», Чашніцкага раёна, дан такі загаловак да заметкі:

— «Заганяюць у бутылку фонды стымулявання» **(смех).**

У нумары суражскай газеты «Ўдарнік» за 26 снежня на першай паласе дан такі аншлаг:

«Узятыя самаабавязацельствы ператварыць у канкрэтную барацьбу дзеяння». (Відаць хацелі сказаць у «канкрэтную праграму дзеяння). На жаль, у нашым друку такіх фактаў яшчэ многа.

Задача заключаецца ў тым, каб рашуча змагацца за чыстату мовы нашых газет. Трэба не забываць, што чым граматней будзе наша газета, тым лепш яна будзе паражаць нашых ворагаў.

Работа нашых газет патрабуе ад газетных работнікаў асабліва вялікай рэволюцыйнай пільнасці. **Забыванне рэволюцыйнай пільнасці ў рабоце друку — ёсць найвялікшае злачынства перад партыяй.**

Між тым, гэта яшчэ не ўсвядомлена часткай нашых работнікаў, і на старонкі газет пранікае часамі тое, што лье ваду на млын класавага ворага. Няма дастатковай адказнасці за кожнае слова, пускаемае ў друк, а гэта самае яркае прытупленне рэволюцыйнай пільнасці з боку работніка друку.

## ЗА ЧЫСТАТУ РАБСЕЛЬКОРАУСКІХ РАДОУ

Трэба штомінутна памятаць, таварышы, што з ростам нашай соцыялістычнай радзімы і з умацаваннем нашай пролетарскай дыктатуры не аслабляецца, а ўзмацняецца супраціўленне апошніх астаткаў паміраючых класаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны пераходзяць ад ад-

ных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў.

Класавы вораг шкодзіць нам яшчэ на многіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. Класавы вораг не спыняецца перад забойствам найбольш актыўных барацьбітоў за соцыялізм. Вы ведаеце, што за гэты перыяд наша партыя і рабселькораўская армія ўтраціла многіх лепшых таварышоў, загінуўшых ад рукі класавага ворага. Яны загінулі на сваіх адказных пастах у барацьбе за соцыялізм. Падрыхтоўка да нашага з'езда рабселькораў таксама не абышлася без ахвяр. Напярэдадні нашага з'езда быў зверскі забіт дэлегат III усебеларускага з'езда рабселькораў Крывіцкі Дзмітры Васільевіч, былы батрак, старшыня перадавога калгаса, стойкі большэвік, актыўнейшы рабселькор. Сваю ўдарную арганізатарскую работу ён сумяшчаў з вострым рабселькораўскім пяром. Ён ускрыў кулацкую дзейнасць сына былога валаснога суддзі Раманкевіча Ермалая, выкрыў бандыта Грышмана Барыса, пралезшага ў нашу партыю і атрымаўшага партбілет. І вось гэтымі ворагамі народа быў зверскі забіт рабселькор таварыш Крывіцкі.

Я прапаную ўшанаваць яго памяць уставаннем. **(Усе ўстаюць, аркестр выконвае жалобны марш).**

Я думаю, што выкажу думку ўсіх прысутных тут дэлегатаў з'езда, калі ад вашага імя папрашу тав. Лепляўскага—нашага наркома ўнутраных спраў,—каб як можна хутчэй была разгледжана гэта справа і самым рашучым чынам былі прыцягнуты да адказнасці класавыя ворагі—забойцы тав. Крывіцкага. **(Апладысменты).**

Астаткі недабітых класава-чужых элементаў пралазяць нават у рады рабселькораў, каб «ціхай сапай» падрываць нашу работу, закідваючы газеты заведама ілжывымі, кляўзнымі карэспандэнцыямі. Даволі назваць адну лічбу. За 1934 г. па раённых газетах БССР такіх прымазаўшыхся адсеяна каля 400 чалавек. Гэта безумоўна зусім не значыць, што зараз ужо ўсё ў парадку, што нашы рады ідэальна чыстыя, што класавы вораг ужо склаў зброю. Наадварот, мы павінны з кожным днём павышаць класавую пільнасць. Мы павінны ведаць кожнага рабселькора, бязлітасна выкрываючы класавых ворагаў, пралазячых у рабселькораўскія рады.

Пры праверцы радоў рабселькораў брагінскай газеты аказалася, што з 209 рабселькораў 18 чалавек класава-чужых элементаў хаваліся пад маскай селькораў. Там былі і бандыты, і кулакі, і асуджаныя не раз зладзеі і т. д.

Можна прывесці цэлы рад фактаў, калі асобныя варожыя нам элементы, пралезшыя ў «рабселькоры», потым нам шкодзяць, пішуць заметкі для таго, каб адцягнуць нашу ўвагу ад асноўнай нашай работы, для таго, каб не дапамагаць, а шкодзіць нашай вялікай справе.

Вось прыклады.

**Каласоўскі** (Шклоў)—сын кулака, пісаў у газеты хлусню і паклёпы, прыкрываючы ўсё гэта чужым прозвішчам. Ён нават пралез быў у раённую газету, але цяпер выкрыт.

У калгасе «Чырвоны баец», зоны Большэвіцкай МТС (Менск) на работу рэдактара калгаснай насценгазеты прабраўся кулацкі агент **Ал. Герасімовіч.** Ён развальў работу насценгазеты. Пасля таго, як яго выкрылі і выключылі са складу рэдкалегіі, ён стаў на шлях тэрарыстычнай расправы над селькорамі-ўдарнікамі калгаса.

Прыведзеныя факты сведчаць аб тым, што многія з газет яшчэ не ведаюць твару кожнага свайго рабселькора, а таму не заўсёды своечасова выкрываюць ілжэселькораў і адкрытых класавых ворагаў, якія імкнуцца выкарыстаць друк у сваіх контррэволюцыйных мэтах.

Не заўсёды ў нас яшчэ на вышыні і партыйнае кіраўніцтва газетай, асабліва насценнай.

У калгасе «Чырвонаполле», Міхееўскага сельсовета, Крычаўскага раёна, адказны рэдактар насценнай газеты рахункавод **Бераснёў** і калгаснік **Агеенка** лічаць, што «насценная газета робіць толькі шкоду ў калгасе і ўносіць сварку сярод калгаснікаў і асабліва сярод жанчын».

Так сам «рэдактар» заяўляе аб насценнай газеце. Мы ўправе запытаць, а дзе-ж раённыя арганізацыі, якія адказваюць і за насценную газету, якія дарučылі Бераснёву справу арганізатара грамадскай думкі ў калгасе? За гэта безумоўна адказвае раённая партыйная арганізацыя.

Занятні семінара дэлегатаў III усебеларускага з'езда рабселькораў.

Нам трэба патрэбаваць зараз, каб райком партыі, райвыканком, райпрофсовет, райком комсамола больш увагі аддавалі друку. Нам трэба па-бальшэвіцку арганізаваць работу не толькі друкаваных, але і маючыхся ў нас 22.000 рукапісных— гэта значыць насценных газет. Патрэбна сур'ёзна і сістэматычна займацца работай з рабселькорамі, як асноўнай апорай нізавога друку. Па сутнасці справы, ваш непасрэдны кіраўнік—гэта «Звязда». Згодна рашэння ЦК партыі, на «Звязду» ўскладзена адказнасць па кіраўніцтву рабселькораўскім рухам у БССР. На жаль, канкрэтнай работы з рабселькорамі па лініі «Звязды» яшчэ мала.

Мы павінны зараз у гэтых адносінах прыняць цэлы рад практычных мерапрыемстваў з тым, каб гэты ўчастак у нашай газеце «Звязда» значна палепшыць. Таксама не можа зняць з сябе адказнасць за кіраўніцтва гэтым участкам газета «Рабочий». Тав. **Хейфец** мала займаецца рабкорамі, а яго-ж газета, па сутнасці, з'яўляецца рабочай газетай. «Калгаснік Беларусі» і яго рэдактар тав. **Шастакоў** таксама дрэнна займаецца селькорамі, а яго задача—дапамагаць з дня ў дзень кожнаму селькору, ведаць асноўны актыў сваіх селькораў і працаваць з ім так, каб гэта адчувала ўся рабселькораўская армія.

Да работы з рабселькорамі нам трэба будзе прыцягнуць адказных таварышоў з цэнтральнага друку, уключаючы сюды ўсіх нашых рэдактароў. Трэба, каб яны асабіста ўзяліся за гэту работу. Трэба будзе прыцягнуць рад адказных работнікаў нашых партарганізацый да гэтай справы, каб сапраўды сістэматычна ўзнімаць ідэйна-палітычны ўзровень нашай вялікай рабселькораўскай арміі.

## АБ ЧАРГОВЫХ БАЯВЫХ ЗАДАЧАХ РАБСЕЛЬКОРАУ

1935 год павінен быць годам вялікага росту прадукцыйнасці працы, годам рэзкага паляпшэння якасці прадукцыі на нашых фабрыках, заводах і транспарце.

Той факт, што на асобных нашых заводах і фабрыках якасць прадукцыі нізкая, сведчыць аб тым, што друк і рабселькоры на мясцах недастаткова займаюцца гэтай справай. Вазьміце нашу швэйную прамысловасць. Яна мае цэлы рад дасягненняў у параўнанні з тым, што было. Але, на жаль, гэтыя дасягненні яшчэ вельмі малыя ў параўнанні з тым, што нам трэба. Нам зараз патрэбен касцюм такі, які сапраўды люба было-б апрануць, каб на ім гузікі трымаліся моцна, каб касцюм быў з добрага сукна і па размеру добры, і прыгожа пашыты. У нас-жа ёсць выпадкі, калі рукавы прышываюцца к касцюму так, што цяжка зразумець, хто іх прышываў —кравец ці думаючы вучыцца кравецтву.

Нам трэба якасць нашай прадукцыі ў 1935 г. узняць на такую вышыню, каб наша Совецкая Беларуская Рэспубліка была на першым месцы ў нашым вялікім Совецкім Саюзе. Добра было-б, калі-б селькоры сумесна з рабкорамі заключылі соцыялістычныя дагавары па пытанню якасці. Рабкоры павінны змагацца за добрую фабрычна-заводскую прадукцыю, а селькоры за лепшае правядзенне веснавой сяўбы і за высокі ўраджай.

Важнейшай палітычнай і практычнай праграмай рабселькораў з'яўляецца прынятый на ўсесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў новы статут сельгасарцелі.

Рабселькоры абавязаны гэты статут як можна хутчэй давесці да кожнага калгасніка, калгасніцы, рабочага, работніцы і моладзі. Усе да адзінага ў нашай рэспубліцы павінны ведаць гэты важнейшы палітычны дакумент, які адкрывае новую яркую паласу нашага калгаснага будаўніцтва па шляху да заможнага і культурнага жыцця.

Гэты дакумент ставіць канкрэтныя задачы перад кожным калгаснікам, кожным кіраўніком, кожным членам партыі, перад кожным рабселькорам, задачы, як трэба змагацца за завяршэнне справы большэвізацыі калгасаў, за поўнае таржаство заможнага і культурнага калгаснага жыцця. Таму вывучэнне гэтага дакумента і барацьба за ажыццяўленне пастаўленых ім задач з'яўляецца зараз асноўнай справай усіх нашых рабселькораў.

Вялікая задача стаіць перад нашымі рабселькорамі ў галіне развіцця жывёлагадоўлі. На XVII з'ездзе нашай партыі таварыш **Сталін** сказаў, што справу жывёлагадоўлі павінна ўзяць у свае рукі ўся партыя, усе нашы работнікі—партыйныя і беспартыйныя. Таварыш Сталін указаў, што праблема жывёлагадоўчая з'яўляецца цяпер такой-жа першачарговай праблемай, якой была ўчора ўжо вырашаная з поспехам праблема зернавая. Прашоў год, але ці можам мы сказаць, што ў нас, у Беларусі, гэта праблема ажыццяўляецца паспяхова. На жаль, не. Нельга гэтага сказаць. У развіцці жывёлагадоўлі мы грунтоўна адстаем. Калі возьмем па буйнай рагатай жывёле, то ў 1934 г. мы ў Беларусі атрымалі прырост у 2,1 проц. у адносінах да 1933 г., а па Совецкаму Саюзу прырост склаў 10,4 проц. Па каровах, свіннях і асабліва авечках і козах у Беларусі быў не прырост, а **паніжэнне,** тады як па СССР у цэлым было павышэнне пагалоўя ў 1934 г. у параўнанні з 1933 г.

Трэба сказаць, што нашы рабселькоры гэтым участкам недастаткова займаліся, яны недастаткова ўскрывалі тыя шкодніцкія элементы, якія працягвалі сваю падрыўную работу на гэтым участку. Зразумела, нельга прычыну затрымання росту жывёлагадоўлі цяпер тлумачыць толькі шкодніцтвам кулака.

У цяперашніх умовах, калі класавы вораг разгромлен і калгасны лад перамог канчаткова і беспаваротна, калі арганізацыйны перыяд у сельскай гаспадарцы закончыўся, кулак можа шкодзіць толькі па нашаму ўласнаму папушчэнню, **толькі па бяздзейнасці мясцовых работнікаў і недастатковай пільнасці. У канчатковым выніку ўсё залежыць ад нас і толькі ад нас.**

Вось чаму вы, таварышы рабселькоры, павінны самакрытычней аднесціся да таго, як вы змагаліся за жывёлагадоўлю і зрабіць кожны для сябе адпаведны вывад.

Наступнай асноўнай і на сёння самай баявой задачай рабселькораў з'яўляецца барацьба за лепшую падрыхтоўку да веснавой сяўбы.

Вясна ў гэтым годзе будзе ва ўсіх адносінах асаблівай. **Калгасы рыхтуюцца к таму, каб у 1935 г. заваяваць новыя буйнейшыя перамогі** і атрымаць найлепшы ўраджай. Гэта патрабуе та-

кой падрыхтоўкі к пачатку сельскагаспадарчага года, якой ніколі не было.

Пытанням падрыхтоўкі да веснавой сяўбы наш Цэнтральны Камітэт і асабіста тав. Гікало аддае выключную ўвагу.

Усе нашы перамогі, дасягнутыя КП(б)Б пад кіраўніцтвам тав. Гікало за апошнія гады, з'яўляюцца лепшай зарукай таго, што ў гэтым годзе мы можам і павінны заваяваць найлепшы ўраджай, пакончыць з адставаннем многіх калгасаў і дабіцца заможнага жыцця для мільёнаў тружанікаў калгасных палёў.

Між тым факты з месц гавораць аб бяздзейнасці і дэмабілізацыі раду зямельных органаў, бўйных недахопах у рабоце на месцах. Людзі чакаюць цыркуляраў, а некаторыя казённа іх выконваюць і не бачаць таго, што робіцца ў калгасах. І рабселькоры яшчэ не пускаюць у ход свайго вострага пяра на барацьбу за арганізаваную сустрэчу сяўбы.

З чаго зараз складаецца падрыхтоўка да сяўбы. **Завоз, засыпка, ачыстка і сартаванне насення. Поўнае сканчэнне рамонту трактароў і сельскагаспадарчага інвентару. Клопаты аб рабочым цягле, аб кані і кармах для яго. Правільная арганізацыя калгасных брыгад. Падрыхтоўка тэхнічных кадраў. Вось галоўнае, без чаго нельга гаварыць аб поспеху пасеўнай кампаніі. За гэта** павінны зараз змагацца, аб гэтым павінны зараз пісаць рабселькоры.

Цяпер, як ніколі, патрэбны гібкасць і празорлівасць кіраўнікоў. Умовы змяніліся. Гутарка ідзе не столькі аб засыпцы насення, колькі аб яго ачыстцы і пратручванні. У машына-трактарных майстэрнях галоўнае цяпер ва ўменні арганізаваць справу і культурна працаваць. Словам, за што не вазьміся, усюды на першым месцы стаяць людзі, роля кіраўнікоў і арганізатараў узнялася як ніколі.

Вось чаму, вы, рабселькоры, бліжэй за ўсіх звязаныя з газетай — актыўным агітатарам, прапагандыстам і арганізатарам мас, — павінны мабілізавацца на падрыхтоўку да веснавой сяўбы, як ніколі. Памятайце, таварышы, што чым лепш мы правядзем веснавую сяўбу, тым большымі будуць нашы далейшыя перамогі.

## ЦЯСНЕЙ ЗГУРТУЕМСЯ ВАКОЛ НАШАГА ВЯЛІКАГА СТАЛІНА

Я, таварышы, заканчваю.

Нашы грандыёзныя перамогі, перамогі нашай краіны з'яўляюцца рэзультатам таго, што намі штодзенна, штогадзінна і канкрэтна кіруе наша вялікая комуністычная партыя. Мы ганарымся гэтымі перамогамі, яны натхняюць нас, усяляюць упэўненасць у канчатковую перамогу справы комунізма на ўсім зямным шары. І ўсім гэтым абавязаны мы нашаму вялікаму правадыру, арганізатару нашых перамог — **Іосіфу Вісарыё-**

□ □ □ □ □ □ □ □ □ □ □ □



Тав. НОНІК і тав. КАВАЛЬЧУК сярод дэлегатаў III усебеларускага з'езда.

навічу Сталіну. **(Апладысменты).** Тав. Сталін распрацаваў, абараніў і ажыццявіў палітыку індустрыялізацыі нашай краіны,ператварыўшай наш Совецкі Саюз у непрыступную крэпасць. Таварыш Сталін распрацаваў, абараніў і ажыццявіў палітыку ліквідацыі кулацтва як класа на аснове суцэльнай калектывізацыі, забяспечыўшую поўную перамогу калгаснага ладу.

Распрацаваны і прыняты пры асабістым удзеле правадыра нашай партыі новы статут сельгасарцелі, з'яўляецца найвялікшым дакументам эпохі, і гэты дакумент з'яўляецца перш за ўсё творчасцю розуму нашага правадыра і настаўніка тав. Сталіна. **(Апладысменты).**

Але нашы дасягненні і поспехі не павінны нас супакойваць. Мы павінны быць зараз пільны больш, чым калі-б там ні было. Той факт, што вораг праДаўжае весці супроць нас барацьбу, той факт, што зусім нядаўна зладзейскі забіт лепшы бальшэвік, сапратнік нашага правадыра тав. Сталіна, лепшы ўдарнік, паслядоўны ленінец Сергей Міронавіч Кіраў, той факт, што падонкі былой зіноўеўска-троцкісцкай апазіцыі падпольна падрыхтоўвалі гэты стрэл у грудзі т. Кірава і ажыццявілі сваю белабандыцкую справу, гаворыць і патрабуе ад усіх нас **узняць рэвалюцыйную пільнасць на ўсіх участках нашай работы.** Вораг яшчэ прабуе ўдарыць, падрываць справу соцыялістычнага будаўніцтва. Здрадніцкае забойства тав. Кірава яшчэ раз паказала, што павержаная ў прах контррэвалюцыйная гадзіна яшчэ можа выпускаць сваё жала. Гэта гнуснае злачынства яшчэ раз наглядна паказала, што пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, яго фашысцкая агентура, поўная нянавісці да новага, соцыялістычнага ладу, яно акрыляе контррэвалюцыйнае атрэп'е ў нашай краіне, у тым ліку і прыкрываючаеся партыйным білетам, у мэтах забойстваў і замахаў, усялякіх правакацый і шкодніцтва.

Класавы вораг прабуе і яшчэ не раз будзе прабаваць выкарыстаць малейшае аслабленне рэволюцыйнай пільнасці для сваёй падрыўной контррэволюцыйнай работы.

Вы — ударнікі нашага слаўнага бальшэвіцкага друку, — вы лепшыя з тых, хто да канца і поўнасцю аддан нашай партыі і нашай радзіме, вы заўсёды гатовыя аддаць справе Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна не толькі свае сілы, але, калі патрэбуецца, то і ўсё жыццё, вы павінны зорка ахоўваць свае рады ад пранікнення ў іх класавароржых і антыпартыйных элементаў, ад пранікнення подлых двурушнікаў.

Ад імя Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б, узначальваемага лепшым і стойкім бальшэвіком т. Гікало **(апладысменты),** я выказваю ўпэўненасць, што вы, рабселькоры, вы, камандзіры грамадскай пролетарскай думкі, яшчэ цясней згуртуецеся вакол Цэнтральнага Камітэта нашай вялікай большэвіцкай партыі і вялікага правадыра сусветнага пролетарыята тав. Сталіна. **(Апладысменты).**

Я выказваю ўпэўненасць, што вы з яшчэ большай рашучасцю і самаадданасцю будзеце змагацца за давядзенне справы наступлення комунізма да поўнага і канчатковага знішчэння класава-варожых сіл і выкаранення іх контррэволюцыйных спроб.

Найвялікшы вучань Маркса—Леніна — тав. Сталін магутным пражэктарам асвяціў рабочаму класу і мільённым масам калгаснікаў далейшы шлях да комунізма. У гэтым наша шчасце, у гэтым наша гордасць, у гэтым запука таго, што мы пераможам ва ўсім свеце. З дня ў дзень тав. Сталін аддае ўсе сілы свайго геніяльнага розуму, усю палкасць свайго сэрца на барацьбу за вызваленне працоўных, за канчатковую іх перамогу.

Няхай жыве большэвіцкі друк — самая магутная, моцная і вострая зброя нашай большэвіцкай партыі! **(Апладысменты).**

Няхай жыве вялікая комуністычная партыя і яе Цэнтральны Камітэт! **(Апладысменты).**

Няхай жыве вялікі арганізатар і натхніцель нашых перамог—вялікі, мудры, любімы наш правадыр, наш настаўнік і друг таварыш Сталін!

**(Бурныя апладысменты, усе ўстаюць, аркестр выконвае «Інтэрнацыянал»).**

# Адозва III Усебеларускага з'езда рабселькораў

## да ўсіх рабселькораў Савецкай Беларусі!

Дарагія таварышы! Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі большэвікоў і геніяльнага правадыра народаў вялікага Совецкага Саюза і працоўных усяго свету таварыша Сталіна наша соцыялістычная радзіма — СССР дасягнула грандыёзных сусветна-гістарычнага значэння перамог у будаўніцтве соцыялізма.

Совецкая Беларусь — несакрушальны соцыялістычны фарпост на заходнім рубяжы з капіталістычным светам, неадрыўная і неадлучная частка СССР — ператворана ў рэспубліку развітай індустрыі, у рэспубліку высокай соцыялістычнай культуры.

Калгасны лад у БССР, як і ва ўсім Совецкім Саюзе, перамог канчаткова і беспаваротна. Ліквідавана ў асноўным кулацтва як клас. Індустрыя БССР стала вядучай галіной ва ўсёй народнай гаспадарцы.

Грамадская ўласнасць перамагла ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, у горадзе і ў вёсцы. Соцыялістычны ўклад стаў «непадзельна пануючай і адзіна камандуючай сілай ва ўсёй народнай гаспадарцы». Пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна асноўны завет Леніна выкананы — **«Расія нэпаўская стала Расіяй соцыялістычнай».**

Гэтыя сусветна-гістарычныя перамогі дасягнуты ў абвостранай класавай барацьбе з ворагамі пролетарыята, у непрымірымай барацьбе з правымі і «левымі» апартуністамі, з контррэволюцыйным троцкізмам, з права-«левацкімі» выродкамі.

Класавы вораг разбіты, ізаляваны, але ён, поўны шалёнай нянавісці, карыстаецца любой зброяй. Злодзейскі белагвардзейска-фашысцкі стрэл у Сергея Міронавіча Кірава гаворыць аб тым, што агідныя астаткі паміраючых класаў, подлыя падонкі двурушніцкай зіноўеўска-троцкісцкай контррэволюцыйнай групы, найміты контрразведак імперыялістычных дзяржаў прабавалі павярнуць назад кола гісторыі. Безнадзейнай аказалася гэта спроба! На галаву подлых здраднікаў соцыялістычнай радзімы паў знішчаючы меч пролетарскай дыктатуры.

Рабочы клас і працоўнае сялянства БССР пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б), ЦК КП(б)Б і ўрада БССР разграмілі контррэволюцыйны беларускі нацыянал-дэмакратызм, кулацка-нацыяналістычныя элементы, якія сваю дзейнасць накіроўвалі на адрыў БССР ад Совецкага Саюза, імкнуліся сарваць пераможны рух соцыялізма.

Таварышы рабселькоры! Ні малейшай супакоенасці! Вышэй рэволюцыйную пільнасць, непрымірымасць і бязлітаснасць у барацьбе за канчатковае выкараненне астаткаў паміраючых класаў і іх контррэволюцыйнай агентуры.

Вораг рыхтуецца да контррэволюцыйнай вайны супроць Совецкага Саюза, вораг працягвае рукі да совецкай свяшчэннай і падатлівай зямлі. У адказ на гэта мы, рабселькоры, бязмежна адданыя нашай вялікай соцыялістычнай радзіме, павінны дабіцца таго, каб кожны з нас стаў ударнікам абароннай работы, варашылаўскім стралком, прапагандыстам і арганізатарам асоавіяхімаўскай работы.

Ударнікі друку — рабселькоры, пад кіраўніцтвам КП(б)Б будзем і ў далейшым настойліва і рашуча праводзіць барацьбу з буржуазным беларускім нацыяналізмам, вялікадзяржаўным шавінізмам і шавінізмамі ўсіх масцей, будзем з усёй бязлітаснасцю выкарчоўваць подлыя падонкі троцкісцка - зіноўеўскай контррэволюцыйнай групы, будзем і ў далейшым нястомна працаваць пад кіраўніцтвам нашай большэвіцкай партыі над ператварэннем совецкай індустрыяльна-калгаснай Беларусі — неадрыўнай часткі нашай вялікай соцыялістычнай радзімы СССР — у краіну соцыялістычнага багацця.

Рашэнні VII усесаюзнага з'езда советаў — баявая праграма работы друку і рабселькораў за канчатковую пабудову

бяскласавага соцыялістычнага грамадства ў нашай краіне. Будзем дастойнымі праваднікамі ў жыццё гэтых гістарычных рашэнняў.

## ЗА ВЫСОКУЮ ЯКАСЦЬ СЯЎБЫ

Таварышы рабселькоры! Высокая якасць сяўбы гэтага года павінна даць самы высокі ўраджай. Гэта патрабуе ад нас, па-першае, правядзення сяўбы ў найбольш скарочаныя тэрміны, па-другое, старанняй ачысткі і пратручвання насення, па-трэцяе, глыбокага ворыва зямлі, па-чацвертае, добрага высеву і старанняй заправкі насення, поўнага і рацыянальнага выкарыстання машын.

Сталінскі статут сельскагаспадарчай арцелі, выпрацаваны другім усесаюзным з'ездам калгаснікаў-ударнікаў і зацверджаны Соўнаркомам СССР і Цэнтральным Камітэтам ВКП(б), дае ў рукі ўсім калгаснікам магутнейшы сродак для ўзняцця ўсіх калгасаў да ўзроўню заможнага і культурнага жыцця.

Задача кожнага рабселькора-ўдарніка, калгасніка зараз заключаецца ў тым, каб змагацца за ажыццяўленне сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі, каб кожны калгас стаў большэвіцкім, а калгаснікі — заможнымі.

Галоўнае цяпер у барацьбе за атрыманне рэкорднага ўраджаю — гэта насенне. Неабходна зараз-жа ўсюды праверыць, ці гатова насенне. Патрэбна сапраўды адабраць для пасеву лепшае насенне, ачышчанае ад пустазелля, неадкладна закончыць правядзенне абмену гатункаў, праверку насення на ўсхожасць. Трэба забяспечыць найстражэйшую захаванасць насення ад раскрадвання і псавання. Прывесці ў поўную гатоўнасць інвентар (плугі, бораны, сявалкі, вупраж і т. д.). Правільна расставіць рабочую сілу ў пастаянных паляводчых брыгадах, забяспечыць поўнае выкарыстанне машын, трактароў, устанавіўшы ўзорнае іх утрыманне. Добра падрыхтаваць цягавую сілу — коней, валоў.

Мы павінны так працаваць у гэтым сельскагаспадарчым годзе, каб па тэмпах росту **вывесці сельскую гаспадарку на ўзровень тэмпаў росту нашай соцыялістычнай прамысловасці.**

Выключная ўвага павінна быць намі аддана пасеву ільну, канапель і пшаніцы. Пад гэтыя культуры адвядзём лепшыя папярэднікі!

Лён пасеем на канюшынішчах, цалінных землях і на добра ўгноеных бульбянішчах і жытнішчах, заараных восенню мінулага года. Каноплі засеем на старых канапляняшчах, сядзібных і прысядзібных участках, на добра высушаных тарфянішчах. Ранняя сяўба — зарука высокага ўраджаю, але яна павінна быць спалучана з высокаякаснай апрацоўкай глебы, глыбокім ворывам, культывацыяй цяжкіх і задзірванелых глеб, з высевам высокагатункованага насення. У 1935 годзе мы павінны атрымаць з кожнага гектара засеянага ільном, не менш трох цэнтнераў валакна, якасцю не ніжэй 10 нумара. Нянькі мы павінны атрымаць не менш 4,5 цэнтнера з гектара і першагатунковай якасці.

Трэба не толькі пасеяць лён у раннія тэрміны і на добра падрыхтаванай глебе, але і забяспечыць старанны догляд пасеваў, добрую праполку, не дапусціць ні малейшых страт ва ўборцы і першапачатковай апрацоўцы. Высокі ўраджай і высокая якасць валакна будуць толькі пры своечасовай і высокаякаснай праполцы пасеваў, пры церабленні ільну ў ранняй жоўтай спеласці, пры сартаванні сцяблоў па даўжыні і таўшчыні, пры выкарыстанні жнівеньскіх рос для вылежкі ільну на сцелішчах, пры бясспрэчным выкананні агранамічных правіл у часе сушкі, мяцця і трапання ільну.

**За лепшы ў свеце лён, за атрыманне рэкорднага ўраджаю на соцыялістычных палях Беларусі ў 1935 годзе — мы абвяшчаем усебеларускі паход імя тав. Гікало.** Мы заклікаем усіх рабселькораў, усіх калгаснікаў і калгасніц актыўна ўключыцца ў гэты паход.

Захаванне севазвароту — важнейшая ўмова павышэння ўраджайнасці. Таму трэба нам дапамагчы праўленням калгасаў правільна вызначыць брыгадныя ўчасткі ў палях севазвароту, замацаваўшы іх з брыгадай на ўвесь перыяд севазвароту. Своечасова і ў дастатковай колькасці вывезці на поле ўгнаенне.

Таварышы рабселькоры! За паспяховае большэвіцкае правядзенне пасеўнай

кампаніі гэтага года, за атрыманне рэкорднага ўраджаю мы павінны шырока разгарнуць сцяг сацыялістычнага спаборніцтва. **Арганізуем усебеларускі конкурс-паход рабселькораў і ўсяго друку на лепшую падрыхтоўку і правядзенне веснавой сяўбы.** У паход за рэкордны ўраджай уключым усе прадпрыемствы, соўгасы і калгасы.

**Шырока разгорнем сацыялістычнае спаборніцтва прадпрыемстваў і калгасаў, рабочых і калгаснікаў за высокую якасць работы, за ператварэнне БССР у краіну багацця, у краіну мноства высокаякасных і танных прадуктаў прамысловасці і сельскай гаспадаркі.**

У барацьбе за паспяховае, высокаякаснае правядзенне веснавой сяўбы забяспечым штодзённы выхад насценнай газеты ў кожнай калгаснай брыгадзе. **Арганізуем сацыялістычнае спаборніцтва калгасных і брыгадных насценгазет.**

Пашырэнне вопыта, укараненне агразоатэхнікі ў калгасную гаспадарку ставіць перад намі задачу — арганізаваць у кожным калгасе хату-лабараторыю. Ініцыятарамі гэтай справы павінны быць рабселькоры.

Пакажам, таварышы рабселькоры, узор большэвіцкага выканання сталінскага статута — закона пабудовы культурнага і заможнага жыцця ў кожным калгасе.

Шырока растлумачым працоўным аднаасоўнікам сталінскі статут сельскагаспадарчай арцелі і даб'емся новага прыліву ў калгасы.

Будзем ударнікамі большэвіцкай сяўбы трэцяга года другой пяцігодкі, будзем ударнікамі ў паходзе імя тав. **Гікало** за лепшы ў свеце лён!

## БОЛЬШЭВІЦКІМІ ТЭМПАМІ РУШЫМ НАПЕРАД СПРАВУ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ЖЫВЕЛАГАДОЎЛІ

Таварышы рабселькоры! На XVII з'ездзе партыі таварыш Сталін сказаў: «Справу жывёлагадоўлі павінны ўзяць у свае рукі ўся партыя, усе нашы работнікі, партыйныя і беспартыйныя, маючы на ўвазе, што праблема жывёлагадоўлі з'яўляецца цяпер такой-жа першачарговай праблемай, якой была ўчора ўжо вырашаная з поспехам праблема зерневая».

1935 год павінен стаць годам шпаркага росту пагалоўя ўсіх відаў жывёлы і першым годам росту пагалоўя коней.

Таму кожны рабселькор-ударнік павінен быць актыўным і адданым памочнікам партыйнай арганізацыі ў справе выканання рашэнняў VII усесаюзнага і XI усебеларускага з'ездаў советаў аб развіцці жывёлагадоўлі.

Трэба рашуча палепшыць справу загатоўкі кармоў і асабліва пасьбішчную гаспадарку.

Узяць пад асобы кантроль стварэнне магутнай кармовай базы, здабывання, захавання і выдаткавання кармоў.

Дабіцца ўкаранення ў практыку ферм вышэйшай жывёлагадоўчай тэхнікі, захавання ветэрынарных і зоатэхнічных правіл, укаранення ва ўсіх без выключэння фермах чоткай арганізацыі працы на аснове здзельшчыны, шырокага прымянення натуральнага прэміравання маладнякам калгаснікаў-жывёлаводаў за добрыя ўзоры работы.

Дабіцца на працягу 1935 года поўнай ліквідацыі бескароўнасці калгаснікаў.

Узяць пад асабліва пільны кантроль поўнае вырошчванне маладняка авечак і коней.

Дабіцца, каб 1935 год стаў пераломным у развіцці конегадоўлі і вырошчванні рабочых валоў.

Галоўная ўвага рабселькораў павінна быць накіравана на палепшэнне стада і ўзняцце прадукцыйнасці жывёлы — важнейшай умовы ўздыму ўсёй жывёлагадоўлі.

Справай гонару і абавязкам кожнага рабселькора-ўдарніка з'яўляецца барацьба за паспяховае выкананне ўстаноўленага ўрадам плана развіцця жывёлагадоўлі.

Рабселькоры, будзьце нястомнымі барацьбітамі **за выкананне дзяржаўнага плана — магутнага сродку ўздыму жывёлагадоўлі.**

Таварышы рабселькоры, дабіцеся каб на кожнай калгаснай таварнай ферме была штодзённая насценгазета. **Аргані-**

**зуем усебеларускае спаборніцтва насценных калгасных, брыгадных і соўгасных газет на лепшае ажыццяўленне задач, пастаўленых партыяй па развіццю жывёлагадоўлі.**

## ЗА ГОНАР СВАИГО ПРАДПРЫЕМСТВА, ЗА СЛАВУ ФАБРЫЧНАИ МАРКІ

**Таварышы рабкоры прамысловасці!** Своечасовае выкананне плана другой пяцігодкі як па колькасных, так і па якасных паказальніках у прамысловасці — першачарговая задача ўсіх рабкораў.

Асаблівую ўвагу мы павінны аддаць справе пашырэння і паляпшэння работы лёгкай прамысловасці.

Прадукцыя нашых прадпрыемстваў павінна быць высокаякаснай, моцнай і прыгожай.

Фабрычная марка прадпрыемстваў павінна таварыць спажыўцу аб культурнай рабоце прамысловасці.

Будзем з усёй большэвіцкай упорнасцю змагацца за ўзняцце ва многа раз якасці прадукцыі нашай лёгкай і харчовай прамысловасці, за сур'ёзнае ўзняцце прадукцыйнасці працы і зніжэнне сабекошту.

Кожны рабкор павінен ведаць, што выкананне плана 1935 года азначае новы і важны крок наперад па шляху выканання аднаго з асноўных заданняў пяцігодкі — паскоранага развіцця сродкаў спажывання з тым, каб забяспечыць павелічэнне спажывання ў 2-3 разы.

У 1935 годзе мы павінны працаваць так, каб БССР па выкананню плана вышла ў рады самых перадавых рэспублік і абласцей СССР.

На аснове практычнага ажыццяўлення ўказання тав. Сталіна аб тым, **«што галоўнае цяпер — у людзях, аўладаўшых тэхнікай»**, будзем змагацца за тое, каб 1-га мая сустрэць пераатваргэннем нашых прадпрыемстваў у прадпрыемствы суцэльнай тэхнічнай граматнасці. **Кожны рабкор — зотавец.** Кожны рабкор павінен здаць на «выдатна» дзяржтэхэкзамен!

Таварышы рабкоры, мабілізуем усе сілы, прывядзем у рух усе вагары, каб пад кіраўніцтвам нашай комуністычнай партыі паспяхова выканаць промфінплан прамысловасці як бягучага года, так і другой пяцігодкі ў цэлым.

## ПЕРАТВОРЫМ ТРАНСПАРТ У ПЕРАДАВУЮ ГАЛІНУ НАРОДНАИ ГАСПАДАРКІ

**Рабкоры чыгуначнага транспарта!** 1935 год павінен быць годам сапраўднага пералому ў рабоце чыгуначнага транспарта.

На аснове ажыццяўлення гістарычных рашэнняў VII з'езда советаў з новай сілай разгорнем спаборніцтва стаханаўцаў за ўкараненне перадавых метадаў работы, для забеспячэння карэннага паляпшэння работы транспарта ў бягучым годзе.

Кожны рабкор чыгункі павінен быць зотаўцам, работнікам вышэйшага класа. Кожны рабкор-чыгуначнік павінен здаць дзяржаўны экзамен на «выдатна».

Рабкоры-чыгуначнікі! Будзьце актыўнымі праваднікамі рашэнняў партыі і ўрада аб транспарце.

Вышэй сцяг соцспаборніцтва на лепшы вузел, лепшую станцыю!

**Таварышы рабкоры прамысловасці і чыгункі, арганізуем усебеларускі паход за выкананне промтрансфінплана, за ўзорную работу на вытворчасці, за аўладанне тэхнікай, за ператварэнне чыгуначнага транспарта ў перадавую, узорную галіну народнай гаспадаркі.**

**
*

На паспяховае ажыццяўленне ўсіх намечаных мерапрыемстваў мы выклікаем на соцыялістычнае спаборніцтва рабсялькораў спаборнічаючай з БССР Заходняй вобласцю.

Рабселькоры! Арганізацыя і правядзенне ўсебеларускага конкурса-паходу за рэкордны ўраджай, арганізацыя соцыялістычнага спаборніцтва на лепшую работу соўгасаў, калгасаў, прадпрыемстваў і транспарта — усё гэта патрабуе вялікай аператыўнасці ў рабоце друку. **Справа гонару кожнага рабселькора, калгаса, МТС, соўгаса, прадпрыемства — быць пераможцам у спаборніцтве.** Задача кожнага рабселькора сістэматычна паказваць на старонках друку лепшых ударнікаў і ўдарніц нашай гераічнай соцыялістычнай будоўлі.

Таварышы рабселькоры! XV з'езд КП(б)Б, кіруючыся ўказаннем тав. Л. М. Кагановіча, падкрэсліў, што **«няма больш ганаровай задачы для большэвіка, чым барацьба за паляпшэнне матэ-**

**рыяльнага ўзроўню рабочых».** Мы павінны так пабудаваць работу друку і рабселькораў у справе масавага кантролю, каб рашуча выкрываць у практыцы работы мясцовых органаў праяўленні бяздушных, саноўна-панскіх, бюракратычных адносін да патрэб і запросаў працоўных мас, спробы падмяніць упорную дзелавую работу славеснай дэкларатыўнасцю. Работа друку і рабселькораў, пад непасрэдным кіраўніцтвам парторганізацыі, павінна ісці пад знакам яшчэ большага разгортвання большэвіцкай самакрытыкі і масавага кантролю знізу, на аснове хуткага рэагавання на пісьмы працоўных і сігналы рабселькораў.

Адной з асноўных палітычных задач у другой пяцігодцы з'яўляецца пераадоленне перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей. Аўладанне рэвалюцыйнай тэорыяй Маркса - Энгельса-Леніна-Сталіна, глыбокае вывучэнне гісторыі нашай комуністычнай партыі большэвікоў, штодзённае вывучэнне матэрыялаў, змяшчаемых у «Праўдзе», аўладанне вышынямі соцыялістычнай культуры —у гэтым цяпер цэнтр цяжару палітычнай і ідэйна-выхаваўчай работы сярод рабселькораў.

Рабселькор павінен павышаць і сваю агульную граматнасць. У гэтай справе нам аказвае вялікую дапамогу «Крестьянская газета» арганізацыяй завочнага навучання рэдактароў брыгадных і калгасных газет. Задача кожнага рабселькора—быць ударнікам вучобы.

Вучыцца, вучыцца і вучыцца—баявая задача кожнага рабселькора.

Таварышы рабселькоры! Шырэй разгорнем паход за культуру ў вытворчасці, у быту рабочага, калгасніка, за культурную рабочую кватэру, хату і двор калгасніка, за аўладанне мастацкай літаратурай. Шырэй разгорнем соцспаборніцтва насценгазет і рабселькораў на лепшую арганізацыю і правядзенне культурнага паходу.

Рабселькоры! Пад кіраўніцтвам нашай большэвіцкай партыі панясем у шырокія масы працоўных рашэнні VII з'езда советаў, якія адкрываюць сабой новую эпоху совецкай дэмакратыі, эпоху далейшага ўмацавання дыктатуры пролетарыята і далейшага небывалага росквіту нашай радзімы.

**Няхай жыве тварэц і кіраўнік большэвіцкага друку і рабселькораўскага руху — усесаюзная комуністычная партыя большэвікоў!**

**Няхай жыве натхніцель рабселькораўскага руху і большэвіцкага друку, зодчы соцыялістычнага грамадства—наш вялікі Сталін!**

**Няхай жыве кіраўнік рабселькораўскага руху Совецкай Беларусі — Цэнтральны Камітэт КП(б)Б на чале з лепшым сталінцам — тав. Гікало!**

**— Няхай жыве перамога соцыялізма ва ўсім свеце!**

# ПРЫВІТАННІ З'ЕЗДА

## *ЦК ВКП(б)—ТАВ. СТАЛІНУ*

**Дарагі і горача любімы Іосіф Вісарыёнавіч!**

Першая мысль і першае слова наша, ударнікаў большэвіцкага друку, удзельнікаў III усебеларускага з'езда рабселькораў, накіроўваюцца к табе — вялікаму правадыру ўсіх працоўных Совецкага Саюза і прыгнечаных усяго свету, к табе — мудраму і празорліваму кіраўніку, вядучаму вялікую краіну Советаў ад перамогі да перамогі.

Цэнтральны Камітэт Комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі сабраў нас, рабселькораў, для вывучэння і абмеркавання вынікаў VII усесаюзнага з'езда советаў і II з'езда калгаснікаў-ударнікаў, у рашэннях якіх увасоблены вялікія сталінскія задачы работы ўсёй краіны, большэвіцкага друку і арміі рабселькораў. Гэтыя рашэнні будуць праграмай і сцягам нашай далейшай барацьбы, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, за ажыццяўленне задач другой пяцігодкі, пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Контррэволюцыйныя паследкі антысовецкай зіноўеўскай групы, якія самкнуліся з белагвардзейшчынай і фашыстамі, вырвалі з нашых радоў любімца ўсёй партыі і працоўных, аднаго з лепшых ленінцаў, друга і саратніка таварыша Сталіна—Сергея Міронавіча Кірава. У адказ на гэты гнусны стрэл працоўныя Совецкай Беларусі яшчэ цясней згуртаваліся

вакол цябе, наш родны вялікі Сталін, вакол сталінскага ЦК, вакол большэвіцкай партыі, з жалезнай рашымасцю бязлітасна і да канца выкарчаваць астаткі класавага ворага, якія прабуюць ў бяссільнай злобе затармазіць наш пераможны рух да соцыялізма.

Ад імя 50-тысячнай арміі камандзіраў пролетарскай грамадскай думкі Совецкай Беларусі клянемся, што мы гатовы па першаму клічу партыі і ўрада са зброяй у руках абараняць нашу кроўную справу соцыялістычнага будаўніцтва, за якую мы беззаветна змагаліся, змагаемся і будзем змагацца ў інтарэсах працоўных і прыгнечаных усяго свету.

Няхай жыве наша большэвіцкая партыя!

Няхай жыве сталінскі ЦК!

Няхай жыве наш родны, наш любімы вялікі Сталін!

## ЦО „ПРАВДЕ“

Цэнтральнаму органу — нашай роднай і любімай ленінскай «Правде» ад рабселькораў Беларусі палкае большэвіцкае прывітанне.

Сабраўшыся з усіх куткоў нашай пагранічнай квітнеючай совецкай рэспублікі на свой з'езд, мы падводзім вынікі нашай барацьбы на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва і вызначаем практычныя мерапрыемствы па рэалізацыі рашэнняў партыі і ўказанняў вялікага Сталіна.

Ва ўсім нашым кіпучым жыцці мы штодзенна адчуваем кіраўніцтва і клопаты любімай «Правды» аб арміі камандзіраў пролетарскай думкі.

«Правда» для нас з'яўляецца ўзорам таго, як трэба змагацца за генеральную лінію партыі, за ленінскую нацыянальную палітыку. Заўсёды, у гады царскага падполля, у гады грамадзянскай вайны, у гады мірнага будаўніцтва, у гады разгорнутага наступлення соцыялізма па ўсяму фронту, «Правда» высока несла сцяг марксізма-ленінізма, рашуча з уласцівай ёй большэвіцкай непрымірымасцю змагалася з контррэволюцыйным троцкізмам, з правым апартунізмам, з «левацкімі» загібамі, з усякага роду адхіленнямі ад ленінскай нацыянальнай палітыкі.

На баявых традыцыях ленінскай «Правды» расце і загартоўваецца армія рабселькораў.

«Правда» была, ёсць і будзе непераможным барацьбітом за пабудову соцыялізма ў СССР. «Правда» ўзор, як большэвіцкая газета робіцца мільёнамі працоўных, актыўных будаўнікоў бяскласавага соцыялістычнага грамадства. «Правда» з'яўляецца найвялікшым арганізатарам інтэрнацыянальнага выхавання шырокіх працоўных мас. Недарма, на ўдарных прадпрыемствах, калгасах і соўгасах змагаюцца за сцяг «Правды», як за сімвал славы, доблесці і геройства. Сваім асабістым прыкладам на рабоце, агнём большэвіцкай непрымірымасці і самакрытыкі мы і ў далейшым, следуючы слаўным традыцыям «Правды», будзем вернымі памочнікамі партыі ў барацьбе за перамогу справы Леніна—Сталіна, у барацьбе супроць контррэволюцыянераў, двурушнікаў, здраднікаў інтарэсам працоўных.

Не шкадуючы сваіх сіл, будзем змагацца за выкананне вытворчых планаў на прадпрыемствах і калгасных палях, будзем выкрываць і знішчаць усё тое, што перашкаджае нашай вялікай соцыялістычнай будоўлі.

Няхай жыве наша родная большэвіцкая «Правда»!

Няхай жыве ЦК ВКП(б) і правадыр партыі і працоўных усяго свету таварыш Сталін!

## ЦК КП(б)Б—ТАВ. ГІКАЛО

Арганізатару і кіраўніку нашага большэвіцкага друку БССР—ЦК КП(б)Б ад арміі рабселькораў III усебеларускі рабселькораўскі з'езд шле палкае большэвіцкае прывітанне.

Пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта на чале з лепшым сталінцам тав. ГІКАЛО, ажыццяўляючы ўказанні нашага любімага вялікага СТАЛІНА, БССР дасягнула выключна вялікіх поспехаў. Совецкая Беларусь стала квітнеючай рэспублікай вялікага СССР. Нашы поспехі ёсць рэзультат трыумфа генеральнай лініі партыі, трыумфа ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Нашы поспехі ёсць рэзультат упорнай барацьбы супроць класавага ворага і яго агентуры. У барацьбе з усякага роду адхіленнямі ад лініі партыі, ад ле-

нінскай нацыянальнай палітыкі расла, ўмацоўвалася і загартоўвалася армія рабселькораў і ўся большэвіцкая прэса.

Мы бязмежна шчаслівы, што жывем і працуем у эпоху вялікага Сталіна, у эпоху найвялікшага эканамічнага і культурнага росту нашай краіны. Мы бязмежна шчаслівы тым, што нас вядзе ад перамогі да перамогі вялікі Сталін, арганізатар і натхніцель соцыялістычнага будаўніцтва.

Мы бязмежна шчаслівы тым, што наша партыя стварыла такі друк, які з'яўляецца сапраўдным агітатарам, прапагандыстам і арганізатарам мас у барацьбе за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Мы, дэлегаты III з'езда рабселькораў ад імя ўсёй рабселькораўскай арміі клянемся Цэнтральнаму Камітэту КП(б)Б яшчэ больш павысіць класавую пільнасць, яшчэ больш рашуча змагацца за выкарчоўванне астатнаў разгромленага класавага ворага і яго агентуры.

Мы клянемся яшчэ вострэй адтачыць нашае пяро, каб яшчэ мацней паражаць класавага ворага і яго агентуру. Мы клянемся напружыць усе сілы для паспяховага завяршэння задач другой пяцігодкі, пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Мы клянемся, што па першаму закліку нашай партыі і ўрада аддамо ўсё, а калі патрэбуецца і жыццё, для абароны нашай соцыялістычнай радзімы.

Няхай жыве наша любімая комуністычная партыя і вялікі правадыр усіх працоўных таварыш Сталін!

Няхай жыве наш большэвіцкі друк і яго рабселькоры!

Няхай жыве КП(б)Б на чале з лепшым сталінцам таварышам Гікало!

## ПРЫВІТАННЕ III УСЕБЕЛАРУСКАМУ З'ЕЗДУ РАБСЕЛЬКОРАЎ АД ПРАЦОЎНЫХ З ЗАГРАНІЦЫ


British Labour Esperanto Association

SEKCIO F. P. E.

FRANCIO

PROLETA ESPERANTISTA FEDERACIO

Internaciisto

ШВЕЦЫЯ (Савадален).

Усебеларускаму з'езду рабселькораў — гарачае баявое прывітанне з горада Савадалена!

Няхай жыве эсперанта, як інтэрнацыянальная зброя для рабочай і сялянскай перапіскі. СЛЕДУЕ 28 ПОДПІСАЎ.

ЧЭХАСЛАВАКІЯ.

Дарагія таварышы! Вашаму з'езду рабселькораў, які адкрыўся 25 лютага, пасылаю шчырае прывітанне і жадаю поспехаў у вашай рабоце.

З ТАВАРЫСКІМ ПРЫВІТАННЕМ
Р. ВЕЙНЕР.

**ФРАНЦЫЯ.**

**Дарагія таварышы! Нядаўна мы даведаліся пра беларускі з'езд рабселькораў у Менску. Вітаем і жадаем поўнага поспеху вашаму з'езду. Ён яшчэ мацней узброіць вас на гэтай арэне. Ён яшчэ больш расшырыць шлях для падтрымання сусветнага пролетарыята і яго рэволюцыйнай барацьбы.**

**Якраз у гэты момант мы павінны як ніколі ўмацоўваць інтэрнацыянальныя адносіны сярод рабочых. Лёс іспанскага пролетарыята вельмі цікавіць нас. Делемежыце маральна інтэрнацыянальнаму рабочаму класу, які вядзе барацьбу з фашызмам і вайной. Перамога над капіталізмам адбудзецца пры аб'яднанні ўсіх супроцькапіталістычных сіл.**

**Для вас, дарагія таварышы, мы жадаем поўнага поспеху і пасылаем вам, дэлегатам з'езда, ад імя французскага пролетарскага эсперанцкага камітэта Паўночнай вобласці чырвона-брацкае прывітанне.**



*ДЭЛЕГАТЫ З'ЕЗДА*

# МАЕ БЛІЖЭЙШЫЯ ЗАДАЧЫ

**Гутарка з рэдактарам газеты «Чырвоная акулярніца» тав. Піруцінай—дэлегатам ІІІ усебеларускага з'езда рабселькораў.**

ІІІ усебеларускі з'езд рабселькораў даў мне вельмі многа карысці.

У маім блок-ноце запісан рад вельмі цікавых і каштоўных думак, выказаных у асобных выступленнях рэдактароў фабрычна-заводскіх газет і рабкораў.

На секцыі па прамысловасці намеснік наркома мясцовай прамысловасці тав. **Свірыдаў** вызначыў нашы задачы ў барацьбе за якасць прадукцыі.

Наша газета і да гэтага часу ўзнімала рад вытворчых пытанняў. Нямала мы пісалі аб тэхпромфінплане, тэхнічнай вучобе, якасці прадукцыі. Але зараз, на з'ездзе мне стала ясна, што мы яшчэ вельмі слаба і нямэтаімкнёна падымалі гэтыя пытанні на старонках газеты.

Наша фабрыка атрымала вельмі важнае заданне для авіяпрамысловасці. Асвоіць усе працэсы работы па гэтаму заданню—вельмі ганаровая справа. Як толькі прыеду на фабрыку, падыму на старонках газеты пытанне аб якасці работы. Па прыкладу газеты **«Профінтэрнавец»** правядзем заводскую канферэнцыю майстроў, брыгадзіраў, інжынераў, тэхнікаў і рабочых-ударнікаў па пытаннях якасці. Рэалізацыю каштоўных заўваг і прапаноў мы зробім праграмай нашай штодзеннай работы па паляпшэнню якасці выпускаемай прадукцыі.

Па вопыту газет завода імя Варашылава і фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» мы арганізуем выпуск тэхнічнай газеты, прыцягнем для гэтага інжынерна-тэхнічных работнікаў, зотаўцаў. Гэта безумоўна многа дасць для паляпшэння якасці нашай прадукцыі.

Для механічнай майстэрні падымем пытанне наконт грамадска-тэхнічных праектаў.

На секцыі і ў гутарцы з рэдактарамі фабрычна-заводскіх газет я вельмі цікавілася пытаннем барацьбы газет за мабілізацыю ўнутраных рэсурсаў. Пытанне гэта вельмі важнае. У нас на фабрыцы мы практычна сустракаемся з такімі фактамі. Для работы нам патрэбен крокус, гэта вельмі дэфіцытны прадукт. З-за адсутнасці крокуса бываюць прастоі. Між іншым, крокус можа быць другі раз выкарыстан для работы пры дадатковай апрацоўцы і мыцці яго. Такая апрацоўка можа быць арганізавана на фабрыцы. Над гэтым наша газета не думала і пытання аб выкарыстанні апрацаванага крокуса не падымала. Зараз я думаю узняць гэта пытанне на прынцыповую вышыню. Наша газета павінна стаць ініцыятарам гэтай справы і дабіцца выкарыстання адыходаў крокуса. Гэтым самым папярэдзіць прастоі і зрывы работы.

Не менш важнымі зараз для нашай газеты з'яўляюцца пытанні тэматыкі.

У спрэчках на з'ездзе з асаблівай рэзкасцю падкрэслілі пытанне аб пашырэнні тэматыкі. І сапраўды, калі паглядзім на старонкі «Чырвонай акулярніцы»,

дык бачым, што яны прысвечаны н вялікаму кругу пытанняў. Вытворчае жыццё, работа паасобных цэхаў, брыгад, заметкі аб розных непаладках, пытанні бытавога абслугоўвання рабочых—вось пералік пытанняў, асвятляемых нашай газетай.

Задачы, пастаўленыя перад нашым друкам на з'ездзе рабселькораў, патрабуюць рашучага паляпшэння ў пастаноўцы гэтых пытанняў, але адначасова патрабуюць і пашырэння тэматыкі.

Я думаю шырока паставіць на старонках газеты пытанні культурна-бытавога абслугоўвання рабочых. Пачаць, думаю, з таго, што пакажу на старонках газеты жывых людзей, іх рост і запросы. Думаю, што мне ўдасца завесці пастаянны куток у газеце аб знатных людзях фабрыкі.

Новы клуб—вялікае культурнае дасягненне на нашай фабрыцы. Але гэты клуб выкарыстоўваецца дрэнна. Рабочыя не наведваюць яго, ён мала чым прыцягвае рабочых і работніц. Работа самадзейных гурткоў у клубе пастаўлена дрэнна. Я думаю падняць гэта пытанне на старонках газеты. Завастру пытанне аб ролі клуба ў культурным і палітычным выхаванні рабочых, у паляпшэнні вытворчай работы. Бібліятэка пры клубе, самадзейныя гурткі—усё гэта павінна быць выкарыстана для далейшага культурнага росту рабочых фабрыкі.

Побач з пастаноўкай пытанняў работы клуба я думаю падняць пытанне аб выкарыстоўванні дня адпачынку. Да гэтага часу арганізацыі правільнага выкарыстання выхаднога дня ў нас не аддавалася належнай увагі.

Думаю, што наша газета зможа паставіць пытанне так, каб дні адпачынку былі выкарыстаны культурна, каб рабочыя адпачывалі па-сапраўднаму. Як гэта канкрэтна зрабіць — прыдзецца падрабязна распрацаваць у рэдакцыі.

Вельмі важная справа—арганізацыя чытання мастацкай літаратуры рабочым і работніцам фабрыкі. Лічу, што паставім гэту справу так: на старонках газеты выступім з рэцэнзіяй аб выбранай для чытання кнізе. Раскажам рабочым каротка змест кнігі, раскажам пра аўтара і пра тое, дзе і як можна дастаць рэкамендуемую кнігу і т. д. Пасля мы дамо некаторыя водгукі рабочых аб прачытанай кнізе, арганізуем дыскусію і т. д. Такім-жа метадам думаю арганізаваць прагляд кінокарцін, тэатральных пастановак.

Пры рэдакцыі газеты я абавязкова арганізую літаратурны гурток, арганізую выданне літаратурнай старонкі ў газеце.

Нарэшце аб інфармацыі. Газета наша не мае магчымасці выкарыстоўваць многа інфармацыі як унутранай, так і замежнай. Але пастараюся ўсё-ж арганізаваць справу так, каб у кожным нумары радкоў 50—60 выкарыстоўваць для інфармацыі «Па Совецкаму Саюзу і БССР», дзе ў маленькіх заметках па 4—5 радкоў адзначаць асноўныя падзеі ў нашай краіне.

Раз у дэкаду будзем змяшчаць інфармацыю на 100—120 радкоў па пытаннях міжнародных падзей.

Правядзенне гэтых мерапрыемстваў значна ажывіць тэматыку нашай газеты, зробіць яе больш цікавай і разнастайнай.

На секцыі і ў дакладзе тав. Коніка вельмі многа ўвагі аддана вучобе рабкораў і рэдактароў нізавых насценгазет. На нашай фабрыцы вучоба арганізавана, але не сістэматычная. У нас займаецца семінар, праграма якога разлічана на пяць заняткаў. Ясна, што гэта не можа задаволіць узрослыя запатрабаванні работнікаў нізавога друку і рабкораў.

Па прыездзе на фабрыку я пастаўлю на парткоме пытанне аб вучобе рэдактароў і рабкораў. У аснову заняткаў палкладзем праграму, змешчаную ў **«Бальшэвіцкім друку»**. Я разумею, што вучоба —аснова ўсёй нашай работы, без яе нямыслім далейшы поступ наперад.

Нарэшце, аб прапрацоўцы рашэнняў VII з'езда советаў СССР, XI усебеларускага з'езда советаў, II усесаюзнага з'езда калгаснікаў-ударнікаў і рашэнняў III усебеларускага з'езда рабселькораў. Гэтыя рашэнні—аснова нашай далейшай работы. Праз шматтыражку, праз нашы штодзенкі давядзем гэтыя рашэнні да шырокіх мас рабочых і калгаснікаў падшэфнага сельсовета.

Нашы рабкоры, я магу гэта ўпэўнена заявіць, будуць наперадзе ўзрастаючай актыўнасці мас, лепшымі барацьбітамі пад кіраўніцтвам нашай партыі за ажыццяўленне рашэнняў з'ездаў советаў і пастаноў III усебеларускага з'езда рабселькораў.

# Новыя песні спявае калгас

Пачалося з таго, што ў насценгазеце **«Калгасны ўдарнік»** з'явіўся артыкул, некалькі незвычайны па зместу. Называўся артыкул «За ўзорнасць і чыстату хат калгаснікаў». У артыкуле было напісана аб тым, што калгаснікі калгаса «Ленінскі шлях» жывуць непараўнальна лепш, чым раней, што працадзень цяпер важыць куды больш, чым у мінулыя гады, што большасць калгаснікаў «Ленінскага шляха» становяцца заможнымі.

Але ў артыкуле было напісана і аб другім. Газета пісала, што хаты калгаснікаў, якімі былі раней, такімі і асталіся, што ў многіх хатах яшчэ брудна, падлогу мыюць рэдка, сцены не белены, закураны.

Пытанне аб чыстаце калгаснай хаты насценгазетай было ўзнята ўпершыню, таму артыкул выклікаў жывую зацікаўленасць у калгаснікаў і калгасніц. Пайшлі па калгасу спрэчкі, размовы на тэму аб культуры і культурнасці. Большасць калгаснікаў і калгасніц згадзіліся з насценгазетай у тым, што жывуць яны яшчэ некультурна, што заможнаму калгасніку зусім не падабае жыць у бруднай закуранай хаце. Але знайшліся і праціўнікі.

Калгаснік Сідар **Шабейка** з жонкаю, напрыклад, наадрэз адмовіліся прывесці сваю хату ў культурны выгляд, спасылаючыся на тое, што пры малых дзецях, моў, нельга трымаць хату ў чыстаце. Таксама разважаў і калгаснік Сяргей Пілюкоў і некаторыя іншыя. Такіх набралася каля дзесятка.

Тым часам рэдкалегія насценгазеты і селькоры не сядзелі, склаўшы рукі. Было вырашана праз некалькі дзён правесці рэйд па праверцы хаты кожнага калгасніка. Аб рэйдзе шырока паведамілі калгаснікаў.

Расказваючы аб усіх гэтых падзеях, рэдактар насценгазеты «Калгасны ўдарнік» — дэлегат 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў тав. **Рудзько** Алесь адносіцца да іх, як да спраў даўно мінуўшых дзён, хоць прайшло з таго часу толькі некалькі месяцаў. Наступныя месяцы пасля першага выступлення насценгазеты ўнеслі вялікія змены ў жыццё калгаснікаў «Ленінскага шляха».

Рэйд селькораў рашуча пасунуў уперад паход за чыстую, культурную хату. Як толькі стала вядомым, што рыхтуецца рэйд, у хатах калгаснікаў закіпела работа. Жанчыны і дзяўчаты дзень і ноч былі на нагах. Вымыталі смецце, мылі падлогі, бялілі і ўпрыгожвалі сцены. Кожная сям'я імкнулася як можна лепш, прыгажэй убраць хату, каб не сорамна было, калі прыдуць правяраць.

Настаў дзень рэйда. Рэдкалегія «Калгаснага ўдарніка» асабліва ўважліва падыйшла да падбору рэйдавай брыгады.

— Правяраць чыстату і культурнасць калгаснай хаты — гэта адказная справа, — гаворыць тав. Рудзько, — яе трэба даручаць самым лепшым калгаснікам і калгасніцам, якія самі паказваюць прыклад барацьбы за культурнае жыццё.

Так і зрабілі селькоры калгаса «Ленінскі шлях». Перпай вылучылі ў праверачную брыгаду калгасніцу-ўдарніцу Зою **Латушкіну** — у яе ў хаце ўзорная чыстата і парадак. Аб гэтым ведаюць усе ў калгасе. Увайшлі ў брыгаду і калгаснік Даніла **Пілюкоў** і настаўніца **Міранович**. Узначальваў брыгаду т. Рудзько.

— У большасці хат нас чакалі і сустрэлі з радасцю, — расказвае далей т. Рудзько. — Сем'і калгаснікаў паказвалі нам усё тое новае, што яны завялі ў хаце за апошні час. Многіх хат мы непазнавалі, усюды мы бачылі чыстату, парадак. Не было ў хатах ранейшага награмаджэння рэчаў, кожная рэч знаходзілася на сваім месцы.

Брыгада абыходзіла ўсе хаты. Селькоры гутарылі з калгаснікамі аб тым, як яны думаюць яшчэ лепш упарадкаваць хату, якія рэчы набыць, давалі парады, дзе можна набыць патрэбныя рэчы.

Такім парадкам дайшлі да хаты Шыбейка Сідара. У хаце Шыбейка па-ранейшаму панавалі бруд і беспарадак. Брудныя, недагледжаныя дзеці. Закураныя сцены і на падлозе пласт гразі.

Сідарава жонка сустрэла быгаду, што называецца, у штыхі.

— Ходзяць тут, правяраюць, — крычала Сідарыха. — Не ваша справа правяраць, як я жыву. Абы я добра працавала ў калгасе. А аб чыстаце і парадку ў хаце, дык вось вазьміце папрабуй-

не трымаць чыстату пры малых дзецях.

— Мы ведалі,—гаворыць тав. Рудзько,—што гутарка і тлумачэнні тут не дапамогуць. Трэба было дзейнічаць неяк інакш. Тут-жа мы прынялі рашэнне і заявілі гаспадыні: «Ну што-ж, давайце папрабуем, глядзі, што-небудзь і выйдзе».

І брыгада селькораў правяла своеасаблівы суботнік па ачыстцы Шыбейкавай хаты. Насілі ваду, мылі і скрэблі падлогу, выграбалі смецце з падпечку, прыводзілі ў парадак печ. Гаспадар і гаспадыня спачатку стаялі ў баку і пасмейваліся. Потым раздумалі і пачалі дапамагаць селькорам. Работа пашла спарней. Праз пару гадзін хату нельга было пазнаць. Провады селькораў з хаты Шыбейка былі зусім іншымі, чым сустрэча. Сям'я дзякавала селькорам, гаспадыня абяцала трымаць хату ў чыстаце і запрасіла ўдзельнікаў брыгады наведаць яе хату праз некалькі дзён.

— Пасля гэтага выпадку я некалькі раз быў у т. Шыбейка, — гаворыць Алесь Рудзько, — гаспадыня цвёрда трымае сваё слова. Магу сказаць, што хата Шыбейка цяпер адна з найбольш чыстых, культурных хат у нашым калгасе.

З таго часу прайшло толькі некалькі месяцаў. Селькоры не спынялі сваёй барацьбы за чыстую, культурную хату. У насценгазеце «Калгасны ўдарнік» часта пісалася пра лепшых гаспадынь, якія ўзорна ўтрымліваюць свае хаты, перадаваўся іх вопыт. Газета пісала пра пабелку сцен, пра фіранкі, пра плявацельніцы. І вось рэзультаты. У пераважнай большасці хат цяпер падлогі мыюцца рэгулярна раз у тыдзень. Сцены пабелены ва ўсіх хатах, а ў некаторых хатах нават выклеены абоямі. Амаль у кожнай хаце з'явіліся фіранкі на вокнах. У хатах Другакова Пракопа і Ссалашэнь Сысоя ўжо з месяц назад з'явіліся плявацельніцы, а цяпер плявацельніцы ёсць у многіх хатах.

— Непараўнальна лепш сталі жыць нашы калгаснікі, — заяўляе далей тав. Рудзько. — Галоўнае ў тым, што калгаснікі зразумелі, што заможнае жыццё гэта не толькі багацце прадуктаў, а і культурная, чыстая хата, гэта павышэнне палітычнага і культурнага ўзроўню калгаснікаў і калгасніц. Тое, што з дапамогай селькораў ужо зроблена ў гэтым напрамку, гэта яшчэ толькі пачатак справы, але мы не спыняемся на поўдарозе і надалей адной з нашых галоўных задач будзе ўкараненне соцыялістычнай культуры, новых соцыялістычных адносін і звычак у калгасны быт.

Гутарка пераходзіць на пытанні палітычна-выхаваўчай і культурнай работы сярод калгаснікаў. І тут т. Рудзько прывёў многа цікавых і важных фактаў.

Па ініцыятыве селькора ў калгасе «Ленінскі шлях» створаны тры гурткі па чытцы мастацкай літаратуры. Гурток, якім кіруе тав. Рудзько, наведваюць 60 калгаснікаў і калгасніц. Прачыталі і абгаварылі «Поднятую целину», «Над ракою Арэсай», «Железный поток» і «Дрыгву». Зацікаўленасць велізарная. Калгаснікі і калгасніцы не толькі ўважліва слухаюць, але і актыўна абмяркоўваюць прачытанае.

Тав. Рудзько расказвае выпадак, які адбыўся ў калгасе нядаўна:

— Ёсць у нас калгаснік Макар Песта. У недалёкім мінулым Песту ведалі, як адпетага гультая і прагульшчыка. Сямейныя справы ў Песты былі не лепшымі: вечныя сваркі з жонкаю, якія даходзілі да боек. І вырашылі мы ўцягнуць яго ў гурток па чытцы мастацкай літаратуры. Спачатку ўпіраўся, але ўсё-ж аднойчы прышоў. Памятаю, чытаў тады я калгаснікам купалаўскую паэму «Над ракою Арэсай». Макар уважліва слухаў выдатную аповесць пра тое, як у мінулым цёмныя, забітыя сяляне Палесся праз калгас прышлі да лепшага светлага жыцця. Кончылі чытку і са свежымі ўражаннямі пачалі абмеркаванне. Вось тут калгаснікі і ўзяліся за Макара. Напомнілі яму і пра яго гультайства, і пра тое, што ў сям'і непаладкі. Калгаснікі ўказвалі Макару на вобразы з купалаўскай паэмы, у якіх адлюстраваны новыя соцыялістычныя ўзаемаадносіны паміж калгаснікамі і новыя адносіны да соцыялістычнай працы, якія стварае калгас. Макар Песта тут-жа прызнаў, што рабіў ён раней няправільна і абяцаў пачаць зусім іншае жыццё. Чыткі з таго часу наведвае акуратна. Для Макара адкрылся як-бы новы свет, ён з прагнасцю ловіць кожны новы вобраз, кожную новую думку з мастацкага твору. Не скажу, што Макар Песта ўжо цяпер стаў зусім новым чалавекам, але ён становіцца ім. Вось факты: на работу выходзіць аку-

ратна і працуе прыкладна, з жонкай стаў жыць у ладах.

Вакол насценгазеты групуюцца калгаснікі, пачынаюць пісаць вершы, частушкі, фельетоны. Лепшыя вершы і фельетоны змяшчаюцца ў насценгазеце ў спецыяльным «літаратурным кутку» і «кутку гумару». Сярод іх ёсць досыць трапныя.

Падамо к прыкладу вершаваны фельетон калгасніка Судніčэнка. У фельетоне апісан факт, меўшы месца на ферме. Загадчык фермы загадаў выдаваць каровам корм у залежнасці ад удойнасці кожнай каровы. І вось фельетон:

«Пілюкоў — загадчык фермы —
Дзіўны напісаў загад,
І яму хто служыць верна,
Той і сам не будзе рад.
Вось і пункт той пастановы —
Яго трэба адмяніць:
Перш ідуць даіць каровы,
А тады ўжо карміць.
А калі ў якой каровы
Малака зусім няма,
То гласіць і пастанова:
Не даць есці ёй дарма».

Так газета высмейвае галавацяпскі загад загадчыка фермы. Загад быў, зразумела, скасован адразу-ж пасля з'яўлення фельетона. і калгаснікі доўга пры сустрэчы з Пілюковым напявалі ўдалыя і вострыя вершы фельетона.

Весела і радасна жывуць калгаснікі «Ленінскага шляха». Вечарамі ў калгасным клубе ў перапынках заняткаў гуртгоў чуваць гучныя песні, грае гармонь, моладзь танцуе.

Але і песні калгаснікаў «Ленінскага шляха» зусім не падобны да песень мінулага, адлюстроўваўшых пакуту і нядолю. Калгаснікі «Ленінскага шляха» пяюць новыя песні і частушкі. Складаннем новых песень і частушак займаюцца пераважна селькоры. Нядаўна ў насценгазеце «Калгасны ўдарнік» з'явіліся наступныя частушкі, складзеныя селькорамі:

«На калгаснае на поле
Ідзе звяно ды за звяном.
Мы засеем усё поле
Добраякасным зярном.
Як хадзіла я заўчора
На чытанне кніжак ў клуб,
Кажа цётка мне Хадора:
Перастаў балець і зуб.
Як пасыпаўся гарох
Па беламу блюду...
Не любіла гультая
І любіць не буду.
На макушцы дзве кукушкі
А на кусце салавей.
У калгасе жыць вясёла 6
І работа йдзе спарней».

Усе з захапленнем чыталі гэтыя прыпеўкі і цяпер іх можна пачуць на любой вечарыне, у клубе, на сходах. Іх пяюць пад гармонь, пад балалайку.

Карысна і весела праходзіць вольны час калгаснікаў калгаса «Ленінскі шлях» І добрая селькораўская заметка, і селькораўскі рэйд за чыстату калгаснай хаты, і новыя песні і частушкі — усё гэта служыць адной вялікай мэце — выхаванню з калгаснікаў культурных і свядомых членаў бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

# БУДЗЕМ ПРАЦАВАЦЬ МНОГА ЛЕПШ, ЧЫМ ДА З'ЕЗДА

Задоўга да пачатку рабочага дня прыходзіў на работу рабочы **Гомельскай абутковай фабрыкі «Праца» т. Рубінштэйн.**

Шмат спраў яму трэба зрабіць сёння.

Трэба пагаварыць з таварышамі аб рабоце , аб заўважаных учора памылках пры кройцы, напісаць заметку ў газету аб няправільнай выдачы матэрыялаў, трэба высветліць заказычанасць па плацяжах за пазыку, выканаць заданне горсовета, членам якога Рубінштэйн з'яўляецца ўжо некалькі гадоў.

Такая безліч вялікіх і малых спраў прымушае як можна раней прыйсці на фабрыку, каб да работы вырашыць частку спраў. «Грамадская работа не павінна перашкаджаць вытворчай рабоце» — заяўляе т. Рубінштэйн — знатны чалавек абутковай прамысловасці.

— Актыўны ўдзел у рабоце газеты многа дапамог мне стаць знатным чалавекам — расказвае тав. Рубінштэйн.

— Праз газету я дабіваюся знішчэння недахопаў у рабоце, праз газету я асвятляю работу грамадскіх арганізацый. У большасці выпадкаў мае допісы дзейнічаюць добра, на іх рэагуюць. Работа паляпшаецца.

Якасць абутку залежыць ад таго, як кожны цэх выпрымлівае правіла ўстаноўленага стандарту. Адступленне ад гэтых правіл прыводзіць да браку, да паніжэння сортнасці.

Швэйны цэх фабрыкі даваў многа браку. Прычына была ў няправільнай строчцы і абрэзцы кантаў. Гэтыя працэсы не адпавядалі ўстаноўленаму стандарту.

Выявіў гэта тав. Рубінштэйн. У фабрычнай газеце аб гэтым з'явілася заметка. Газета моцна паставіла пытанне аб рабоце швэйнага цэха. І цяпер ненармальнасці ліквідаваны, на строчку і абрэзку кантаў пастаўлены лепшыя рабочыя, палепшыўся кантроль.

Тав. Рубінштэйн выявіў, што тавар для работы выдаваўся рознай сортнасці, ад чаго паніжалася якасць выпускаемай прадукцыі. Напісаў у газету. Газета дабілася ліквідацыі гэтых недахопаў.

З поспехам змагацца з недахопамі можа чалавек, які сам паказвае ўзоры добрасумленнай адданай работы. Гэта разумее тав. Рубінштэйн. Тав. Рубінштэйн не ведае зрываў у выкананні вытворчых заданняў. Ён выконвае іх датэрмінова і высокаякасна. Тав. Рубінштэйн высокакваліфікаваны закройшчык. За ўдарную работу многа раз прэміраваўся. Тысячы дэцыметраў матэрыялу з'эканомлена тав. Рубінштэйнам, за што ён таксама прэміраваўся. Былі такія месяцы, калі ён з'эканоміў па 3.400 дэцыметраў востпрадэфіцытнага тавару, захоўваючы яго для новых дзесяткаў пар абутку.

Вось чаму кожнае ўказанне т. Рубінштэйна, кожны напісаны ім допіс мае вялікую дзейснасць.

— Галоўнае, не адставаць ад жыцця, — гаворыць тав. Рубінштэйн,— вучыцца, ісці ўперад.

І ён шмат увагі аддае вучобе.

—Вучуся ў вячэрняй школе, — расказвае тав. Рубінштэйн. — Я ні адных заняткаў не прапусціў, паспяхова пераходзіў з адной групы ў другую. Заўсёды добра рыхтуюся да заняткаў. Для гэтага я выкарыстоўваю вячэрні час, калі вольны ад грамадскай работы. Усе вучэбныя заданні добрасумленна выконваю.

Вялікая грамадская работа, якую праводзіць т. Рубінштэйн, як член горсовета, рабкор фінударнік (за ўдарную работу па мабілізацыі сродкаў ён узнагароджан граматай Наркамфіна БССР і



**МІХАІЛ АДЫНЕЦ — дэлегат з'езда, загадчык жывёлагадоўчай фермы калгаса «Казбек», Глускага раёна.**

□ □ □ □ □

грашовай прэміяй), не перашкаджае яму штодзённа чытаць газеты, журналы, мастацкую літаратуру.

—Рэгулярна я чытаю «Палескую праўду», «Октябр», «Праўду» і журнал «Голос кожевника», — расказвае тав. Рубінштэйн.—Прачытаў за апошні час пекалькі твораў яўрэйскага пралетарскага паэта **Ізі Харыка** і інш.

За ўдарную работу, за актыўную рабкораўскую дзейнасць тав. Рубінштэйн быў выбран дэлегатам на III усебеларускі з'езд рабселькораў.

Новыя складаныя задачы паставіў перад рабселькорамі гэты з'езд. — Работы многа, але і сіл, і магчымасцей, і агромаднага жадання працаваць у нас таксама многа. Пад кіраўніцтвам партыі ўсе рабселькоры БССР, у тым ліку і я, як ударнік-рабкор, будзем працаваць многа лепш, чым да з'езда,—так сапэўніў нас т. Рубінштэйн, ад'язджаючы са з'езда.

Мы ўпэўнены, што сваё слова т. Рубінштэйн стрымае.

# Аляксей Осіпаў Сапега

У 1929 г. селькор Аляксей Осіпаў **Сапега** арганізаваў у Лёзненскім раёне калгас «Чырвоны Кастрычнік».

Кулацтва павяло шалёную барацьбу супроць арганізаванага калгаса. Прабраліся ў калгас, у яго праўленне, сталі расцягваць маемасць, давялі калгас да



**АЛЯКСЕЙ САПЕГА,** дэлегат III усебеларускага з'езда рабселькораў, старшыня калгаса «Чырвоны Кастрычнік»

○ ○

развалу. Палова сенажаці зазімавала няскошанай. У калгасе — расхлябанасць. Больш паловы калгаснікаў не выходзяць на работу. Кулачко агітуе за нявыхад на работу. Асабліва праявіў сябе ў гэтым напрамку кулак **Балак** Іван, які раней меў 60 дзесяцін зямлі. Па яго віне загінулі караньплоды з 4 га зямлі.

Такім быў калгас у 1930 годзе.

Тав. Сапегу выклікалі ў райком партыі і сказалі:

— Пакажы, што ты ўмееш не толькі арганізоўваць, а і ўмацоўваць калгасы, бярыся сам за кіраванне—і паслалі старшынёй калгаса.

— З чаго пачаць работу? — думае т. Сапега.

— Трэба ачысціць калгас ад кулакоў, падняць дысцыпліну, стварыць актыў, а ў гэтым лепшым памочнікам будзе газета.

— Трэба арганізаваць насценную газету.

Тав. Сапега сабраў актыў калгаснікаў, паставіў пытанне аб стварэнні калгаснай насценгазеты. Абмеркавалі склад рэдкалегіі і хутка ў калгасе рэгулярна пачала выходзіць насценная газета.

Газета пачынае бічаваць лодыраў, ускрывае, што прычына дрэннай работы ў тым, што ў калгасе абязлічка, няма здзельшчыны, няма працоўнай дысцыпліны.

Тав. Сапега рэагуе на сігналы газеты, наладжвае масавую работу сярод калгаснікаў, згуртоўвае вакол сябе актыў. Газета дапамагае выкрыць класава-варожых элементаў, якія развальваюць калгас. Кулакі-шкоднікі Балак Іван і іншыя выключаюцца з калгаса.

Ускрыўшы і знішчыўшы прычыны дрэннай работы, ачысціўшы калгас ад класава-варожых элементаў, шырока разгарнуўшы крытыку і самакрытыку, асабліва праз насценгазету, тав. Сапега дабіўся таго, што веснавую сяўбу 1932 года калгас ужо правёў добра, нядрэнна правёў і ўборку ўраджаю. 15 гаспадарак, выйшаўшых было з калгаса, вярнуліся назад у калгас, заявіўшы:

— З кулакамі, як Балак, мы не маглі быць у калгасе, цяпер-жа зусім іншая справа.

Пасля таго, як у калгасе «Чырвоны Кастрычнік» была наладжана работа, т. Сапега перакідваецца на работу загадчыкам вытворчага ўчастка Лёзненскай МТС, дзе ён наладжвае аператыўнае кіраўніцтва 11 калгасамі. Сапега кожны дзень бывае ў калгасах, канкрэтна кіруе імі.

Добра рыхтуюцца да веснавой сяўбы 1934 г. усе калгасы яго ўчастка. Адстае толькі калгас «Інтэрнацыянал». Гэты калгас праваліў пасеўную кампанію 1933 года, дрэнна скончыў 1933 гаспадарчы год.

Палітаддзел пасылае тав. Сапегу старшынёй калгаса «Інтэрнацыянал» з заданнем вывесці калгас з прарыву, вясну 1934 г. правесці па-бальшэвіцку.

Тав. Сапега пачаў сваю работу ў калгасе «Інтэрнацыянал» з таго, што вывучыў кожнага калгасніка, хадзіў да іх у хаты, вывучаў іх запатрабаванні, вы-

слухоўваў і ажыццяўляў іх прапановы. Ён стварыў у калгасе моцны актыў, на які і апіраўся ў сваёй рабоце. Ён дапамог настаўніку **Фогелю** арганізаваць насценную газету **«Калгасны прамень»**, якая і да гэтага часу з'яўляецца адной з лепшых газет у раёне.

Тав. Сапега рашуча стаў ачышчаць калгас ад гультаёў і раскрадвальнікаў калгаснай маемасці. Усе да яго ведалі, што калгаснік Канцоў Міхаіл крадзе калгаснае жыта і маемасць, але мер не прымалі, хоць многія калгаснікі, заявіўшы, што са злодзеем працаваць не будуць, вышлі з калгаса. Сапега рэзка паставіў пытанне пра Канцова і яму падобных, і яны былі вычышчаны з калгаса.

Правёўшы велізарную палітычна-масавую работу, ён дабіўся моцнай калгаснай дысцыпліны. Калгас узяўся за падрыхтоўку да сяўбы. Дрэннае насенне абмянілі на добрае, частку насення, якога не хапала, пазычылі ў суседніх калгасаў, частка насення была адпушчана, як дзяржаўная пазыка, калгас атрымаў крэдыты — усё гэта і забяспечыла тое, што самы адсталы ў раёне калгас «Інтэрнацыянал» добра правёў веснавую сяўбу, уборку, своечасова выканаў абавязкі перад дзяржавай. Калгас здаў дзяржаве 206 цэнтнераў ільнотрасты. Прычым уся траста была высокай якасці — турбінная. Ільноваламна было здана 22 цэнт.

Тав. Сапега яшчэ з восені ўзяўся за падрыхтоўку да веснавой сяўбы 1935 г. Засыпана, ачышчана і добра захоўваецца насенне. Прычым звернута асаблівая ўвага на насенне ільну. Процант усхожасці насення ільну — 98,8, аўса — 97,8 проц. Адрамантован увесь інвентар. Дабіўшыся гэтых поспехаў, Сапега вопыт сваёй работы праз раённую газету перадае ўсім калгасам. А перадаваць яму ёсць што. Вось некалькі прыкладаў.

У многіх калгасах колькасць інвентару не адпавядае колькасці коней. Тав. Сапега выступае ў раённай газеце з такой прапановай: калі ёсць у калгасе 80 коней, то трэба каб было столькі плугоў, калёс, баран і іншага інвентару, каб пры неабходнасці, у залежнасці ад становішча пагоды, на адной рабоце можна было скарыстаць усіх коней.

«А ў нас, — піша тав. Сапега, — бывае так, што калі няма магчымасці скародзіць, а можна толькі араць, дык частка коней гуляе, бо не хапае плугоў. Такога становішча ў калгасе «Інтэрнацыянал» няма, бо падрыхтавалі вялікі запас інвентару. Мы можам усіх коней запрэгчы ў плуг, або толькі ў бараны ці калёсы».

Праўленні многіх калгасаў лічаць недатыкальным фуражным фондам тыя кармы, якія падчас знаходзяцца ад брыгад і калгаса за дзесяткі кілометраў. Тав. Сапега арганізаваў справу так, што ў калгасе «Інтэрнацыянал» кармы ўжо зараз падвезены да канюшань.

— А калі падвозіць кармы ў часе веснавой сяўбы, калі калёсы па трубкі ў гразі, — пісаў ён у насценнай і раённай газетах, — то выводзяцца са строю не адна пара коней у гарачую веснавую пару.

Калгаснікі любяць свайго старшыню т. Сапегу за яго распарадчасць, за яго настойлівасць, за яго бальшэвіцкую работу.

***

Тав. Сапега не дарма быў пасланы на III усебеларускі з'езд рабселькораў, не дарма займаў на ім ганаровае месца — члена прэзідыума з'езда.

Прымаючы ўдзел у рабоце секцыі па ільну, ён з бальшэвіцкай праматой паставіў пытанне:

— Ці ёсць у нас магчымасць узняць ураджай ільну? — І адказаў:

— У нас гэтыя магчымасці не абмежаваны. Мала яшчэ зроблена ў параўнанні з тым, што трэба зрабіць.

Тав. Сапега ўзяў абавязацельствы, прыехаўшы са з'езда, ліквідаваць усе недаробкі ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы, дапамагчы адстаючаму калгасу імя 1 мая выйсці ў рады перадавых, правесці веснавую сяўбу на выдатна, дабіцца большага ўраджаю, асабліва тэхнічных культур, чым у мінулым годзе.

І тое, што кіруемы ім калгас «Інтэрнацыянал» ужо адрамантаваў інвентар, вывез на поле гной, падрыхтаваў высокаякаснае насенне, з поспехам праводзіць збор попелу і т. д., ёсць зарука таго, што гэта абавязацельства ён выканае.

# ЯМУ ДАПАМАГАЕ, ІМ КІРУЕ ПАРТЫЙНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ

У калгасе **«Прамень комуны», Чапялёўскага сельсовета, Старобінскага раёна,** рыхтуюцца да веснавой сяўбы. Поўнасцю засыпаны, ачышчаны насенныя і страхавыя фонды, адрамантован інвентар, вывозіцца гной на калгасныя палі. Калгаснікі змагаюцца за ажыццяўленне лозунга:

«У 1935 г. дабіцца, самае малое, 3 кіло зернавых і 7 кіло бульбы на працадзень. Першымі ў раёне выканаць абавязкі перад дзяржавай».

З захапленнем расказвае дэлегат III Усебеларускага з'езда рабсельнкораў, рэдактар насценнай газеты калгаса «Прамень комуны», комсамолец **Цярушкін** Павел Ісакаў аб рабоце калгаса, падрыхтоўцы да вясны. Расказвае ён аб тым, як новае змагаецца са старым, з перажыткамі старога ў адносінах да калгаснай работы, грамадскай маемасці, як перамагае новае, якую ролю ў гэтым адыгрывае насценная газета.

У калгасе «Прамень комуны» насенныя фонды засыпаны, ачышчаны. На свірне з насеннем вісіць замок, ля свірна стаіць вартаўнік. Усё як быццам у парадку. Але вока селькораў сочыць і там, дзе здавалася-б усё абстаіць добра. Рэдактар калгаснай насценгазеты **«За большэвіцкі ўраджай»** тав. Цярушкін атрымлівае заметку, што вартаўнік Бабарыка Павел пасля работы нешта носіць у мяшку, хоць ключ ад свірна не ў яго і замок у парадку.

Піша ўдарнік-калгаснік, якому нельга не верыць. Тав. Цярушкін ідзе к члену партыі тав. Холаду Сяргею, раіцца з ім, як дабіцца ісціны.

— Змясціць гэту заметку — не годзіцца, не праверана, а не верыць ёй таксама нельга.

— Ну, так давай праверым, — кажа тав. Холад, — не паспім некалькі начэй і ўсё выяснім.

Рэдактар-комсамолец і член партыі т. Холад запрашаюць яшчэ члена рэвізійнай камісіі тав. **Мацюкевіча** і ноччу сочаць за вартаўніком, правяраюць правільнасць заметкі. 20 лютага ўся справа стала для іх яснай.

Яны ўбачылі, як досвіткам «вартаўнік» Бабарыка падлез з мяшком пад свіран, як ён адкрыў прасвідраваную ім калісці ў падлозе дзірку, як такім чынам насыпаў мяшок жыта... Ён быў злоўлен на месцы злачынства і аддан пад суд.

Гэта адзін з яркіх эпізодаў барацьбы насценгазеты за ахову соцыялістычнай маемасці.

А колькі было такіх выпадкаў. Тав. Цярушкін расказвае яшчэ пра адзін з іх. Атрымаў ён карэспандэнцыю, што ў калгаснікаў Дубовіка і Лебедзя прымацаваныя да іх коні з кожным днём худзеюць, хоць на іх выдаецца шмат аўса. Зноў крапатлівая настойлівая праверка, высьятленне прычын, чаму худзеюць коні. Выяснілася, што ўвесь авёс, які адпускаецца коням, Дубовік і Лебедзь раскрадалі, насілі дамоў, а коні асталіся галоднымі. Дубовіка і Лебедзя выключылі з калгаса і аддалі пад суд.

Нядрэнна змагаецца газета і за падрыхтоўку да веснавой сяўбы.

Восень. У калгаснай кузні няма вугалю і аб гэтым праўленне калгаса яшчэ не турбуецца. Газета ўзнімае пытанне аб неадкладным набыцці вугалю. «Трэба рамантаваць інвентар, а вугалю няма. Кузня стаіць, — піша газета і дабіваецца, што праўленне набывае вугаль, арганізуе рамонт інвентару.

У студзені газета ўзняла пытанне аб вывазцы гною на поле. І хоць калгас мае вялікае заданне па лесавывазцы, вывазка гною ідзе шпарка.

Па ініцыятыве насценгазеты быў арганізован выезд брыгады калгаса «Прамень комуны» ў калгас «Чырвоны пуцілавец» для праверкі гатоўнасці яго да сяўбы.

— Мы выявілі там, — кажа тав. Цярушкін, — што насенне прапушчана толькі праз вятранку, а не праз сартыроўку і лічылася ачышчаным. Не скончан рамонт інвентару. Мы сабралі сход, паказалі на недахопы, падзяліліся вопытам, як мы рыхтуемся да веснавой сяўбы, напісалі аб выніках нашай праверкі ў райгазету «Калгаснік Старобіншчыны». На другі-ж дзень калгас «Чырвоны пуцілавец» прыступіў да ачысткі насення праз трыер. Чысцілі дзень і ноч і ачысцілі як належыць.

Тав. Цярушкін — рэдактар насценгазеты з 1932 г. Ён палюбіў сваю газету, работа ў ёй стала для яго неабходнасцю. Ён стварыў вакол газеты моцны актыў, цягнуў у яго жанчын. Ударніцы-калгасніцы Бабарына Дуня, Кроль Волька часта пішуць у газету, дапамагаюць яе рабоце.

Чаму насценная газета «За большэвіцкі ўраджай» працуе лепш за многія іншыя калгасныя газеты?

Таму, — кажа тав. Цярушкін, — што мною кіруе і дапамагае мне пярвічная партарганізацыя, заслухоўвае мае справаздачы, таму, што я не чакаю пакуль з мяне патрэбуе партарганізацыя, а пастаянна звязан з ёю.

Член партыі тав. Холад часта піша ў газету і дабіваецца рэагавання на заметкі. Пішуць і другія партыйцы.

Газета выхавала такіх калгаснікаў, як **Мазан** Павел, **Дубовік** Федзя (брыгадзір) і інш., якія раней мелі значныя недахопы ў сваёй рабоце.

— Прыехаўшы са з'езда, — кажа т. т. Цярушкін,—я з дапамогай партарганізацыі яшчэ лепш вазьмуся за работу. Выпрацую план работы газеты, распрацую з актывам і калгаснікамі пастановы III усебеларускага з'езда рабселькораў з тым, каб зрабіць газету важнейшым вагаром паспяховага правядзення веснавой сяўбы.

# НА ЧАЛЕ КАЛГАСА— СЕЛЬКОР ЛЕШЧАНКА

Адным з пяці дэлегатаў 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў ад Мазырскага раёна быў тав. **Лешчанка Сцяпан Васільевіч** — старшыня калгаса імя Багінскага. У перапынках паміж пасяджэннямі з'езда мы гутарылі з т. Лешчанка. Ён расказаў пра работу калгаса, пра сваю селькораўскую дзейнасць.

— За 4 гады майго селькорства я прайшоў добрую школу барацьбы з класавым ворагам, — гаворыць т. Лешчанка.—Здарылася так, што мы прапілявілі, і ў кіраўніцтва калгаса «Чырвоны араты» пралезлі ворагі: Каманчук Алесь—у мінулым моцны кулак і Фурман М.—спекулянт. Вакол іх згрупаваліся ўсе варожыя нам людзі, якія ў той час прабраліся ў калгас. Каманчуку ўдалося навет пралезці ў партыю. Кулацкая зграя моцна трымала калгас у сваіх руках. Пачалося шкодніцтва. За адзін толькі 1931 год загінулі 23 кані, калгасную маемасць расцягвалі направа і налева.

У гэты час Сцяпан Лешчанка яшчэ толькі пачынае пісаць у газеты і ўступае ў кандыдаты партыі. Першыя яго заметкі ў раённую газету былі накіраваны супроць класавых ворагаў, якія акапаліся ў калгасе «Чырвоны араты»

— Каманчука, Фурмана і іх падсобнікаў. Кулацкая зграя заварушылася. Пачалося цкаванне тав. Лешчанка. Каманчук усякімі спосабамі, аж да подкупаў, групуе вакол сябе малосвядомую частку




**ЛЕШЧАНКА СЦЯПАН,** дэлегат з'езда, старшыня калгаса імя Багінскага, Мазырскага раёна.

□ □ □ □ □

калгаснікаў і дабіваецца выключэння т. Лешчанка з калгаса і з партыі.

— Гэты ўдар ні на мінуту не пахіснуў мяне,—гаворыць т. Лешчанка.—Я цвёрда верыў у правату сваёй справы, ведаў, што ўсё лепшае, што ёсць у

калгасе, выступіцца ва мяне. Я быў упэўнен, што мяне абаронаць кіруючыя партыйныя органы і савецкая ўлада.

Тав. Лешчанка едзе ў Мазыр. Перш за ўсё заходзіць у рэдакцыю раённай газеты і ў райком партыі. Рэдакцыя пасылае свайго работніка для расследвання справы, і праз некалькі дзён у газеце з'яўляецца старонка аб кулацкіх справах у калгасе «Чырвоны араты». Газета выступіла ў абарону селькора Лешчанка. Яшчэ праз некалькі дзён у калгас прыязджаюць прадстаўнік раённай кантрольнай камісіі і пракурор. Усе факты аб кулацкай дзейнасці Каманчука і Фурмана пацвярджаюцца. Таварыша Лешчанка аднаўляюць у партыі і ў калгасе, а кулакоў і шкоднікаў аддаюць пад суд.

— Гэта была мая першая перамога, атрыманая з дапамогай большэвіцкага друку,—гаворыць т. Лешчанка. — З таго часу я ўжо не парываю сувязь з друкам, прымаю актыўны ўдзел у «Калгасніку Мазыршчыны», вялікую ўвагу аддаю рабоце насценных газет.

Перад жнівом 1934 года райком партыі даручае т. Лешчанка адказную работу, яго пасылаюць старшынёй калгаса імя Багінскага. І ўся работа т. Лешчанка ў калгасе імя Багінскага служыць яркім прыкладам таго, як селькор павінен змагацца за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгаса.

Гаспадарка калгаса к таму часу была значна аслаблена няўмелым кіраўніцтвам. Тав. Лешчанка перш за ўсё пачаў вывучаць людзей і прычыны, якія прывялі калгас да заняпаду.

— Я пачаў прыслухоўвацца, аб чым гавораць калгаснікі, — расказвае т. Лешчанка,—сачыў за выхадам на работу, за адносінамі да калгаснай работы і калгаснага дабра. У многіх калгаснікаў быў такі погляд: галоўную ўвагу— сваёй індывідуальнай гаспадарцы, а калгасная работа, моў, другарадная справа. Мне стала ясна, што гэта і ёсць галоўная прычына, перашкаджаючая развіццю і ўмацаванню калгаса.

І т. Лешчанка пачынае вялікую работу па перавыхаванню людзей. Вылучае лепшых калгаснікаў і даручае ім найбольш адказную работу. Згрупоўвае вакол сябе актыў. Па яго-ж ініцыятыве ў калгасе пачынае выходзіць насценгазета. Газета дапамагае актыву ў цяжкай справе перавыхавання людзей, у барацьбе з гультаямі, з прагульшчыкамі.

Да прыходу т. Лешчанка ў калгасе не было пабудавана ні аднаго грамадскага будынка. Каровы былі абагуленыя толькі на паперы, бо ўсё малако дзялілася парoўну паміж калгаснікамі. Вопытнае гаспадарчае вока комуніста-селькора т. Лешчанка не магло не заўважыць гэтых агіднасцей. А ведаць, дзе прарыў, для т. Лешчанка значыць дзейнічаць. І ён бярэцца за справу. Спыняе разбазарванне калгаснага дабра, малако з фермы здаецца дзяржаве. Пачынаецца будаўніцтва памяшкання для кароў і коней.

— Большасць калгаснікаў, — гаворыць т. Лешчанка,—не верыла, што мы зможам за сродкі калгаса пабудаваць патрэбныя для жывёлы будынак. І мы паказалі, што можна зрабіць, калі беражліва адносіцца да калгаснага дабра і па-сапраўднаму ўмацоўваць калгасную гаспадарку. Вялізны, светлы і цёплы хлеў быў гатовы к тэрміну—к 7-му лістапада мінулага года. Мы яго пабудавалі выключна за грошы, атрыманыя ад продажу дзяржаве малака.

Пад уплывам масавай палітычнай работы і насценгазеты прыкметна павышаецца палітычны ўзровень калгаснікаў калгаса імя Багінскага. Тав. Лешчанка прыводзіць дзесяткі фактаў, як асобныя калгаснікі, яшчэ нядаўна глядзеўшыя на калгаснае дабро, як на чужое, сталі цяпер лепшымі ўдарнікамі і пачалі пільна ахоўваць калгасную маёмасць. У калгасе выхоўваецца селькораўскі актыў. Лепшымі селькорамі насценгазеты з'яўляюцца т. т. **Журавель** Павел, **Фінцар** Алесь, **Слідзеўскі** Фёдар, **Крупа** Поля. Яны-ж лепшыя ўдарнікі ў калгасе.

Яшчэ нядаўна на ўвесь калгас імя Багінскага выпісваўся толькі адзін экземпляр газеты, цяпер газету атрымлівае кожны двор.

— Цяжка выказаць, якую вялікую дапамогу мне, як старшыні калгаса і адзінаму комуністу ў калгасе, аказвае насценгазета,—гаворыць тав. Лешчанка. — Яна вучыць людзей, кожная нават дробная селькораўская заметка, накіраваная супроць нядбайнасці, разгільдзяйства, а таксама заметкі аб добрых

нашых работнікаў служаць справе выхавання і вырошчвання людзей.

І людзі растуць і выхоўваюцца. Мяняюцца адносіны да калгаснага дабра. Насценгазета асвятляе яркія прыклады, як асобныя калгаснікі пад уплывам выхаваўчай работы робяцца зусім іншымі людзьмі.

Калгасніца Слідзеўская Вольга працуе даглядчыцай кароў. Калі на кароўніку яшчэ не было радзільніка, т. Слідзеўская брала нарадзіўшыхся цялят да сябе ў хату і даглядала іх, як дзяцей. На ферме не было ні аднаго выпадку падзяжу ці захворвання цялят.

Або ўзяць конюхаў Міхася і Тацяну Журавель. Яны прышлі на канюшню, калі не было без ран ні аднаго каня. Цяпер на коней калгаса імя Багінскага люба паглядзець.

Выбранне т. Лешчанка дэлегатам на ўсебеларускі рабсělькораўскі з'езд было вялікай падзеяй для ўсяго калгаса. Калгаснікі рашылі адзначыць адкрыццё з'езда завяршэннем усёй падрыхтоўкі калгаса да сяўбы. Тав. Лешчанка па даручэнню ўсяго калгаса дакладвае аб тым, што рашэнне калгаснікаў выканана:

— У дзень майго ад'езду ў Менск на з'езд мы вывозілі на поле апошнія вазы гною. Усяго вывезлі гною за зіму 300 вазоў. Зрабілі 15 новых вазоў і 15 плугоў. Перагледзелі ўсе пастронкі, вупраж. Старую зношаную вупраж замянілі новай. Добра яе падагналі да коней, змазалі, замацавалі за коньмі. Некалькі раз у месяц правяраем і перашуфлёўваем насенне, праветрываем свірны, праверылі насенне на ўсхожасць.

— Непазнавальна змянілася большасць нашых калгаснікаў—гаворыць т. Лешчанка.—Усюды відны клопаты, рупнасць аб агульным калгасным дабры. І хоць ёсць яшчэ ў нас недахопы, многага не хапае, але мы маем ужо галоўнае: жаданне ўдарна, па-сталінску працаваць над умацаваннем калгаса. І я ўпэўнен: праз год-два нам самім стане цяжка пазнаць свой калгас. А пра сяўбу скажу: падрыхтаваліся мы на ўсе сто процантаў, усё агледзелі, нічога не забылі, так што останоўка пакуль што толькі за вясною. У гэту веснавую сяўбу наш калгас будзе змагацца за першынства не толькі ў сельсовеце, а і ва ўсім раёне.

**ВЫВУЧАЕМ РАШЭННІ III УСЕБЕЛАРУСКАГА З'ЕЗДА РАБСЕЛЬКОРАЎ.**

# НА КВАТЭРЫ РЭДАКТАРАНАСЦЕНГАЗЕТЫ

Кватэра кацельшчыка **Кухарчыка,** рэдактара насценгазеты кацельнага цэха менскага паравознага дэпо, прыбрана пасвяточнаму. Сёння сюды сабраліся рэдактары насценгазет, лепшыя рабкоры-ўдарнікі дэпо, каб за шклянкай чаю ў чыстай кватэры лепшага ўдарніка абмеркаваць даклад тав. Ковіка на III усебеларускім з'ездзе рабселькораў.

Даклад робіць дэлегат з'езда, рэдактар насценгазеты падсобнага цэха тав. **Меляшкевіч.** Ён расказвае аб метадах работы насценнай газеты, яе масавых мерапрыемствах і тых задачах, якія стаяць перад нізавым транспартным друкам у сувязі з рашэннямі III усебеларускага з'езда рабселькораў.

Тав. Меляшкевіч гаворыць аб ролі насценнай газеты ў выхаванні людзей. Пры дапамозе насценгазеты малады токар **Левін,** раней адсталы рабочы, які не выконваў промфінплана, стаў адным з перадавых ударнікаў, дае лепшую якасць прадукцыі.

Адно з мерапрыемстваў насценгазеты —праведзены нядаўна «мітынг варштатаў». Пасля гэтага мітынга рабочыя пачалі лепш адносіцца да варштатаў.

У абмеркаванні даклада тав. Коніка і вынікаў III усебеларускага з'езда рабселькораў прыняў удзел і тав. **Жэлезнякоў** — парторг дэпо. Тав. Жэлезнякоў узняў перад рэдактарамі насценных газет пытанні паляпшэння партыйна-масавай работы ў цэхах і асвятлення яе ў нізавым транспартным друку.

Удзельнікі нарады прымаюць прапанову—лепшы вопыт масавай работы насценгазеты падсобнага цэха перанесці ў работу ўсяго нізавога друку дэпо.

Па прапанове тав. Меляшкевіча рэдактары насценгазет заключылі паміж сабой соцдагавор на лепшую работу нізавога транспартнага друку па рэ-

алізацыі пастаноў VII усесаюзнага з'езда советаў і III усебеларускага з'езда рабселькораў.

У канцы таварыскай гутаркі ўдзельнікі вечара абмяркавалі план работы нізавых газет па рэалізацыі рашэнняў усебеларускага з'езда рабселькораў. У дэпо пачынае рэгулярна працаваць семінар для падрыхтоўкі рэдактароў і членаў рэдкалегій нізавых газет.

**Рэдактар шматтыражкі «За здаровы вагон» Л. ФРЫД.**





**Дэлегаты III усебеларускага з'езда рабселькораў (злева направа): ПАЎЛАВА КЛАЎДЗІЯ — брыгадзір свінагадоўчай фермы соўгаса «Чырвоны Окцябр», Чэрыкаўскага раёна; ОСІПАЎ НІКАЛАЙ—рэдактар насценгазеты калгаса імя Молатава, Рагачоўскага раёна, СЯМЁН ЕФРЭМЕНКА—рэдактар насценгазеты кавузвода.**

# Спаборнічаем на лепшую работу

Наш калгас **«Бязбожнік»** спаборнічае з калгасам **«Новы шлях»**. Нядаўна на спецыяльнай нарадзе быў прынят дагавор па спаборніцтву.

Праз некалькі дзён пасля заключэння дагавора нашы селькоры ўзнялі пытанне аб праверцы падрыхтоўкі да сяўбы ў абодвух калгасах. Стварылі селькораўскую рэйдавую брыгаду. Перш за ўсё праверылі становішча ў сваім калгасе. Выявілася, што ў трэцяй брыгадзе калёсы не ў парадку. Знайшлі рад недахопаў і ў першай брыгадзе. Выпусцілі спецыяльную рэйдавую газету. Недахопы хутка выправілі.

Брыгада селькораў выехала ў калгас «Новы шлях». Там справы былі значна горшыя, чым у нашым калгасе. Калёсы, бораны простыя і спружыновыя яшчэ не пачыналі рамантаваць, адрамантаваныя плугі стаялі нязмазаныя. Коней даглядаюць дрэнна, у выніку 2 коней загінула, а большасць іх ніжэй сярэдняй упітанасці, не пастаўлены на адпачынак. Гной толькі пачалі вывозіць, збіраць попел не пачыналі.

Селькоры выявілі, што і калгасная МТФ дрэнна працуе. Адыход маладняка даходзіць да 15 проц. Каровы брудныя— іх ніколі не чысцяць. План паставак малака калгас не выканаў.

Зацікавіліся нашы селькоры, як-жэ працуе ў калгасе насценная газета. Аказалася, насценгазета выходзіць вельмі рэдка, у гэтым годзе выйшлі толькі 2 нумары і тыя без подпісу рэдактара. У адным з нумароў рэдкалегія сама скардзіцца, што газета працуе дрэнна, калгаснікі не пішуць. Рэдактар газеты **Новікаў** бяздзейнічае. Ён нават не ведае, што робіцца ў калгасе.

Аб усім гэтым нашы селькоры напісалі ў выпушчаную рэйдавую газету. Сабралі сход селькораў з удзелам калгаснікаў, расказалі аб усебеларускім з'ездзе селькораў. Сход вылучыў брыгаду для азнаямлення з работай нашага калгаса, у прыватнасці з работай калгаснай, брыгадных насценгазет і селькораў. Назаўтра-ж гэта брыгада выехала ў калгас «Бязбожнік».

На гэтым-жа сходзе наша насценгазета «Ўдарнік палёў» заключыла дагавор па соцспаборніцтву з газетай калгаса «Новы шлях». Асноўнымі ўмовамі спаборніцтва вызначылі: выпуск калгаснай насценгазеты адзін раз у тры дні, брыгадных — штодзённа; арганізацыю насценгазеты на МТФ, уключэнне ў вытворчы паход за лён імя тав. Гікала.

Цяпер мы сістэматычна будзем праверяць выкананне соцыялістычнага дагавора абодвума калгасамі і насценгазетамі.

**С. ШАІРКА, М. ПІМЕНАВА.**

# Пасля ўсебеларускага з'езда рабселькораў

**ЧЫРВОНАЯ СЛАБАДА.** Раённая газета **«Калгаснік»** у нумары за 14 сакавіка зьмяшчае пісьмо калгаснага брыгадзіра, дэлегата III усебеларускага з'езда рабселькораў тав. **Драбені Майсея.** У сваім пісьме тав. Драбеня расказвае аб рабоце ўсебеларускага з'езда рабселькораў і перадае вопыт сваёй работы па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. У брыгадзе тав. Драбені ўжо адрамантован увесь інвентар, вывезен у поле гной, падрыхтаваны коні.

У пісьме тав. Драбеня звярачае ўвагу рэдкалегій калгасных насценгазет усяго раёна на пачашчэнне выхаду газет і ўзмацненне іх аператыўнай работы па падрыхтоўцы да сяўбы.

***

**ЛЁЗНА.** Дэлегат III усебеларускага з'езда рабселькораў **Сцяпан Шаірка** зрабіў справаздачу аб рабоце з'езда на сходзе жанчын Унаўскага сельсовета. На сходзе прысутнічала 200 калгасніц-ударніц. Жанчыны горача адгукнуліся на пастанову з'езда аб правядзенні ўсебеларускага вытворчага паходу імя т. Гікало за лён і ўключыліся ў практычную работу па падрыхтоўцы да сяўбы.

Па прапанове вытворчай нарады калгасніц-ударніц праўленне калгаса **«Новы шлях»** вызначыла 1.000 руб. на прэміраванне лепшых ільнаводаў, якія, ўключыўшыся ў вытворчы паход імя тав. Гікало, пакажуць узоры барацьбы за лепшы лён у СССР.

***

**БАРЫСАЎ.** У дзень адкрыцця ўсебеларускага з'езда рабселькораў **«Большэвік Барысаўшчыны»** вышаў са спецыяльнай паласой, прысвечанай наказу ролі рабселькораў у калгасным будаўніцтве і ў барацьбе за выкананне промфінплана. Газета падрабязна расказала аб рабоце чатырох дэлегатаў усебеларускага з'езда: селькора **Мазаля Лукаша,** рабкоркі **Шустэрман,** селькора і актыўнага ўдзельніка ў рабоце польскай старонкі газеты **Станіслава Невяроўскага** і рэдактара шматтыражкі «Гута» тав. **Стася Брынка.** Лукаш Мазоль, адзін з актыўнейшых селькораў «Большэвіка Барысаўшчыны», прэміраван нядаўна райвыканкомам за ўзорнае правядзенне рэйда па падрыхтоўцы коняй да сяўбы. Невяроўскі Станіслаў — адзін з першых арганізатараў калгаса ў Лазіншчыне, актыўны арганізатар нізавых газет у польскіх нацыянальных калгасах. Брынк Стась прышоў на шклозавод імя Домбаля 17-гадовым комсамольцам. За 3 гады ён становіцца лепшым майстрам-шліфавальшчыкам, упорна працуе над павышэннем свайго палітычнага і культурнага ўзроўню, становіцца актыўным рабкорам. Яго выбіраюць рэдактарам цэхавай насценгазеты і, урэшце, пасля вучобы на курсах газетных работнікаў Стася Брынка прызначаюць рэдактарам шматтыражкі шклозавода. Пры яго актыўнай дапамозе на заводзе выдаецца 17 цэхавых насценгазет.

***

**БЕШАНКОВІЧЫ.** Селькоры калгаса **«8-ы з'езд советаў»** аднымі з першых у раёне ўзяліся за вывучэнне рашэнняў III усебеларускага з'езда рабселькораў. На сход, дзе абмяркоўваўся новы статут сельскагаспадарчай арцелі і даклад тав. Коніка на III усебеларускім з'ездзе рабселькораў, селькоры запрасілі і аднаасобнікаў. Пасля абмеркавання статута і даклада тры аднаасобнікі падалі заявы аб уступленні ў калгас.

***

**ЛЮБАНЬ.** **«Калгаснік Любаньшчыны»** друкуе выступленні рэдактароў калгасных насценгазет, прысвечаныя раённаму злёту селькораў. Дэлегат III усебеларускага з'езда рабселькораў **Сярчэня Барыс** выступіў на старонках раённай газеты са сваімі ўражаннямі аб рабоце з'езда. На агульнакалгасным сходзе і сярод вучняў школы тав. Сярчэня правёў гутарку аб выніках работы ўсебеларускага з'езда рабселькораў і задачах нізавога калгаснага друку і селькораў у падрыхтоўцы да сяўбы.

## Аглядьі друку

# Газета не зразумела сваіх задач

## Калгасная праўда

Ці ведаюць шырокія масы калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў **Гарадоцкага раёна** аб такім важнейшым палітычным дакуменце, як сталінскі статут сельскагаспадарчай арцелі? Што робіцца ў раёне па прапрацоўцы статута, па пераводу калгасаў на новы статут?

Такое пытанне ўзнікае, калі знаёмішся з камплектам гарадоцкай раённай газеты **«Калгасная праўда»**.

Рэдакцыя «Калгаснай праўды» недапушчальна мала робіць для папулярызацыі новага статута сельскагаспадарчай арцелі, для растлумачэння яго велізарнага палітычнага і практычнага значэння. Хіба можна лічыць дастатковай прапагандай сталінскага статута тое, што «Калгасная праўда» 21 лютага надрукавала статут у выглядзе дадатку да газеты і перадрукавала 27-га лютага артыкул «Праўды» «Сталінскі статут заможнага калгаснага жыцця»?

Больш-жа аб статуце ў газеце няма ні аднаго артыкула. Рэдакцыя абмяжоўваецца тым, што калі-ні-калі ў перадавых артыкулах прыводзіць адну-дзве цытаты з «Праўды», ці дае некалькі сваіх агульных радкоў аб статуце.

І зусім нічога не робіць гарадоцкая газета, каб дапамагчы партыйнай арганізацыі раёна шырока разгарнуць прапрацоўку статута ў кожным калгасе, кожным паселішчы, дапамагчы перавесці калгасы раёна на новы статут. На старонках «Калгаснай праўды» няма ні аднаго матэрыялу, які-б паказаў, як прапрацоўваюць новы статут, як яго ўспрымаюць шырокія масы калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў, як ужо цяпер у асобных калгасах пачынаюць працаваць на аснове новага статута.

27-га лютага пад аншлагам «Калгаснікі адабраюць новы статут» газета змяшчае карэспандэнцыю з калгаса «Беларуская вёска».

> **«Мы, калгаснікі калгаса «Беларуская вёска», Віраўлянскага сельсовета адабраем рашэнні партыі аб зацвярджанні прыкладнага статута сельгасарцелі...**
>
> **...На новы прыкладны статут мы адказваем узмацненнем барацьбы за павышэнне ўраджайнасці. Ставім сваёй мэтай падваенне вагі калгаснага працадня».**

Вось усё, што ёсць у гэтай карэспандэнцыі аб статуце. Далей ідуць абавязацельствы калгаса аб павышэнні ўраджайнасці, аб высокаякасным правядзенні сяўбы.

Карэспандэнцыя гэта сведчыць аб велізарным энтузіязме, творчым уздыме калгаснікаў, выкліканым прапрацоўкай сталінскага статута. Але няўжо ў калгасе «Беларуская вёска» толькі прачыталі статут, ухвалілі яго і прынялі самаабавязацельствы? Мы ўпэўнены, што ў часе прапрацоўкі статута вакол кожнага пункта ўзнікалі пытанні, разгортваліся гарачыя спрэчкі. Калгаснікі параўноўвалі кожны пункт статута з становішчам у калгасе, уносілі дадаткі, канкрэтызавалі кожны пункт, выходзячы з канкрэтных умоў свайго калгаса. У матэрыяле аб прапрацоўцы статута ў калгасе газета павінна была паказаць усё гэта, тым больш, што гэта быў **першы** матэрыял аб прапрацоўцы статута.

Газета гэтага не зрабіла. Не зрабіла яна гэтага і ў другім матэрыяле з калгаса імя Сталіна («Адказваюць на новы статут уступленнем у калгасы», № за 4 красавіка). Зноў толькі некалькі слоў аб тым, што калгаснікі ўхваляюць статут, што ў адказ на новы статут

> **«аднаасобнікі вёскі Кашо ўступаюць у калгас. У калгас імя Сталіна ўступілі 2 аднаасобных бядняцкіх гаспадаркі».**

Як абмяркоўваўся статут, якія дадаткі ўносіліся ў яго, што гаварылі асоб-

кыя калгасцікі і аднаасобнікі — гэта «Калгасную праўду» не цікавіць.

І гэтымі двума заметкамі газета абмежавала свой «паказ» ходу прапрацоўкі статута сельскагаспадарчай арцелі ў раёне.

На 10-е сакавіка ў раёне быў склікан раённы злёт калгаснікаў-ударнікаў. Цэнтральным пытаннем у парадку дня злёта была вызначана прапрацоўка статута. Здавалася-б, усе матэрыялы аб падрыхтоўцы да злёта, аб рабоце калгасаў, падрыхтоўцы да сяўбы, рабоце жывёлагадоўчых ферм, змешчаныя ў нумарах газеты, вышаўшых да злёта і ў часе работы злёта, павінны былі быць прасякнуты прапагандай асноў статута. Газета павінна была ўзняць пытанне аб севазваротах, аб пастаянных брыгадах, аб аграмерапрыемствах, забяспечваючых высокі ўраджай, аб становішчы з прысядзібнымі ўчасткамі.

Трэба было паказаць, як ставяцца гэтыя пытанні ў статуце і якое становішча ў гэтых адносінах у канкрэтных калгасах, аб якіх піша газета. Газета павінна была моцна паставіць і пытанні культурнага будаўніцтва ў калгасах, якія так ярка вызначаны ў прыкладным статуце, і аб падрыхтоўцы кадраў, і аб жанчыне-калгасніцы.

У Гарадоцкім раёне многа адстаючых калгасаў. Дрэнная работа, адставанне многіх калгасаў асабліва выразна былі відны ў часе ўборкі і ільнозагатовак. Гарадоцкі раён у гаспадарча-палітычных кампаніях мінулага года быў на адным з апошніх месц у рэспубліцы. Пакончыць з адставаннем асобных калгасаў, зрабіць усе калгасы перадавымі, бальшэвіцкімі — такая задача пастаўлена партыяй. Зрабіць гэта можна толькі на аснове сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі. Значыць, газета абавязана была ўзняць пытанне аб адстаючых калгасах, паказаць іх работу, прычыны іх адставання, паказаць, што толькі работа на аснове новага статута можа вывесці гэтыя калгасы ў рады перадавых. Тым больш, што справа-ж ідзе аб падрыхтоўцы да раённага злёта калгаснікаў-ударнікаў, дзе будзе абмяркоўвацца новы статут.

Выходзіць нумар за 6-е сакавіка. Амаль уся першая паласа прысвечана падрыхтоўцы да сяўбы. І ўсе матэрыялы гэтай паласы зусім адарваны ад прапрацоўкі статута. Выходзіць нумар за 8-е сакавіка. Дзве пятнаццацірадковыя заметкі ў кутку другой паласы аб тым, што на канферэнцыях аднаасобнікаў у Кабішчанскім сельсовеце пасля прапрацоўкі статута аднаасобнікі падаюць заявы аб уступленні ў калгас—вось і ўсё, што ёсць у гэтым нумары аб прапрацоўцы статута.

Выходзіць нумар за 10-е сакавіка — дзень адкрыцця злёта, за 12, 15, 17, 20-е сакавіка. І ні аднаго матэрыялу аб прапрацоўцы статута ў калгасах і вёсках раёна няма.

Рэдакцыя гарадоцкай газеты не зразумела сваіх задач у сувязі з зацвярджэннем партыяй і ўрадам новага прыкладнага статута сельскагаспадарчай арцелі.

Цэнтрам работы газеты зараз, не барацьбы за бальшэвіцкія калгасы, за высокаякаснае правядзенне веснавой сяўбы павінна стаць прапаганда кожнага пункта сталінскага статута заможнага калгаснага жыцця, практычная дапамога калгасам раёна перабудаваць іх работу на аснове гэтага статута. Гэта трэба зразумець рэдакцыі «Калгаснай праўды», так ёй трэба будаваць зараз сваю работу.



**Да юбілею бабруйскай газеты «Комуніст». Асобныя нумары газеты за ранейшыя гады.**

# Спаборніцтва брыгадзіраў пачалося

## Шлях соцыялізма

Напярэдадні адкрыцця 2-га ўсесаюзнага з'езда калгаснікаў-ударнікаў — 10 лютага — **менскай** раённай газетай **«Шлях соцыялізма»** было надрукавана пісьмо 80 лепшых брыгадзіраў і калгаснікаў-ударнікаў раёна. Перадавыя людзі калгасаў Меншчыны пісалі аб тым, як яны будуць працаваць, каб заваяваць перамогу на палях у надыходзячую веснавую сяўбу. Брыгадзіры і калгасніки-ўдарнікі прапанавалі пачаць спаборніцтва калгасаў, брыгад і звенняў на першынства ў сяўбе.

Прайшло некалькі дзён. Скончыў работу гістарычны з'езд перадавікоў савецкай калгаснай зямлі, які працаваў пад непасрэдным кіраўніцтвам тав. **Сталіна.** Вярнулася са з'езда ў свой родны калгас «Чырвоныя Скарынічы» Кацярына Якаўлеўна **Кульба** — знатная калгасніца Меншчыны. Газета «Шлях соцыялізма» выкарыстоўвае гэта для далейшай папулярызацыі ідэі соцыялістычнага спаборніцтва за поспех у веснавой сяўбе, за ўтрыманне першынства Менскага раёна ў рэспубліцы і далейшы росквіт сельскай гаспадаркі раёна.

Совецкая Беларусь павінна выйсці на першае месца ў Саюзе—аб гэтым Кацярына Кульба заявіла камісіі па выпрацоўцы Прыкладнага статута сельскагаспадарчай арцелі і тав. **Сталіну.** Гэта-ж вялікая ідэя пранізвае матэрыялы менскай раённай газеты аб тым, як калгаснікі прапрацоўваюць рашэнні з'езда, як рыхтуюцца да сяўбы. Газета змясціла справаздачу т. Кульбы перад сваімі аднавяскоўцамі, надрукавала яе артыкул аб тым, як працаваў гістарычны з'езд калгаснікаў-ударнікаў.

І вось 11 сакавіка чытаем у газеце пастанову бюро Менгаркома КП(б)Б і прэзідыума РВК аб арганізацыі раённага конкурса-спаборніцтва паляводчых і гародных брыгад. У пастанове падрабязна ўказваецца, якую канкрэтна работу брыгады і калгасы павінны прарабіць для таго, каб заваяваць у спаборніцтве першынства, каб атрымаць у гэтым годзе з гектара 18-20 цэнтнераў зерневых і 200 цэнтнераў бульбы.

Трэба адзначыць аператыўнасць, з якою газета даводзіць пастанову Менгаркома і РВК да калгаснікаў свайго раёна. Праз тры дні пасля апублікавання пастановы — 14 сакавіка — газета ўжо надрукавала шматлікія водгукі аб уключэнні брыгад у спаборніцтва. У гэтым-жа нумары надрукавана пісьмо конюха калгаса імя Дзержынскага тав. **Герасімовіча** з прапановай уключыць у спаборніцтва паляводчых брыгад таксама і калгасных конюхаў.

У наступных двух нумарах за 18 і 20 сакавіка газета адводзіць многа месца паказу таго, як брыгады і калгасы ўключаюцца ў конкурс-спаборніцтва.

Спынімся падрабязней на гэтых матэрыялах і ўкажам газеце на іх недахопы.

Сярод большасці добрых, канкрэтных заметак аб уключэнні ў спаборніцтва брыгадзіраў ёсць заметкі, складзеныя з агульных фраз. Возьмем, к прыкладу, заметку **«Разгарнулася спаборніцтва паміж калгасамі і брыгадамі».** Што-ж паведамляецца пад гэтым гучным загалоўкам? Аказваецца, у Бараўскім сельсовеце на курсах брыгадзіраў і старшынь калгасаў была прапрацавана пастанова Менгаркома КП(б)Б і РВК аб спаборніцтве. Газета паведамляе, што пастанову курсанты сустрэлі з вялікім энтузіязмам і ўключыліся ў спаборніцтва.

Агульна і неканкрэтна заметка старшыні Трасцянецкага сельсовета тав. **Каўшовіча,** надрукаваная 14 сакавіка. Уся яна складаецца з такіх агульных фраз: «з вялікім задавальненнем мы

сустрэлі пастанову гаркома і прэзідыума райвыканкома», «зараз-жа намецілі рад практычных мерапрыемстваў» і т. д.

Соцыялістычнае спаборніцтва патрабуе масавасці. Нельга заключаць спаборніцтва паміж брыгадамі без рашаючага ўдзелу **калгаснікаў гэтых брыгад.** Спаборніцтва трэба праводзіць на аснове **канкрэтных паказальнікаў,** якіх ніяк нельга падмяняць агульнымі выклікамі, агульнымі абяцаннямі.

Пішучы аб гэтым, мы ні ў якім разе не сцвярджаем, што ўказаныя недахопы з'яўляюцца **характэрнымі** для газеты «Шлях соцыялізма». Не, трэба адзначыць, што ў большасці матэрыялаў газета правільна ставіць пытанні спаборніцтва брыгад. У газеце надрукаваны дзесяткі выступленняў брыгадзіраў, старшынь калгасаў і сельсоветаў, рэдактароў насценгазет, конюхаў, у якіх гаворыцца пра канкрэтныя факты, як, уключыўшыся ў спаборніцтва, брыгады ўзмацнілі падрыхтоўку да сяўбы.

Надыходзячая веснавая сяўба пройдзе пад знакам рэалізацыі сталінскага статута калгаснага заможнага жыцця. Прыкладны статут сельгасарцелі ставіць і перад газетай рад новых важных пытанняў. І задача газеты ў тым, каб умела спалучыць барацьбу за рэалізацыю статута з усёй сумай пытанняў падрыхтоўкі і правядзення сяўбы.



**ВАЛАСЕВІЧ Г. Я. — рэдактар насценгазеты калгаса «Ленінскі шлях», Самахвалавіцкага сельсовета, Менскага раёна.**

# ДЗВЕ ПАМЫЛКІ ДУБРОВЕНСКАЙ ГАЗЕТЫ

## ЗА СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ БУДАЎНІЦТВА

Дубровеншчына—самы адстаючы ільнаводчы раён БССР. У мінулым годзе план ільнозагатовак раён выканаў толькі на 84,3 проц.

У гэтым годзе ў ордэнаносная БССР не павінна быць адстаючых раёнаў. Дубровеншчына павінна выйсці ў рады перадавых раёнаў. Ліквідаванне адставання вашаецца большэвіцкай барацьбой за лён—асноўную культуру ў раёне.

Поспех гэтай барацьбы ў асноўным залежыць ад таго, як раённыя арганізацыі, раённая газета здолеюць разгарнуць абвешчаны III усебеларускім з'ездам рабсельркораў паход імя тав. Гікало за лён.

Раённая газета **«За соцыялістычнае будаўніцтва»** гэты паход абвясціла. Праўда, на «раскачку» пашло 12 дзён. З'езд рабсельркораў закончыўся 28 лютага, а газета «За соцыялістычнае будаўніцтва» толькі 12 сакавіка паведаміла сваім чытачам, што пачынаецца паход імя т. Гікало за лён.

У перадавым, які займае амаль поўстаронкі, газета ўспамінае пра леташ-

нюю запазычанасць дзяржаве (недавыкананне плана), пераконвае чытачоў, што барацьба за лён пачынаецца з восені і вясны; нарэшце, заклікае напружыць усе сілы на барацьбу за ўздым ураджайнасці за раннюю сяўбу, за тое, каб зрабіць Дубровеншчыну перадавым раёнам у рэспубліцы.

Паглядзім-жа, як газета разгортвае паход за лён імя т. Гікало.

У тым-жа нумары за 12 сакавіка газета змяшчае пісьмо брыгадзіраў і калгаснікаў з калгаса «Чырвонае пабярэжжа», Мардашэвіцкага сельсовета. Гэты сельсовет—перадавы па ільну. Тут у мінулым годзе план ільнозагатовак не толькі выканалі, але і перавыканалі. Законнае жаданне чытачоў—даведацца праз сваю раённую газету, як-жа мардашэвіцкія калгасы дабіліся высокага ўраджаю.

Дарэмнае жаданне. Яго не задаволіць пісьмо з калгаса «Чырвонае пабярэжжа». У ім не гаворыцца аб вопыце, аб практычных мерапрыемствах на наступны год.

**«З гэтага года мы будзем строга падтрымлівацца севазвароту і ліквідуем абязлічку зямлі»**

гаворыцца ў адным месцы пісьма.

А чаму-б не расказаць, які севазварот, калі і як ён уведзен у калгасе? **Якія аграмерапрыемствы** былі праведзены ў калгасе для павышэння ўраджайнасці ільну? Як арганізаваны пастаянныя брыгады і як замацаваны за імі вытворчыя ўчасткі ў палях севазвароту? Як расстаўлены сілы ў брыгадах? Аб гэтым у пісьме—ні слова. У ім няма канкрэтнасці, паказу вопыта.

А задача-ж паходу імя т. Гікало якраз у тым і заключаецца, каб на аснове лепшага вопыта барацьбы за лён у перадавых сельсоветах і калгасах падцягнуць адстаючыя калгасы, перанесці гэты вопыт у практычную работу па палыхтоўцы і правядзенню сяўбы ва ўсіх калгасах і сельсоветах раёна. А гэтай перадачы вопыта няма ні ў нумары газеты за 12 сакавіка, ні ў астатніх нумарах.

Аб уключэнні ў паход ёсць матэрыялы ў кожным нумары. 21-га сакавіка матэрыялы паходу займаюць цэлую паласу. У паход уключаюцца старшыні калгасаў, брыгадзіры, рэдкалегіі насценных газет. Але ўсе матэрыялы як дзве кроплі вады падобны адзін да аднаго. У іх гаворыцца аб тым, што калгасы гатовы да сяўбы, пералічваецца, колькі засыпана насення, адрамантавана інвентару, колькі вывезена гною і т. д. Далей ідуць абавязацельствы правесці сяўбу высокаякасна, дабіцца высокага ўраджаю ільну. Розніца толькі ў назвах калгасаў і ў лічбах.

Другой задачай паходу для дубровенскай газеты з'яўляецца глыбокае **ўскрыццё прычын адставання** раёна ў цэлым, асобных сельсоветаў і калгасаў у мінулым годзе, практычная дапамога калгасам у знішчэнні гэтых прычын. Тое, што газета гэтага не робіць, з'яўляецца буйнейшым недахопам у разгортванні паходу імя т. Гікало, недахопам, які газета павінна ўлічыць і неадкладна выправіць.

Грубейшай палітычнай памылкай Дубровенскай газеты з'яўляецца адсутнасць якой-бы там ні было работы па прапагандзе сталінскага статута сельгасарцелі, па разгортванню прапрацоўкі гэтага статута ва ўсіх калгасах і вёсках раёна.

24 лютага газета надрукавала даклад тав. Якаўлева на з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў аб прыкладным статуце, 28 лютага надрукавала статут. І гэтым абмежавалася. Ні аднаго артыкула аб найважнейшым значэнні статута, ні аднаго артыкула, які-б растлумачваў асновы гэтага важнейшага палітычнага дакумента, газета не дала.

Да 8 сакавіка газета зусім забывае пра статут. Толькі 8-га сакавіка яна змяшчае заметку з калгаса «Працавік», Баеўскага сельсовета: «Сталінскі статут —праграма нашых перамог». І ў гэтай першай заметцы аб прапрацоўцы статута напісана толькі тое, што.

**«З вялікай цікавасцю і ўважліва калгаснікі праводзяць распрацоўку новага статута сельскагаспадарчай арцелі, прынятага на другім усесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў. Распрацоўваючы сталінскі статут, калгаснікі, усе як адзін, заяўляюць, што ў гэтым годзе яшчэ з большай энергіяй будуць працаваць чэсна і добрасумленна з тым, каб у 1935 годзе стаць сапраўды заможнымі і культурнымі калгаснікамі».**

Але можа ў наступных нумарах газета дае разгорнутыя матэрыялы аб ходзе прапрацоўкі статута ў раёне?

Дарэмныя спадзяванні. Апрача абзаца ў прыведзеным вышэй пісьме брыгадзіраў калгаса «Чырвонае пабярэжжа», дзе яны абавязваюцца «змагацца за выкананне новага статута», і ў пісьме рэдактара насценнай газеты калгаса «Чырвоныя горы» Аляшкевіча Якіма, які піша:

**«Нашы калгаснікі, прапрацаваўшы новы статут сельскагаспадарчай арцелі, аднагалосна заявілі: «Будзем працаваць яшчэ лепш з тым, каб атрымаць высокі ўраджай і забяспечыць заможнае і культурнае жыццё калгаснікаў. Указанні нашага любімага правадыра і настаўніка таварыша Сталіна прабядзем у жыццё».**

Больш аб статуце ні ў гэтым, ні ў наступным нумары газета не заікнулася ні адным словам. Не даведаецца чытач у сваёй раённай газеце, як ідзе прапрацоўка сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі ў калгасах Дубровенскага раёна. Газета маўчыць. Маўчыць злосна, упарта.

А газета-ж абавязана на канкрэтных прыкладах паказаць, які ўдзел прымаюць калгаснікі і калгасніцы ў абмеркаванні статута, якія канкрэтныя прапановы, дадаткі ўносяць яны ў прыкладны статут, якія мерапрыемствы намячаюць для рэалізацыі кожнага пункта. Адначасова з гэтым газета абавязана ўскрываць і скажэнні прыкладнага статута, якія сустракаюцца ў асобных калгасах у часе канчатковага прыняцця статута, своечасова выпраўляць гэтыя скажэнні.

Прапаганда сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі, арганізацыя мас калгаснікаў на рэалізацыю кожнага пункта статута ў кожным калгасе—вось што газета павінна зрабіць асновай сваёй барацьбы за поспехі веснавой сяўбы, зрабіць цэнтральным звяном у сваёй рабоце па разгортванню паходу імя т. Гікало.

# Аб новым статуце і калгаснай брыгадзе

**КАЛГАСНЫ ЗМАГАР**

Год выдання V

Орган Бягомльскага РК КП(б)Б і РВК

Пастаянная брыгада — галоўнае звяно калгаснай вытворчасці. Практыка калгаснага будаўніцтва паказала, што лёс ураджаю цалкам залежыць ад работы брыгады, правільнай арганізацыі працы ў ёй.

Найбольшай прадукцыйнасці працы дабіліся брыгады, пабудаваныя паводле вытворчага прынцыпу, з пастаянным складам людзей, **замацаванымі за ёй участкамі ў палях севазвароту**, цягавай сілай і інвентаром і ўзброеныя дасканалым планавым заданнем на ўвесь сельскагаспадарчы год.

Толькі такая брыгада, пры бальшэвіцкіх адносінах да працы і разгортванні сацыялістычнага спаборніцтва, можа дабіцца рэкорднага ўраджаю.

Вось чаму сталінскі статут сельскагаспадарчай арцелі аддае вялікую ўвагу пытанню арганізацыі брыгад у калгасе, ліквідацыі абязлічкі ў рабоце. З прыняццем і ўвядзеннем новага статута кожны калгаснік павінен заняць пастаяннае месца ў калгаснай вытворчасці. Гэта добра ўлічыў дэлегат Усесаюзнага з'езда калгаснікаў-ударнікаў, перадавы брыгадзір Рэчыцкага раёна Тарас **Гарай.**

Вярнуўшыся са з'езда ў свой калгас «Савецкая Беларусь», ён адразу-ж узяўся за правядзенне ў жыццё статута сельгасарцелі ў рабоце сваёй брыгады. Брыгада Гарая зараз ужо мае план веснавой сяўбы, пастаянны склад людзей, замацаваныя за ёю ўчасткі ў палях севазвароту, цягавую сілу, інвентар. Вялікую ўвагу Гарай аддаў расстаноўцы людзей у самой брыгадзе, раздзяліў яе на звенні. Яго брыгада гатова хоць сёння выйсці ў поле. Гарай звярнуўся з заклікам да ўсіх калгасных брыгадзіраў наследаваць яго прыкладу, каб паспяхова правесці сяўбу і заваяваць права падпісаць рапарт любімаму правадыру таварышу **Сталіну.**

Бягомльская раённая газета **«Калгасны змагар»** поўнасцю перадрукавала пісьмо брыгадзіра Гарая ў нумары ад 10 сакавіка. Пасля гэтага вышлі тры нумары газеты, у якіх змешчаны водгукі

брыгадзіраў Бягомльскага раёна на заклік Гарая. Аднак, трэба сказаць, што газета вядзе спаборніцтва брыгад вельмі павярхоўна, не ўваходзячы ў сутнасць справы.

У нумары ад 13 сакавіка газета змяшчае адказ Гараю брыгадзіраў калгаса «Чырвоны баец». У гэтым пісьме, як і ў радзе іншых матэрыялаў, газета усім ігнаруе сталінскі статут сельскагаспадарчай арцелі. Больш таго: тут наогул няма нават самога слова **статут.** Газета забыла, што сваю **практычную работу па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы брыгада павінна весці зараз на аснове новага сталінскага статута,** штодзённа праводзячы яго ў жыццё.

Змяшчаючы пісьмо брыгадзіраў, газета мела пэўную мэту: перадаць іх вопыт работы і арганізацыі працы другім брыгадам уцягнуць у спаборніцтва ўсе калгасныя брыгады раёна. Але, на жаль, вопыту работы брыгад у перадавым калгасе газета і не паказвае.

Як арганізавана праца ў самой брыгадзе, ці замацаван за ёю пастаянны склад людзей, пастаянны вытворчы ўчастак, як гэтыя людзі расстаўлены, як яны будуць працаваць у часе сяўбы, — аб усім гэтым газета замоўчвае. Яна абмяжоўваецца толькі тым, што паказвае, колькі вывезена гною, якое становішча з насеннем, інвентаром і цягавай сілай. Усё гэта, зразумела, трэба паказаць. Але асноўнае — як у брыгадзе расстаўлены людзі, як пабудаваны звенні на час веснавой сяўбы, ці ведаюць члены брыгады, якія культуры і дзе яны будуць сеяць, — вось аб гэтым у пісьме няма ні слова.

Гэта не выпадкова. У наступным нумары за 15 сакавіка першая старонка газеты прысвечана надыходзячаму прабнаму выезду ў поле. У перадавым — «Праверка баявой гатоўнасці» — пералічваючы чарговыя задачы калгасаў, газета зноў ігнаруе новы статут сельскагаспадарчай арцелі і гэтым **адрывае** практычную падрыхтоўку да вясны ад правядзення статута ў жыццё ў кожным калгасе, кожнай брыгадзе.

У перадавым газета закранае пытанні аб насенні, цягавай сіле, рамонце інвентару. Але аб **людзях,** якія павінны ўсё гэта праводзіць у жыццё, газета зноў замоўчвае.

«Калгасны змагар» пачаў на сваіх старонках паказваць спаборніцтва калгасных брыгад. Але газета не зразумела, што ажыццявіць асноўную мэту спаборніцтва паміж калгасамі, брыгадамі і ўнутры брыгад: дабіцца ў гэтым годзе рэкорднага ўраджаю і апраўдаць званне орденаноснай рэспублікі можна толькі **на аснове правядзення ў жыццё сталінскага статута.** Поспех работы брыгады залежыць ад правільнай яе пабудовы і расстаноўкі людзей унутры брыгады так, як гэта прадугледжана новым статутам.

Вось гэтыя асноўныя моманты газета павінна ўлічыць пры далейшым разгортванні соцыялістычнага спаборніцтва калгасных брыгад.

# ВАЖНЕЙШАЯ СПРАВА ФАБРЫЧНА-ЗАВОДСКАГА ДРУКУ

«Узброеныя рашэннямі двух гістарычных з'ездаў мы ўступаем у 1935 сельскагаспадарчы год.

Мы маем выключныя даныя, каб гэты год зрабіць годам небывалага ўраджаю, каб гэты год зрабіць ва ўсім Советскім Саюзе і ў тым ліку ў Беларусі годам высокай ўраджайнасці, дабіцца для кожнага калгасніка заможнага жыцця і ператварыць усе калгасы ў бальшэвіцкія». (З прамовы т. Бенека на III усебеларускім з'ездзе рабселькораў).

Гэтыя задачы, пастаўленыя нашай ленінскай партыяй, ускладаюць вялікія абавязкі не толькі на раённыя і нізавыя соўгасныя і калгасныя друк, але і на шматтыражкі і нізавы друк нашых прадпрыемстваў. Пытанні шэфскай работы, дапамогі падшэфным калгасам у арганізацыі работы, у расстаноўцы рабочай сілы, ў рамонце інвентару, арганізацыі культурна-выхаваўчай работы—вельмі важныя пытанні работы фабрычна-заводскага друку.

Не менш важнымі з'яўляюцца і пытанні падрыхтоўкі і правядзення веснавой

сяўбы ў прыгарадных гаспадарках. Калгасы, як і калгасы і соўгасы, павінны працаваць так, каб і для калгасаў 1935 год з'яўляўся годам небывалых ураджаяў.

Зусім зразумела, што фабрычна-заводскі друк і рабкоры ў гэтай важнейшай рабоце павінны адыграць немалаважную ролю.

Як-жа нашы фабрычна-заводскія газеты практычна ажыццяўляюць свае абавязкі па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы?

Трэба прама сказаць, што вельмі дрэнна.

Газета **«Кіравец»** (завод імя Кірава, Менск) яшчэ ў пачатку студзеня гэтага года змясціла заметку «Шэфкуст бяздзейнічае». У гэтай заметцы сказана, аб тым, што шэфкуст не працуе, ніхто не цікавіцца справамі падшэфных калгасаў, што адказны за шэфства тав. **Крывашэеў** нават не ведае, хто ўваходзіць у шэфкуст.

Праз месяц у «Кіраўцы» з'яўляецца арганізаваны матэрыял аб падшэфных калгасах.

Рэдакцыя «Кіраўца» зрабіла вялікую справу. Яна арганізавала выезд у калгасы падшэфнага Каралішчанскага сельсовета. Брыгада «Кіраўца» азнаёмілася з становішчам калгасаў, выкрыла буйныя недахопы ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы і т. д.

Газета ў другі раз напісала аб дрэнным кіраўніцтве шэфкуста, аб тым, што, нарэшце, патрэбна ўзяцца за дапамогу падшэфным калгасам па-сапраўднаму.

Брыгада прыехала на завод, матэрыял змешчан. А што зроблена па гэтых матэрыялах? Невядома.

«Кіравец» маўчыць. Больш у газеце няма ні слова аб падшэфных калгасах, аб падрыхтоўцы да вясны, аб дапамозе падшэфным калгасам.

Сур'ёзнейшыя сігналы «Кіраўца» асталіся ў паветры.

Што датычыць падрыхтоўкі да веснавой сяўбы калгаса, то ў «Кіраўцы» мы аб гэтым ні слова не знаходзім.

***

На торфзаводзе «Асінторф» ёсць досыць вялікая прыгарадная гаспадарка, ёсць і малочная ферма. У мінулыя гады прыгарадная гаспадарка Асінторфа стаяла на адным з апошніх месц у рэспубліцы.

Мы прагледзелі камплект газеты **«За торф»** (орган парткома і торфкома Асінторфа) і ні ў адным нумары не знайшлі нічога аб становішчы падрыхтоўкі да веснавой сяўбы ў прыгараднай гаспадарцы.

***

«Арганізуем соцспаборніцтва калгасаў на лепшую падрыхтоўку і сустрэчу з'езду саветаў». Пад такім аншлагам газета **«Металіст»** (завод «Чырвоны металіст» імя Кірава, Віцебск) прысвячае цэлую паласу пытанням работы падшэфных калгасаў.

У невялікім перадавым артыкуле газета пісала:

> **«Выязная рэдакцыя завода за тры дні знаходжання ў падшэфных калгасах «2-я пяцігодка» і «Прагрэс» зрабіла пачатак той работы, якая ў далейшым павінна весціся сістэматычна».**

Але, на жаль, газета забыла пра свае-ж словы.

На гэтым выездзе рэдакцыя супакоілася. Больш яна не займалася падшэфнымі калгасамі, больш ні слова вы не знойдзеце аб падрыхтоўцы да сяўбы.

Як і газета **«За торф»**, газета «Металіст» ні аднаго слова не сказала аб прыгараднай гаспадарцы завода, нібы яе і не існуе.

***

Прыведзеныя вышэй прыклады работы паасобных фабрычна-заводскіх газет паказваюць, што фабрычна-заводскі друк Беларусі вельмі дрэнна ўключыўся ў справу арганізацыі дапамогі падшэфным калгасам у большэвіцкай падрыхтоўцы і правядзенні веснавой сяўбы, выключна дрэнна арганізаваў барацьбу за паспяховае правядзенне сяўбы ў прыгарадных гаспадарках.

Многія шматтыражкі фабрык і заводаў практыкуюць час ад-часу выезды рабкораў у калгасы. У выніку гэтых выездаў з'яўляюцца на старонках фабрычна-заводскіх газет **матэрыялы** аб тым ці іншым калгасе і т. д. Гэта вельмі добра.

Але... Выехала брыгада з калгаса і ўсякая сувязь рэдакцыі з падшэфным калгасам спыняецца. Выезды рабкораў у падшэфныя калгасы патрэбна практыкаваць **не толькі і не столькі** для арганізацыі матэрыялаў для газеты, колькі ў першую чаргу для **сувязі рабкораў завода з селькорамі падшэфных калгасаў.**

Перад брыгадамі рабкораў шматтыражак, якія выязджаюць у калгас, трэба ставіць задачу: дапамагчы калгасу наладзіць работу друку, перанесці ў калгас метады работы прадпрыемства ў барацьбе за план, за якасць работы, па арганізацыі соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Гэтыя выезды павінны быць больш доўгімі.

Кожнай фабрычна-заводскай шматтыражцы трэба ўстанавіць сувязь з селькорамі падшэфных калгасаў, мець з імі сістэматычную перапіску. Гэта дасць магчымасць сістэматычна змяшчаць матэрыял на старонках газеты аб сваіх падшэфных калгасах, быць у курсе іх работы.

Вельмі каштоўна будзе прымацаваць насценгазеты паасобных цэхаў да пэўных брыгад падшэфных калгасаў і сістэматычна сачыць за іх сувяззю.

Адной з важнейшых задач усіх фабрычна-заводскіх газет зараз з'яўляецца дапамога калгасам у распрацоўцы сталінскага статута калгаснага заможнага жыцця. Нашы рабкоры і фабрычна-заводскі друк павінны дапамагчы давесці гэты статут да кожнага калгаснага двара, да кожнага калгасніка ў паасобку.

Газета можа сумесна з шэфкустом арганізаваць выезд у падшэфны калгас брыгады старых рабочых і рабкораў для прапрацоўкі статута, звязваючы прапрацоўку з практычнымі задачамі падрыхтоўкі і правядзення веснавой сяўбы 1935 года.

---

# У САМАГУБСТВЕ ЧАРНАВУСАВАЙ ВІНАВАТА І РАЁННАЯ ГАЗЕТА

7 сакавіка настаўнік бельскай няпоўнай сярэдняй школы, Крычаўскага раёна, Салаўёў згвалціў 15-гадовую вучаніцу гэтай-жа школы Чарнавусаву Вольку. Праз некалькі дзён Чарнавусава пакончыла жыццё самагубствам.

Калі гэта справа разбіралася на бюро ГК КП(б)Б рэдактар крычаўскай раённай газеты «Соцыялістычны шлях» **Жураўлёва** і намеснік рэдактара т. **Гармоцька** паспяшаліся заверыць, што газета займалася нямала справамі школ, што аб тых агіднасцях, якія былі ў школах, асабліва бельскага сельсовета, яны сігналізавалі, зрабілі ўсё, што можна было.

Ці так гэта?

Сапраўды, аб рабоце школ, у прыватнасці аб бельскай, газета атрымала нямала сігналаў. Селькоры пісалі аб тым, што не працуе комсамольская і піонерская арганізацыі, што ў бельскай школе не праводзіцца ніякай па-за-школьнай работы з вучнямі, што настаўнікі п'янствуюць і т. д. і т. д.

Вось вучань IV класа «Б» піша яшчэ ў пачатку студзеня аб тым, што «у бельскай НСШ не праводзіцца грамадская работа, не працуюць грамадскія арганізацыі, як Асоавіяхім, «Бязбожнік», «МОПР». Гэты сігнал так і астаўся сігналам у сцепах рэдакцыі.

Другі вучань піша аб тым, што

**«Нармальныя заняткі 2-й змены бельскай школы сістэматычна зрываюцца»,**

што настаўнікі, зрываючы заняткі гавораць: «Нам вас школа позна затрымліваць». На справе-ж яны адпускалі рана дзяцей таму, што часта наладжвалі п'янкі, балы.

4 снежня мінулага года вучні і селькоры пішуць аб тым, што ў бельскай школе:

**«Піонерработы няма. Піонерработнік Ткачова толькі грошы атрымлівае, але нічога не робіць».**

А колькі заметак было аб дрэннай рабоце школьнай бібліятэкі, аб збіванні вучняў настаўнікамі!

Як-жа да гэтых сігналаў адносілася крычаўская раённая газета **«Соцыялі-**

стычны шлях»? Па-казённаму, па-бюракратычнаму.

У лепшым выпадку гэтыя сігналы даваліся па некалькі радкоў петытам у аддзеле «Кароткія сігналы», а ў большасці — пасылаліся ў райана, якое не рэагавала на іх, або рэагавала фармальна.

Так, у канцы лютага рэдакцыя выявіла ў райана 42 допісы, якія ляжалі без рэагавання. Нават пасля рэйду па праверцы рэагавання і пастановы бюро РК КП(б)Б па яго выніках, **пасля самагубства вучаніцы Чарнавусавай** Волькі, у райана знойдзена 8 заметак аб дрэнна пастаўленай выхаваўчай рабоце ў школах Бельскага сельсовета і, асабліва, у бельскай школе.

А рэдакцыя райгазеты, адаслаўшы гэтыя заметкі ў райана, палічыла сваю місію скончанай. Яе не трывожаць шматлікія сігналы аб бельскай школе. Яна не паслала свайго работніка праверыць, што робіцца ў гэтай школе. Нават пасля таго, як быў змешчан сігнал аб тым, што ў бельскай школе настаўнікі п'янствуюць, наладжваюць банкеты, на якія запрашаюць вучаніц, рэдакцыя не падняла гэта пытанне на прынцыповую вышыню.

Не гледзячы на шматлікія сігналы селькораў аб тым, што ў многіх школах дрэнна абстаіць справа з выхаваннем вучняў, што рад настаўнікаў проста разлажылася, п'янствуюць, «Соцыялістычны шлях» не даў аб школах ні аднаго перадавога артыкула, ні адной сур'ёзнай падборкі, абмежаваўся толькі «кароткімі сігналамі».

Селькоры прадаўжалі пісаць аб агіднасцях у школах, настойліва патрабуючы рэагавання. Але рэдакцыя іх допісы проста здавала ў архіў.

Адзін з вучняў піша заметку аб агіднасцях настаўніка **Салаўёва** (таго самага, што згвалціў вучаніцу Чарнавусаву), сігналізуе аб тым, што ён папаліў добрыя пуні, патрэбныя для школ. Гэта заметка пасылаецца проста ў архіў.

Вучань пад псеўданімам «Селькор» зноў піша, што зрываюцца заняткі 2-й змены бельскай школы, патрабуе рэагавання на гэту агідную з'яву. Гэта заметка пасылаецца ў... архіў з рэзалюцыяй т. **Гармоцькі:** «Такая заметка была ўжо паслана ў райана».

Селькоры пішуць аб тым, што загадчык хаты-чытальні **Дзяўбушоў** не працуе, што з бельскай школьнай бібліятэкі не выдаюць вучням кнігі — гэтыя заметкі ідуць у архіў з рэзалюцыяй: «Падобнае змяшчалася».

Усё гэта гаворыць аб тым, што работнікі крычаўскай раённай газеты страцілі пачуццё адказнасці за большэвіцкае рэагаванне на кожны сігнал селькора, што яны страцілі класавую пільнасць.

Усё гэта гаворыць аб тым, што ў Крычаве няма работы з допісамі і пісьмамі працоўных. Рэдакцыя такімі адносінамі да пісем і допісаў сама патурала зажымшчыкам крытыкі і самакрытыкі, сама замазвала тыя агіднасці, аб якіх сігналізавалі селькоры, і тым дапамагала стварэнню гнілой абстаноўкі ў бельскай школе, пры якой магчымы быў нечуваны, дзікі выпадак згвалцення настаўнікам вучаніцы.

Вось чаму **вінавата і рэдакцыя крычаўскай раённай газеты,** якая мела нямала сігналаў аб гнілой абстаноўцы ў бельскай і другіх школах, але на гэтыя сігналы не рэагавала.

---

## ЗА ГЛЫБОКУЮ І СІСТЭМАТЫЧНУЮ ВУЧОБУ КАЛГАСНАГА РЭДАКТАРА

□ □ □ □ □

# Вопыт Аршаншчыны—ва ўсе раёны БССР



**Асобныя выданні «Крестьянской газеты» ў дапамогу завочнай вучобе рабселькораў.**

13-га сакавіка пры рэдакцыі аршанскай раённай газеты **«Ленінскі прызыў»** адбылася раённая канферэнцыя рэдактароў насценгазет — завочнікаў курсаў **«Крестьянской газеты».** Канферэнцыя была прысвечана першым рэзультатам вучобы, выяўленню таго, што дала рэдактарам завочная вучоба і якія недахопы яшчэ ёсць у ёй. На канферэнцыі выступіла каля 15 завочнікаў. Усе яны заявілі аб велізарнейшай карысці завочнай вучобы, аб паляпшэнні работы рэдагуемых імі насценгазет.

Ніжэй мы друкуем артыкул рэдактара аршанскай газеты т. **Дамарацкага** аб вопыце арганізацыі ў раёне завочнай вучобы, а таксама выступленні завочнікаў. У Аршанскім раёне вучоба пастаўлена як належыць. Аршанская газета «Ленінскі прызыў» паказала сапраўдны прыклад сур'ёзных большэвіцкіх адносін да арганізацыі завочнай вучобы селькораў — каштоўнейшай ініцыятывы «Крестьянской газеты».

Інакш аднеслася да гэтай важнейшай работы большасць раённых газет БССР.

Зразумела, было-б няправільна сцвярджаць, што ўсе астатнія раённыя газеты Беларусі зусім не займаюцца завочнай вучобай рэдактароў. Аднэсна нядрэнна пастаўлена вучоба ў Тураўскім, Дрысенскім, Клімавіцкім, Горацкім, Плешчаніцкім і некаторых іншых раёнах.

Але калі ў памянёных раёнах вучоба пастаўлена больш-менш здавальняюча, то ў астатняй, значна большай, частцы раёнаў завочная вучоба амаль зусім не разгорнута. Віна за гэта кладзецца ў першую чаргу на рэдакцыі раённых газет гэтых раёнаў.

Селькоры Кармянскага раёна зусім не ведаюць пра існаванне завочных курсаў «Крестьянской газеты». Раённая газета **«Калгаснік Кармяншчыны»** нават аб існаванні курсаў не паведаміла селькорам, не гаворачы ўжо аб тым, што яна павінна быць **арганізатарам** завочнай вучобы ў раёне.

Таксама нічога не ведаюць пра завочную вучобу селькоры Капыльскага, Старобінскага, Старадарожскага, Барысаўскага і раду другіх раёнаў. Аб гэтым гавораць дзесяткі пісьмаў селькораў, атрыманых рэдакцыяй газеты «Калгаснік Беларусі».

Вось чаму мы настойліва раім усім рэдактарам раённых газет выкарыстаць вопыт аршанскай газеты і Аршанскага райкома партыі па арганізацыі завочнай вучобы рэдактароў насценгазет і селькораў.

Пара ўсім рэдакцыям раённых газет сур'ёзна ўзяцца за **глыбокую і сістэматычную вучобу рэдактара калгаснай газеты.**

**К. ДАМАРАЦКІ.**

рэдактар газеты «Ленінскі прызыў». (Ор ша).

# Як мы арганізавалі вучобу завочнікаў

Вучоба рэдактароў калгасных і брыгадных насценгазет на завочных курсах «Крестьянской газеты» ў **Аршанскім раёне** пачалася 25-га студзеня. Першая кансультацыя адбылася 2-га лютага

Мы паставілі перад сабой задачу: набраць на завочныя курсы «Крестьянской газеты» сапраўды лепшых калгаснікаў, рэдактароў і членаў рэдкалегій насценгазет. стварыць ім умовы для вучобы.

Атрымаўшы пісьмо з «Крестьянской газеты» аб курсах, мы праз парторгаў і старшынь калгасаў абвясцілі набор на гэтыя курсы. На працягу двух тыдняў колькасць запісаўшыхся на курсы дасягнула 183 чалавек.

Але склад запісаўшыхся нас ні ў якім выпадку не задавальняў, бо каля 60 проц. у ім было рахункаводаў, настаўнікаў і вучняў і зусім мала калгаснікаў, занятых на непасрэднай вытворчай рабоце.

Разам з інструктарамі райкома партыі і парторгамі мы праверылі кожнага запісаўшагася на курсы. Не дапусцілі на курсы 60 чалавек. Замест іх падабралі кандыдатуры з лепшых членаў рэдкалегій і селькораў.

Сабралі арганізацыйны сход курсантаў і абвясцілі рэзультаты камплектавання. Ужо гэта адно мерапрыемства падняло аўтарытэт курсаў і выклікала сур'ёзныя адносіны рэдактароў насценгазет да вучобы.

Але нам трэба было стварыць больш адчувальны пералом у адносінах да вучобы калгасных рэдактароў і ў кіраўнікоў пярвічных партыйных арганізацый, сельсоветаў і інструктароў райкома. Тут мы дзейнічалі праз райком партыі. Як толькі скончылі камплектаванне і правялі арганізацыйны сход, пытанне аб завочнай вучобе рэдактароў было пастаўлена на бюро райкома партыі. Райком абавязаў інструктароў, парторгаў, старшынь сельсоветаў і старшынь калгасаў стварыць усе неабходныя ўмовы для нармальнай вучобы і ўсклаў персанальную адказнасць за вучобу рэдактароў, за іх яўку на кансультацыі на інструктароў райкома і парторгаў.

Адначасова райком партыі ўстанавіў дні правядзення кансультацый. Райком абавязаў усе партыйныя, совецкія і іншыя арганізацыі ў дні кансультацыі — 2, 13 і 22 кожнага месяца—не праводзіць ніякіх масавых сходаў, пасяджэнняў і т. д.

Следам за гэтай арганізацыйнай работай перад намі паўстала пытанне аб кансультацыі.

Вопыту ў нас не было. Нам раілі склікаць кансультацыі пры рэдакцыі раённай газеты з той мэтай, каб кан-



□ □ □



□ □ □



**НА ЗДЫМКАХ**
**Уверсе — т. МАГЕРАЎ МІХАСЬ** рэдактар насценгазеты калгаса «Працавік», завочнік; далей — **ФЁДАР ШУКАЎ** —рэдактар насценгазеты калгаса «Комунар».
**Унізе — БАЦЮКОЎ** — рэдактар насценгазеты калгаса «Чырвоныя ўсходы», завочнік.

сультацыю па газетных дысцыплінах праводзіў рэдактар раённай газеты. Але што значыць сабраць у раён на кансультацыю 94 чалавекі? Ці-ж кансультант змог-бы праверыць і ўлічыць работу кожнага завочніка і аказаць кожнаму патрэбную дапамогу? Гэта фізічна немагчыма было зрабіць. К таму-ж збіраць тры разы ў месяц завочнікаў з усяго раёна ў Оршу значыла-б ніколі не дабіцца поўнай яўкі на кансультацыі. І мы рашылі склікаць кансультацыі ў пяці пунктах на зонах дзейнасці інструктароў райкома партыі.

Такое вырашэнне пытання аб месцы кансультацыі дало наступныя станоўчыя рэзультаты: колькасць слухачоў на кансультацыі не перавышае 25, адлегласць да месца кансультацыі скарацілася да 10-12 кілометраў. Райком партыі і райвыканком абавязалі парторгаў, старшынь сельсоветаў і калгасаў арганізаваць падвозку завочнікаў да месца кансультацыі і вызваляць іх ад якойбы там ні было работы ў дні кансультацыі.

Не менш сур'ёзнай задачай быў падбор кансультантаў. Мы добра ўлічылі, што якасць кіраўніка кансультацыі, яго падрыхтаванасць вырашае і якасць вучобы завочнікаў. Таму падбору кіраўнікоў кансультацыі мы надалі вялікае значэнне.

Кансультацыю па газетных дысцыплінах мы даручылі найбольш моцным работнікам рэдакцыі: рэдактару, намесніку рэдактара, загадчыкам партыйным, прамысловым і сельскагаспадарчым аддзеламі. Перад кожнай кансультацыяй я праводжу нараду кансультантаў, правяраю іх падрыхтаванасць. На гэтых нарадах кансультанты абменьваюцца думкамі, як лепш праверыць якасць работы завочніка, на што трэба звярнуць асаблівую ўвагу. Пасля кожнай кансультацыі кансультанты робяць справаздачы на вытворчай нарадзе рэдакцыі, як у іх прайшла кансультацыя, якая якасць прапрацоўкі і ўсваення слухачамі пройдзенай тэмы, якія былі найбольш характэрныя выступленні і т. д.

Па роднай мове склад кансультантаў падабран з лепшых выкладчыкаў літаратуры і мовы поўных і няпоўных сярэдніх школ.

Не асталося па-за нашай увагай і памяшканне для правядзення кансультацыі. Гэта на першы погляд як-бы дробнае пытанне. Між тым яно мае ў практыцы вялікае значэнне. Таму мы рашылі кансультацыю праводзіць, як правіла, ў памяшканнях школ. Слухачы ў часе кансультацыі сядзяць за партамі, знаходзячыся ў сапраўднай школьнай абстаноўцы, усе распранаюцца, здымаюць галаўныя ўборы, не кураць і т. д.

З пачатку вучобы намі праведзены чатыры кансультацыі, пятую замянілі агульнараённай канферэнцыяй завочнікаў. Наведванне кансультацый характарызуецца наступнымі лічбамі: на першай кансультацыі з 94 чалавек прысутнічала 91, на другой — 92, на трэцяй — 74, на чацвертай — 76. Некаторае зніжэнне процанта наведвання апошніх двух кансультацый тлумачыцца тым, што ад нашага раёна адышлі ў нова-створаныя раёны тры сельсоветы, дзе было 15 завочнікаў. Такім чынам нам удалося дасягнуць амаль стопроцантнага наведвання кансультацый завочнікамі.

Дзе-ні-дзе былі спробы сарваць акуратнае наведванне кансультацый, але мы з імі рашуча змагаліся. У гэтай справе рэдакцыі многа дапамог райком партыі, які наогул усёй справе завочнай вучобы рэдактароў насценгазет удзяліў выключна вялікую ўвагу.

Вось, напрыклад, у Высоцкім кусце на трэцюю кансультацыю не з'явілася з Шашкоўскага сельсовета 6 завочнікаў. Рэдакцыя напісала ім пісьмы, патрабаваўшы даць тлумачэнні прычын няяўкі. Паслалі пісьмо парторгу сельсовета тав. **Завацкаму.** Высвятлілася, што праўленні асобных калгасаў не вызвалілі завочнікаў ад работы ў дзень кансультацыі. Або вось яшчэ адзін факт. Старшыня калгаса «Вольная Беларусь» **Мішэеў** наогул забараніў завочніку т. **Макарэнка** наведваць кансультацыю і брыгадзіру загадаў не даваць т. Макарэнка каня.

Як толькі мы даведаліся пра гэтыя агіднасці, зараз-жа праз райком партыі дабіліся прыняцця тэрміновых мер. Парторг тав. Завацкі атрымаў партыйнае спагнанне, а старшыня калгаса «Вольная Беларусь» Мішэеў зняты з работы.

Некалькі слоў аб тым, як мы арганізавалі работу завочніка ў часе кансультацыі. Для кожнай кансультацыі ў

нас адведзена шэсць акадэмічных гадзін. Тры гадзіны ідзе на газетныя дысцыпліны і тры — на беларускую мову.

Распарадак вучэбнага часу такі: першая вучэбная гадзіна ідзе на праверку ўсваення завочнікамі прачытанага па заданню матэрыялу. Гэта ўстанаўляецца 6—7 пытаннямі кансультанта. Пры адказе на тое ці іншае пытанне мы патрабуем ад слухача абавязкова расказаць, як у яго ў рэдкалегіі арганізавана работа (напрыклад планаванне, масавая работа з селькорамі, тэматыка насценгазеты і т. д.), як ён у сваёй практычнай рабоце выконвае тыя ўказанні, якія ён атрымаў у рэзультаце прапрацоўкі задання.

Мы абавязалі кожнага курсанта прыносіць на кансультацыю сваю насценную газету. На кансультацыі мы даем кожнаму курсанту насценгазету, вядома не тую, якую ён рэдагуе, а газету другога калгаса для прагляду. На прагляд газет адведзена 25 — 30 мінут. Азнаёміўшыся з насценгазетай, курсант робіць вусны агляд яе. Указвае на станоўчыя і адмоўныя бакі, робіць ацэнку не толькі газеты, але і завочніка-рэдактара яе ў тым напрамку, як той усвоіў і на практыцы ажыццяўляе атрыманыя веды. Даюцца прапановы, як палепшыць газету.

Такім чынам мы правяраем і іншыя заданні па практычнай рабоце. Разбіраем складзеныя курсантамі планы работы рэдкалегій насценгазет, расклад дзён выхаду газеты, планы чарговых нумароў і т. д. На гэта ідзе другая гадзіна.

Астатні час займаем для азнаямлення з важнейшымі палітычнымі падзеямі, для прапрацоўкі рашэнняў партыі і ўрада.

Трэба адзначыць, што такі метад кансультацыі даў вельмі добрыя рэзультаты. Вось некалькі прыкладаў.

Праводзіў я першую кансультацыю ў Высоцкай зоне. Насценныя газеты прынеслі толькі тры завочнікі. Прышлося падзяліць слухачоў на тры групы, па некалькі чалавек у кожнай. Даў ім заданне зрабіць агляд прынесеных газет. Яшчэ пры чытцы ў групах пачаліся гарачыя спрэчкі пры ацэнцы той ці іншай заметкі, яе стылю, палітычнай завостранасці і т. д. А калі пачалі рабіць вусныя агляды, то літаральна ўсе слухачы

ЗА ЎДАРНУЮ ВУЧОБУ

За якасць вучобы, за першынства ў спаборніцтве!

Завочнікі аб сваей вучобе

КУРСЫ МНОГАМУ НАВУЧЫЛІ

ГАЗЕТА СТАЛА КУЛЬТУРНАЙ

УКЛЮЧАЕМСЯ У СОЦСПАБОРНІЦТВА

**Спецыяльнае выданне аршанскай раённай газеты, прысвечанае завочнай вучобе рэдактароў насценгазет.**

○ ○

хацелі выказацца. І трэба сказаць, таварышы вельмі дзелавіта заўважылі асноўныя недахопы зместу прагледжаных насценгазет: агульнасць, няўменне выдзяляць галоўнае ў матэрыяле, адсутнасць масавасці і надзвычайная вузкасць тэматыкі.

Больш за ўсё дасталося на гэтай кансультацыі рэдактару насценгазеты калгаса «Ударнік» завочніцы **Дзерваед** Улляне. У насценгазеце калгаса «Ударнік» пералічаныя недахопы былі асабліва ярка выражаны.

Давялося чырванець Улляне Дзерваед за сваю газету. І тут-жа яна дала абяцанне ў наступны раз прынесці на кансультацыю газету, якая была-б лепш чым у астатніх таварышоў. Тав. Дзерваед нядрэнна выканала сваё абавязацельства. Яе газета на выстаўцы к раённай канферэнцыі завочнікаў была ў ліку лепшых насценных газет раёна.

Ды не толькі адна тав. Дзерваед у выніку вучобы на курсах стала лепш працаваць. Непазнавальна лепш выпускаюць насценгазеты цяпер і тт. **Бе-**

**раснёў, Шакуцін, Шульгін, Белкін,** словам кожны завочнік.

Аб тым, як завочная вучоба дапамагае рэдактару-завочніку ў рабоце, вельмі ярка гаварылі завочнікі на сваёй раённай канферэнцыі, праведзенай у Оршы 13 сакавіка.

Узяць хоць-бы тав. **Загарэльскага.** На пытанне, што дала яму вучоба, ён адказаў так:

— Насценная газета «За заможнае жыццё» фактычна існуе з ліпеня 1934 года, але работу як належыць разгарнула толькі з студзеня 1935 года, з часу маёй вучобы на завочных курсах. Да гэтага рэдкалегія працавала дрэнна, газета выходзіла два-тры разы ў месяц. Пісалася няграматна, дзе карандашом, дзе чарнілам. Прачытаеш другую заметку і не зразумееш, аб чым у ёй гаворыцца. Ніякага выгляду не мела газета, заметкі часта былі без загалоўкаў. Аб плане работы рэдкалегіі і ўспамінy не было. Проста сорамна зараз успомніць. Іншыя справы ў нас зараз. У мяне ёсць план работы рэдкалегіі, расклад выхаду газеты, канкрэтныя планы чарговых нумароў. Размеркаваў абавязкі сярод членаў рэдкалегіі. Кожны з нас адказвае за пэўны ўчастак работы. Ужо маем больш 17 селькораў.

А вось завочнік **Захараў** Арсені так ацэньвае значэнне для яго вучобы:

— На першай кансультацыі слухачы адзначылі, што загаловак у маёй газеце неахайны, заметкі неразборчыва напісаны, а ўся газета афармлена надзвычай дрэнна. Пры выпуску чарговага нумара я ўсё гэта ўлічыў і выправіў. Цяпер выпускаем насценгазету па плану, праз кожныя чатыры дні.

На раённай канферэнцыі завочнікі адзначалі высокую якасць вучэбных заданняў «Крестьянской газеты».

У пачатку вучобы мы мелі сярод завочнікаў толькі 35 процантаў рэдактароў насценгазет. Цяпер усе завочнікі за нязначнымі выключэннямі выбраны рэдактарамі. Гэта ярка гаворыць аб росце таварышоў за час вучобы на завочных курсах.

Ёсць нямала завочнікаў, якія ўжо цяпер могуць справіцца з работай у раённай газеце. Пасля сканчэння вучобы мы і бярэм нашых лепшых завочнікаў на работу ў рэдакцыю «Ленінскага прызыва». Тав. **Шчэрбава** Сямёна — рэдактара насценгазеты калгаса «XVI партз'езд» бярэм у якасці намесніка загадчыка сельгассектарам, двух таварышоў бярэм інструктарамі.

Але сёння ніяк нельга прайсці міма раду недахопаў у вучобе. Галоўным недахопам з'яўляецца слабае ўсваенне вучэбных заданняў па беларускай мове. Калі па газетных дысцыплінах колькасць непаспяваючых дасягае толькі 15 чал., то па беларускай мове колькасць слаба ўсвоіўшых вучэбны матэрыял перавышае 32 чалавекі.

Каб палепшыць якасць усваення вучэбнага матэрыялу па беларускай мове, мы зараз дабавілі адну кансультацыю спецыяльна па беларускай мове.

У заключэнне неабходна яшчэ раз падкрэсліць галоўнае, што забяспечвае поспех завочнай вучобы ў нашым раёне,— гэта выключна вялікая ўвага партыйнай арганізацыі справе выхавання і падрыхтоўкі большэвіцкіх кадраў кіраўнікоў калгаснага друку.

З першага дня вучобы і па гэты час райком партыі акружаў завочнікаў выключнай увагай. Райком партыі і райвыканком са сваіх сродкаў выдзелілі звыш 2 тысяч руб. на завочную вучобу. Вялікую ўвагу аддаюць завочнікам інструктары райкома партыі. Узяць хоць-бы тт. **Кегелеса і Здановіча,** якія прысутнічаюць амаль на ўсіх кансультацыях, цікавяцца тым, як кожны завочнік вучыцца, хто з завочнікаў не з'явіўся, правяраюць прычыны няяўкі.

Можна прывесці не адзін факт, які гаворыць аб вялікай увазе да вучобы завочнікаў з боку партыйных арганізатараў. Трэба адзначыць парторга Дуброўскага сельсовета тав. **Якубоўскага** Кірыла. Тав. Якубоўскі сістэматычна правярае кожнага завочніка, як ён прапрацаваў вучэбны матэрыял па заданню, як працуе насценгазета, якую рэдагуе завочнік, дапамагае завочніку, дае практычныя парады па тых ці іншых пытаннях масавай работы.

Такая ўвага з боку ўсёй партыйнай арганізацыі раёна і з'явілася зарукай паспяховага правядзення вучобы.

Не пазней 15-га красавіка — пачатку палявых работ — прапрацоўка ўсяго вучэбнага матэрыялу будзе закончана.

**С. ШЧАРБАКОЎ**

рэдактар насценгазеты калгаса «16-ты партз'езд».

# Што я атрымаў за два месяцы вучобы

З першых-жа дзён вучобы я адчуў, што курсы «Крестьянской газеты» дадуць мне якраз тое, што вельмі патрэбна мне, як рэдактару насценгазеты, — веды, як арганізаваць работу рэдкалегіі і выпуск насценгазеты. Адразу мы адчулі тую сур'ёзнасць і ўвагу, з якою адносіліся да нас, завочнікаў, раённая газета і райком партыі.



Я працую рэдактарам насценгазеты **«Ударнік калгаснага поля»** з 1933 года. І раней наша насценгазета была не на дрэнным рахунку ў раёне. Але калі цяпер я ўспамінаю, як мы працавалі раней і параўноўваю з тым, як павінна насценгазета працаваць, то мне становіцца ясным, што працавалі мы раней дрэнна.

Да курсаў я нават не ведаў, што рэдкалегія павінна працаваць па плану. На курсах я не толькі даведаўся пра гэта, але і навучыўся складаць план. Цяпер наша рэдкалегія мае план масавай работы на два месяцы. Мы таксама складаем канкрэтны план на кожны нумар насценгазеты за некалькі дзён да яго выхаду. План вельмі дапамагае ў рабоце. Мы даем кожнаму члену рэдкалегіі заданне, вызначаем, які матэрыял, аб чым, у які нумар павінен быць арганізован.

Або вось скажу аб рэйдах. Чуў я і раней, што насценгазета павінна арганізоўваць рэйды селькораў. Але як праводзіць рэйды — гэтага не ведаў. У заданні-ж курсаў «Крестьянской газеты» ўсё падрабязна было растлумачана. Прапрацаваў я гэта заданне разам з усімі селькорамі нашага калгаса. Добра мы ўсё запамяталі і нядаўна правялі ўжо рэйд па праверцы падрыхтаванасці калгаса да сяўбы.

Раней у нас у калгасе усе лічылі, што кожны селькор павінен мець пэўны псеўданім. Без псеўданіма, думалі, і заметка не заметка. І стракацiла тады насценгазета ўсякімі «ведаючымі», «праезджымі», «вокамі», «шпількамі». За псеўданімамі не відаць было жывых людзей, удзельнікаў насценгазеты. Прынёс я на першую кансультацыю адзін з нумароў нашага «Ўдарніка калгаснага поля». Паглядзелі таварышы на газету і ўказалі мне на тое, што ў газеце занадта многа псеўданімаў. І тут-жа па заданню мы прапрацавалі раздзел аб тым, чаму менш патрэбна ўжываць у насценгазеце псеўданімаў.

Указвалі мне на кансультацыі і на дрэнную мову асобных заметак, а з матэрыялаў курсаў мы даведаліся, што мова насценгазеты павінна быць самай зразумелай, каб заметку маглі лёгка прачытаць кожны калгаснік і калгасніца.

Цяпер мы больш працуем над мовай кожнай заметкі, імкнемся падаць заметку як можна жывей, ярчэй, цікавей. Сталі змяшчаць у насценгазеце вершы, частушкі, невялікія фельетоны.

Заняткі на завочных курсах прывучылі мяне працаваць над сабой. Цяпер, калі толькі маю вольную гадзіну, саджуся за кнігу, за газеты і журналы. З газет выпісваю «Звязду» і «Ленінскі прызыў», выпісваю журналы — «Рабкресткор» і «Вокруг света». Пачаў чытаць мастацкую літаратуру. З пачатку заняткаў на курсах прачытаў «Поднятую целину», «Дрыгву», «Спалох на загонах» і «Железный поток».

**Вельмі і вельмі дзякую «Крестьянской газете» і раённай газеце «Ленінскі прызыў» за добрую арганізацыю завочнай вучобы рэдактароў калгасных насценгазет.**

**А. БЕЛКІН**

рэдактар насценгазеты калгаса «X з'езд советаў».

# ПЕРАДАВЫ КАЛГАС БУДЗЕ МЕЦЬ ЛЕПШУЮ У РАЁНЕ НАСЦЕНГАЗЕТУ

Памятаю, гэта было ў пачатку студзеня. Прыязджаў да нас у калгас тав. **Дамацкі** — рэдактар «Ленінскага прызыва». Паглядзеў нашу насценгазету, гутарыў з членамі рэдкалегіі. Мне сказаў, што залічыць мяне на завочныя курсы рэдактароў насценгазет.

Я ў калгасе кавалём працую. Апрача молата і кавадла мала што ведаў. І вось атрымліваю аднаго разу паперку: з'явіцца ў Якаўлевічы на кансультацыю завочнікаў і прынесці з сабой апошні нумар насценгазеты.

Ну, думаю, курсы дык курсы, трэба ісці. Зняў я са сцяны насценгазету і пашоў у Якаўлевічы. Трэба сказаць, насценгазета тады была ў нас слабая. А той нумар, як на зло, вісеў на сцяне з паўгода.

Кансультацыя пачалася з прагляду прынесеных намі насценгазет. Дайшла чарга і да мяне. Разгарнуў я сваю насценгазету, а ўсе як зарагочуць: што гэта, кажуць, у цябе з насценгазетаю? У якім пераплёце яна была?

Пачаў мяне прадстаўнік раённай газеты распякаць. Многа сораму прыняў я тады на сябе за той нумар насценгазеты. **Але многаму і навучыўся.** Даведаўся я, што ад насценгазеты карысць тады, калі яна часта выходзіць, калі хутка адгукваецца на розныя падзеі ў калгасе.

Таксама гаварылі на першай кансультацыі аб тым, што трэба дабівацца рэагавання на кожную заметку, змешчаную ў насценгазеце.

Далі нам першае заданне па вучобе і разышліся мы па хатах.

Я адчуў, што гэтыя курсы — справа сур'ёзная, што калі буду добрасумленна працаваць над заданнямі, то многаму навучуся.

Так я і зрабіў. Уважліва прапрацоўваю кожнае заданне і ўсе атрыманыя ўказанні і парады імкнуся перанесці ў практыку работы нашай насценгазеты.

Хачу сказаць аб заданнях «Крестьянской газеты». Яны вельмі добрыя, у іх проста і зразумела расказваецца аб тым, як трэба працаваць рэдкалегіі, якой павінна быць калгасная насценгазета.

Заданні я прапрацоўваю не адзін. Да мяне збіраюцца ўсе члены рэдкалегіі і селькоры калгаса, і мы працуем над заданнямі разам. Можна сказаць, што ў нас у калгасе працуе своеасаблівы пастаянны селькораўскі семінар.

Наш калгас стаіць на першым месцы ў раёне па ўраджайнасці і па даходах калгаснікаў. Аб нашым калгасе ведаюць не толькі ў Аршаншчыне, але і ў суседніх раёнах. Вось мы, селькоры і рашылі: перадавы ў раёне калгас павінен мець лепшую ў раёне насценгазету. І ўжо шмат зрабілі, каб выканаць гэта сваё абавязацельства.

Выпрацавалі план работы рэдкалегіі, складаем план на кожны нумар. Уцягнулі ў работу ўсіх членаў рэдкалегіі. Кожны мае пэўную нагрузку: адзін прымацоўван да канюшні і сочыць, як даглядаюцца коні, другі — да малочна-таварнай фермы і т. д. Усе члены рэдкалегіі пачалі актыўна працаваць. Насценгазета выходзіць рэгулярна раз у пяцідзёнку.

Па падрыхтоўцы да сяўбы наш калгас ідзе ўперадзе ў раёне. Але гэта нас, селькораў, не супакоіла. Нядаўна мы правялі рэйд селькораў па праверцы падрыхтаванасці да сяўбы. Гэта быў першы селькораўскі рэйд у нашым калгасе. Характэрны факт. Калі раніцою ў рэйд вышлі толькі некалькі селькораў, то пад паўдня да нас далучыліся дзесяткі калгаснікаў і к познаму вечару мы разам з калгаснікамі праверылі ўсё, што датычыць пасеўнай: насенне, інвентар, збрую, калёсы, коней, адным словам — ўсё да самых дробязей.

І знайшлі ўсё-ж такі недахопы, хоць і нязначныя, але ўсё-ж недахопы. А мы хочам, каб ні аднаго недахопу ў падрыхтоўцы да вясны наш калгас не меў.

Вось, напрыклад, выявілі, што ў калёсах утулкі і загваздкі падагнаны не зусім удала. На канюшні ўбачылі, што жарабяты стаялі два дні нячышчаныя. Аб усім гэтым мы напісалі ў насценгазеце і адразу-ж недахопы былі выпраўлены.

Насценгазетай зацікавіліся ўсе калгаснікі і калгасніцы. Выхад чарговага нумара — гэта цэлая падзея ў калгасе. Пісаць нам сталі больш 15 калгаснікаў. Мы даручылі кожнаму члену рэдкалегіі зорбаваць селькораў насценгазеты. Таварышы растлумачваюць калгаснікам задачы насценгазеты, і справа ідзе наперад.

Раней ні адна калгасніца не пісала ў нашу насценгазету. Цяпер мы ўжо маем некалькі жанчын-калгасніц пашых актыўных селькорак. Гэта Акуліна **Сцепаненкава,** Параска **Белкіна.** Іх прыцягнула да ўдзелу ў насценгазеце член рэдкалегіі калгасніца **Ахрэмава Мар'я.**

Рэагаванне на заметкі цяпер у нас пастаўлена вельмі добра. Кожны нумар насценгазеты разглядаецца на спецыяльным пасяджэнні праўлення калгаса. І такая цікавасць усіх узяла, што на праўленне, на якім разглядаюцца заметкі насценгазеты, збіраецца столькі калгаснікаў, як на сход.

На курсах я даведаўся, як робяцца светавыя газеты. І мы паказалі ўжо калгаснікам дзве светавыя газеты.

Вучоба на курсах яшчэ не закончылася, але і цяпер я адчуваю, што навучыўся многаму. Усе сілы прыкладу на тое, каб да канца вучобы набыць як можна больш ведаў, каб зрабіць нашу насценгазету лепшай у раёне.

**МІХ. БЕРАСНЁЎ**

рэдактар насценгазеты калгаса «Высокая зорка».

# НЕ ПАЗНАЦЬ ЦЯПЕР НАШАЙ НАСЦЕНГАЗЕТЫ

Жаданне працаваць у рэдкалегіі насценгазеты ў мяне і раней было вялікае, але з чаго пачаць работу, як выпускаць добрую аператыўную газету — не ведаў. Калі парторг гаварыў мне, што трэба выпусціць насценгазету, я пачынаў збіраць матэрыял, прасіў калгаснікаў напісаць.

Але рэзультат гэтага часта быў вельмі малы. Тады я садзіўся за стол і пачынаў адзін пісаць усе заметкі. Сяк-так запаўняў нумар. Зразумела, такая насценгазета не магла быць ні аператыўнай, ні цікавай. Нават у часе гарачых палявых работ выходзіла яна рэдка і не асвятляла важнейшых галін работы калгаса.

Так, мусіць, я доўга яшчэ працаваў-бы, каб не дапамаглі завочныя курсы «Крестьянской газеты». Я ўжо прапрацаваў тры заданні і кожнае з іх мяне многаму навучыла. Я навучыўся, як трэба ўцягваць калгаснікаў у работу насценгазеты, і цяпер у насценгазету пішуць больш 15 калгаснікаў.

На курсах я навучыўся праводзіць рэйды селькораў. Нядаўна мы правялі рэйд-праверку падрыхтаванасці калгаса да сяўбы. Рэзультаты рэйда змясцілі ў насценгазеце і абмеркавалі на сходзе калгаснікаў.

Склаў план работы рэдкалегіі на сакавік. У плане мы прадугледзелі правесці нараду старыкоў-вопытнікаў і інспектароў па якасці.

Курсы навучылі мяне і тэхнічнаму афармленню насценгазеты. Цяпер я ведаю, як трэба выпраўляць селькораўскую заметку, каб была яна граматная, палітычна вострая і жывая. Завёў у насценгазеце карыкатуры, малюнкі.

Не пазнаць цяпер нашай насценгазеты, з усіх бакоў стала яна лепшай, чым была раней. Падняўся і аўтарытэт не сярод калгаснікаў, бо калгаснікі бачаць, што насценгазета дапамагае выпраўляць недахопы.

З нашага калгаса на завочных курсах апрача мяне вучацца яшчэ два рэдактары брыгадных насценгазет. Кансультацыі наведваем усе трое акуратна. Заданні прапрацоўваем разам з усімі членамі рэдкалегіі і селькорамі калгаса.

# БУДЗЕМ ЗМАГАЦЦА ЗА ЛЕПШЫ У САЮЗЕ ЛЁН

## РЭЗАЛЮЦЫЯ РАЕННАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ РЭДАКТАРОЎ НАСЦЕНГАЗЕТ ЗАВОЧНІКАЎ

Трэці ўсебеларускі з'езд рабселькораў абвясціў паход імя тав. **Гікало** за лён. Мы, завочнікі курсаў «Крестьянской газеты»— 76 рэдактароў калгасных і брыгадных насценгазет Аршаншчыны, уключаемся ў гэты паход і бярэм на сябе наступныя канкрэтныя самаабавязацельствы:

1. З 15 па 25 сакавіка правядзем рэйды селькораў па праверцы гатоўнасці калгасаў да сяўбы ільну; праверым становішча і захаванне насення, якасць сартавання яго і ўсхожасць.

Вынікі рэйда абгаворым у брыгадах і на агульных сходах калгаснікаў. Даб'емся, каб насенне ільну было не ніжэй 95 проц. па ўсхожасці і 98 проц. па чыстаце, каб яно перад высевам пратручвалася.

Праверым, якія ўчасткі зямлі ў брыгадах выдзелены пад пасевы ільну, і даб'емся, каб лён сеяўся выключна на канюшынішчы, цаліне або на добра ўгноеным жытнішчы ці бульбянішчы.

2. Кожная рэдкалегія разам з праўленнем калгаса і брыгадзірамі склікае нараду старыкоў-вопытнікаў, дзе будуць выпрацаваны канкрэтныя мерапрыемствы па барацьбе за высокі ўраджай ільну, выходзячы з умоў кожнага калгаса.

3. Даб'емся пасеву ільну ў самы ранні і сціслы тэрмін. Да пачатку палявых работ у кожнай брыгадзе створым селькораўскі пост. Пасты будуць сачыць, каб на кожны гектар высявалася норма 1,3 цэнтнера ільнонасемя. Пасты будуць сачыць таксама за тым, каб кожны гектар быў высокаякасна падрыхтован к пасеву, каб не было ніводнага агрэха, каб лён сеяўся па ўсіх правілах агратэхнікі.

На старонках нашых насценгазет мы будзем паказваць вопыт работы лепшых адказных па ільну, лепшых сейбітаў, лепшыя звенні і асобных ударніц у прапалцы, церабленні і апрацоўцы ільну. Але не абмінем мы і тых людзей, якія нядобрасумленна будуць адносіцца да барацьбы за высокаякасны лён, міма нас не пройдзе ні адзін факт парушэння агратэхнічных правіл.

З першых-жа дзён палявых работ у кожнай брыгадзе створым баявую, аператыўную штодзенную насценгазету. У кожнай газеце завядзем куток інспектара якасці. Агульна-калгасныя і брыгадныя газеты бяруцца за арганізацыю спаборніцтва брыгад і звенняў, будуць арганізатарамі спаборніцтва калгаснікаў і калгасніц, будуць штодзень правяраць выкананне соцыялістычных дагавароў.

Лепшых ударнікаў веснавой сяўбы, знатных людзей калгасаў мы ўцягваем у селькораўскія рады і даб'емся, каб кожны селькор быў лепшым ударнікам у калгасе, знатным чалавекам калгаса.

Мы ў нашых калгасах будзем лепшымі намочнікамі партыі ў правядзенні ў жыццё сталінскага статута калгаса. Скарыстаем абгаварэнне і прыняцце статута для паспяховага бальшэвіцкага правядзення веснавой сяўбы. Даб'емся таго, каб веснавую сяўбу ў раёне правесці не больш, як на працягу 20 дзён, у самы ранні тэрмін і пры высокай якасці ўсіх палявых работ.

У кожнай брыгадзе на час веснавой сяўбы вылучым чытчыкаў газет і твораў мастацкай літаратуры. Чытчыкамі вылучым нашых лепшых, палітычна падрыхтаваных селькораў.

Мы арганізуем групы зацейнікаў. Зацейнікі пойдуць у брыгаду, будуць арганізатарамі культурнага правядзення абедзеных перапынкаў.

Заклікаем усіх рабселькораў Аршаншчыны, усіх ударнікаў соцыялістычных палёў **працаваць у гэту большэвіцкую вясну так, каб не было ў нас адстаючых калгасаў і брыгад, працаваць так, як вучыць нас сталінскі статут калгаснага заможнага жыцця.**

Рабселькоры Аршаншчыны ў гэту веснавую сяўбу будуць змагацца за тое, каб утрымаць першынства нашага раёна ў рэспубліцы, каб ударнай большэвіцкай работай заваяваць пачэсны чырвоны сцяг ЦК КП(б)Б і СНК.

**76 рэдактароў калгасных насценгазет Аршаншчыны — завочнікаў курсаў «Крестьянской газеты».**

(Прынята на раённай канферэнцыі завочнікаў 13 сакавіка 1935 г.).

# ПРА ПІСЬМЫ, ШТО ТРАПІЛІ У АРХІУ

Заходзім у аддзел пісем і бюро расследвання раённай газеты **«Калгаснік Капыльшчыны».** За адным сталом машыністка друкуе матэрыялы для газеты, за другім яна-ж рэгіструе атрыманыя селькораўскія допісы. Тут-жа ў пакоі стаіць спецыяльная шафа з архівам рабселькораўскіх пісем і картатэкай.

Цікавімся, як пастаўлена ў рэдакцыі работа з пісьмамі працоўных.

— Кожнаму работніку я растлумачыў яго абавязкі — заяўляе рэдактар газеты тав. **Слабодчанка.** — Асабліва звярнуў увагу на выкарыстанне кожнага пісьма селькора і калгасніка. Раз у месяц сам праглядаю заметкі, якія накіроўваюцца работнікамі ў архіў.

І раптам такая нечаканасць. З архіва за студзень і люты месяцы дасталі некалькі дзесяткаў нявыкарыстаных селькораўскіх заметак з надпісамі: «архіў», «факты малаважныя», «без подпіса». Знаёмімся са зместам гэтых заметак і знаходзім важнейшыя сігналы аб дрэннай рабоце ў асобных калгасах, аб шкодніцкай дзейнасці класавага ворага.

Не будзем пералічваць усе пісьмы, якія былі дастаны з архіва. Прывядзем толькі паасобныя з іх. Бярэм пісьмо селькора з калгаса «Чырвоны камень». Ён просіць рэдакцыю звярнуць увагу на тое, што Каляда Прахор і Вядзёрка Сёмка, пядаўна ўступіўшыя ў калгас, не абграмадзілі насенне і фураж. Праўленне калгаса, у якім ёсць сваякі Каляды і Вядзёрка, мер не прымае, а гэта выклікае нездавальненне ў многіх калгаснікаў. Гэта пісьмо накіроўваецца ў архіў з надпісам «факты мелачныя».

Дастаем другое пісьмо. Селькор з калгаса «Чырвоны малінавец» піша: калгас кантрактаваў гародніну, капусту і пяньку, а здаў толькі законтрактаваную капусту. Дагавор па кантрактацыі пянькі калгас не выканаў. Старшыня калгаса Рудзеня Іван і яго намеснік Галушка Ігнат напіліся і збілі калгасніка Корзуна Міхася Якубава, ад чаго ён аглух і ўжо больш за месяц не можа выйсці на работу. Рудзеня і Галушка ноччу ўварваліся ў хату аднаго калгасніка, звязалі яго, а сям'ю «арыштавалі». І толькі пачны вартаўнік калгаса іх суняў.

«Просім рэдакцыю, — піша селькор, —высветліць усю гэту справу праз следчыя органы і вінаватых прыцягнуць да адказнасці, бо ўсе калгаснікі баяцца гэтых зладзеяў-хуліганаў. Яны запужаны».

Чырвонаармеец «К» таксама паведамляе рэдакцыю, што член праўлення калгаса «Чырвоны малінавец» Галушка Ігнат, той самы, што збіваў калгаснікаў, крадзе соцыялістычную маемасць і прысвойвае калгасныя грошы.

І ўсё гэта адказны работнік рэдакцыі **Пратасевіч,** якому даручана размяркоўваць паступаючыя ў рэдакцыю пісьмы па сектарах і накіроўваць на расследванне, палічыў «дробяззю» і накіраваў пісьмы ў архіў.

«У калгасе «Май», — пішуць чырвонаармейцы «Калгасніку Капыльшчыны», —сістэматычна раскрадваюць свінаматак, гусей і т. д. Гэта робяць раскулачаныя браты Станіслаўчык Павел і Іван. Кулакі гэтыя жывуць на хутары ў калгасе «Хваля рэволюцыі». Аб гэтым калгаснікі паведамілі міліцыі, але і да гэтага часу не прыняты меры».

Чырвонаармейцы былі ўпэўнены, што кулакам арудваць у калгасе ўжо больш не прыдзецца. Але рэдакцыя накіравала пісьмо ў архіў — «рэагавала» што называецца.

Селькор **Касінскі** Язэп напісаў аб шкодніцтве ў старакапыльскай школе, дзе дырэктар Саўчанка згнаіў бульбу, а ў выніку няма гарачых снеданняў. Насценная газета ў школе не выходзіць ужо больш поўгода. Факты Пратасевічу нібы спадабаліся, ён нават быў схілен змясціць гэту заметку ў газеце. Але.. раптам яго настрой змяніўся, на пісьме кладзецца рэзалюцыя: «Архіў, заметка без подпіса».

Аўтар-жа заметкі паведаміў рэдакцыі не толькі сваё прозвішча і імя, але і падрабязны адрас. Ён толькі прасіў не падпісваць прозвішча, а напісаць псеўданім «Вучань».

Такіх заметак за студзень і люты аказалася ў архіве шмат. Мы прагледзелі з іх толькі 25, і ўсе яны сігналізавалі аб дрэнным ходзе важнейшых гаспадарча-палітычных кампаній, аб раскрадванні соцыялістычнай маемасці, аб шкодніцкіх дзеяннях кулацкіх элементаў.

Дзе прычыны такіх няўважлівых і чыноўніцка-бюракратычных адносін да пісем селькораў і калгаснікаў у рэдакцыі «Калгасніка Капыльшчыны»?

Пратасевіч, які вядзе аддзел пісем, — малады работнік, комсамолец. Ім ніхто не кіруе. Ён усё робіць так, як сам разумее. Рэдактар вельмі рэдка цікавіцца лёсам пісем, рэдка праглядае папку архіва. Ён спадзяецца на сваіх работнікаў.

Пратасевіч расказвае:

— **Усю заметку я не чытаю, а толькі першыя два-тры радкі.** Ведаючы добра ўсіх селькораў, я бачу, хто хлусіць, а хто праўду піша. Вось быў я ў адным калгасе, азнаёміўся там з яго работай і напісаў у газету, як прыкладна вядуць гаспадарку. Праз тыдзень-два селькор з калгаса паведамляе аб дрэнных адносінах да работы асобных калгаснікаў, аб недахопах у рабоце. Я і накіроўваю гэта ў архіў, бо я ведаю, што ён хлусіць, я-ж сам быў у гэтым калгасе.

Вось як разумее Пратасевіч работу з пісьмамі селькораў.

Пісьмамі ў рэдакцыі ведае і Пратасевіч. і толькі што вылучаны на работу ў рэдакцыі селькор **Бахта,** і машыністка. Усе патроху, а фактычна ніхто.

Пасля ўсяго гэтага зусім зразумела, чаму кладуцца ў архіў дзесяткі селькораўскіх пісем, чаму так бяздушна, пачыноўніцку адносяцца да іх.

У раёне, асабліва за апошнія месяцы, занядала работа з селькорамі. Нізавыя газеты не выходзяць у радзе перадавых калгасаў, бо ніякага кіраўніцтва з боку рэдакцыі няма. А калі селькоры ў сваіх шматлікіх допісах сігналізавалі аб дрэнным становішчы нізавога друку і работы з селькорамі, гэтыя сігналы траплялі ў архіў.

Ці можна пасля ўсяго гэтага верыць рэдактару Слабодчанка, што ён правярае работу кожнага работніка, што ён дае кожнаму напрамак, інструктуе, вучыць, як працаваць. Факты, прыведзеныя намі, гавораць аб адваротным.

Так працаваць нельга. Трэба забяспечыць самыя чулыя, уважлівыя адносіны да кожнай селькораўскай заметкі, кожнага пісьма калгасніка, максімальна скарыстоўваць у газеце гэтыя пісьмы, забяспечыць большэвіцкае рэагаванне на кожную заметку, кожнае пісьмо, паступіўшае ў рэдакцыю. А для гэтага трэба змяніць сістэму работы ў рэдакцыі. За работу з пісьмамі павінен адказваць сам рэдактар, або яго намеснік. **Р. Сімховіч.**

# ПА ВІНЕ „КАЛГАСНАЙ ПРАЎДЫ“

# Я ТРАЧУ АЎТАРЫТЭТ СЕЛЬКОРА

Увосень 1934 года я напісаў карэспандэнцыю ў сваю раённую газету **«Калгасная праўда».** У сваім пісьме я расказаў пра зрыўшчыкаў апрацоўкі льну. напісаў пра калгасніцу **Вячэрскую Ніну,** якая зрывала здзельшчыну на ільномяльным пункце.

З вялікім спазненнем з'явілася мая заметка ў раённай газеце. З лёгкай рукі літаратурнага работніка лепельскай газеты памянёная мной калгасніца Вячэрская Ніна ператвараецца ў «брыгадзіра». А ў выніку мне сталі задаваць пытанні:

— Няўжо ты не ведаеш, хто ў нас адказны за апрацоўку ільну?

І мне, як селькору, чыё прозвішча стаяла пад заметкай, прышлося чырванець.

Другі факт. 8-га лютага гэтага года я паслаў у «Калгасную праўду» заметку «Кудловіч зрывае падрыхтоўку да вясны». Пратрымаўшы заметку **два тыдні,** рэдакцыя раённай газеты ўрэшце рашыла яе апублікаваць. Што з гэтага атрымалася? **21 лютага** газета піша, што ў нашым калгасе «да гэтага часу адрамантавана толькі 8 плугоў». Я-ж пісаў

гэта два тыдні таму назад. І ў дзень з'яўлення заметкі ў раённай газеце наш калгас ужо меў значныя поспехі ў рамонце інвентару. Нічога дзіўнага, што, прачытаўшы заметку, калгаснікі, пачалі абвінавачваць мяне ў надобрасумленных адносінах да селькораўскай работы, у хлусні.

**Масціцкі Дзяніс.**

**АД РЭДАКЦЫІ:** Нядбайная праўка, залежванне рабселькораўскіх заметак па некалькі тыдняў, а то і больш, маюць месца не толькі ў лепельскай газеце. Вось чаму факты, указаныя ў пісьме селькора МАСЦІЦКАГА, заслугоўваюць сур'ёзнай увагі ўсіх раённых і фабрычна-заводскіх газет БССР.

Ні ў якім разе нельга дапускаць залежвання рабселькораўскіх пісем. Своечасовае змяшчэнне селькораўскай заметкі ўзнімае яе дзейснасць. Заметка, праляжаўшая 2—3 тыдні ў рэдакцыі траціць сваю вартасць. Змяшчэнне ўстарэлай заметкі зніжае аўтарытэт самой газеты, падрывае аўтарытэт аўтара заметкі, бо зусім зразумела, што факты і лічбы, прывадзімыя селькорам, бясспрэчна правільныя два-тры тыдні назад, могуць не адпавядаць фактычнаму становішчу ў момант апублікавання.

Гэта трэба ўлічыць рэдакцыям газет і забяспечыць своечасовае і дзейснае рэагаванне на кожнае рабселькораўскае пісьмо.

□ □ □ □ □

# Аб падборцы у газеце?

Пытанне аб падборцы ў газеце, узнятае тав. ГАРТ, вельмі важнае. Ці патрэбна падборка наогул? Якое месца павінна яна займаць у газеце? Як пабудаваць кожны нумар газеты, каб зрабіць яго найбольш баявым, аператыўным, дзейсным, найбольш даходчывым да чытача? Гэтыя пытанні хвалююць многіх рэдактароў і другіх работнікаў нашых газет. Вось чаму мы ставім на абмеркаванне работнікаў большэвіцкага друку БССР пытанне аб падборцы ў газеце. Рэдакцыя просіць рэдактароў і ўсіх работнікаў раённых, фабрычна-заводскіх, транспартных, соўгасных газет выказацца на старонках журнала па гэтаму пытанню.

Паглядзіце нашы раённыя газеты, яны амаль поўнасцю будуюцца на падборках.

Вось сенненская раённая газета **«Комунар»**. Нумар ад 21 сакавіка складаецца з двух палос і амаль поўнасцю з падборак — аб пробным выхадзе ў поле, аб падрыхтоўцы каня, аб становішчы жывёлагадоўчых ферм. Тэматыку некалькі пашырае аддзел «Карэткія сігналы».

Крычаўская газета **«Соцыялістычны шлях»** таксама будуецца на падборках. Вось нумар ад 17 сакавіка: на першай старонцы падборка аб школе, на другой —аб культуры ў калгасах. У нумары ад 20 сакавіка ўся другая паласа занята падборкай аб чыгуначным транспарце.

**«Калгаснік Старобіншчыны»** амаль усю чацвёртую паласу нумара ад 16 сакавіка аддаў падборцы аб распаўсюджанні друку.

Зразумела, пытанні, узнятыя ў падборках гэтымі газетамі, безумоўна важныя. Яны накіраваны на ажыццяўленне баявых задач, пастаўленых партыяй і ўрадам. Аднак, ці неабходна даваць гэтыя матэрыялы абавязкова ў выглядзе падборак?

Рэдактар любой раённай газеты налічыць дзесяткі важнейшых тэм, якія просяцца на старонкі газеты. Мы ведаем, як большай часткай робяцца падборкі: атрымала рэдакцыя заметку — яе адкладваюць, пакуль на гэту-ж тэму не набярэцца яшчэ 3-4-5 заметак, каб аб'яднаць іх у падборку.

А чаму-б нашым раённым газетам не ўзяцца за пашырэнне тэматыкі кожнага нумара? Чаму-б пытанні аб выкананні фінансавага плана, аб падвозцы матэрыялу для дарожнага будаўніцтва, аб жывёлагадоўчай ферме, аб падрыхтоўцы сельскагаспадарчага інвентару і інш. не даваць паасобнымі баявымі, аператыўнымі заметкамі? І матэрыял не ўстарэў-бы, і газета шырэй разгарнула-б фронт барацьбы за ажыццяўленне чарговых гаспадарча-палітычных задач.

Узнімаючы пытанне аб падборках, мы ні ў якім разе не прапануем наогул адмаўляцца ад усякіх падборак. Але ці не скараціць іх колькасць у газеце?

**ГАРТ.**
**(работнік газеты «Звязда»).**

# Справа селькора Сцяпана Шаіркі

9-га лютага рэдакцыя журнала **«Большэвіцкі друк»** атрымала пісьмо ад дэлегата 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў, рэдактара насценгазеты «Ўдарнік палёў» калгаса «Бязбожнік» (Лёзненскі раён) тав. **Шаірка Сцяпана.** Тав. Шаірка пісаў нам, што 5-га лютага Лёзненскі РК ЛКСМБ беспадстаўна выключыў яго з комсамола, пастанавіў адхіліць яго ад работы рэдактара калгаснай насценгазеты.

Для праверкі пісьма тав. Шаірка ў Лёзну неадкладна выехаў работнік журнала.

Што паказала расследванне справы т. Шаірка? За што яго выключылі з комсамола?

У студзені лёзненскі РК ЛКСМБ выключыў з комсамола брыгадзіра калгаса «Бязбожнік» селькора **Струкава.** Струкаў быў выключан на падставе заметкі ў раённай газеце **«Ленінскі сцяг»,** абвінавачваючай Струкава ў тым, што ён жыве з маткай, асуджанай на 10 гадоў пазбаўлення волі за раскрадванне калгаснай маемасці, што ён не выканаў задання па мясапастаўках і т. д. Тав. Шаірка, як комсамольскі арганізатар калгаса, пярэчыў супроць выключэння Струкава з комсамола, даказваў, што ў большасці абвінавачанні яго беспадстаўныя. Па справе Струкава ў калгас два разы выязджала камісія райкома ЛКСМБ. Частка абвінавачванняў не пацвердзілася, і пастанова аб выключэнні Струкава з комсамола была скасавана. Абмежаваліся абвяшчэннем яму вымовы. А т. Шаірка за «абарону Струкава» РК ЛКСМБ выключае з комсамола. Як бачыце, логікі ў дзеяннях Лёзненскага РК ЛКСМ няма ніякай.

У той-жа дзень у справу ўмяшаўся лёзненскі райком КП(б)Б. Член бюро РК КП(б)Б растлумачыў комсамольскаму камітэту няправільнасць рашэння аб выключэнні Шаірка з комсамола, паставіў пытанне аб пераглядзе гэтага рашэння. На бюро РК ЛКСМ галасы раскалоліся: два члены бюро галасавалі за адмену рашэння аб выключэнні, два — супроць. Пытанне асталося адкрытым.

12 лютага гэта пытанне разбіралася на пасяджэнні бюро райкома партыі ў прысутнасці прадстаўніка рэдакцыі журнала. РК КП(б)Б указаў комсамольскаму камітэту на няправільнае рашэнне аб выключэнні тав. Шаірка—старога селькора, брыгадзіра, аднаго з лепшых рэдактараў насценгазет у раёне — і прапанаваў перагледзець гэта пытанне.

РК пастанавіў у сувязі са справай т. Шаірка праверыць становішча партыйнага кіраўніцтва работай селькораў і нізавога друку, мабілізаваць усю раённую партыйную арганізацыю на ўзмацненне барацьбы з фактамі зажыму самакрытыкі, на паляпшэнне работы і кіраўніцтва рабселькорамі. Адначасова РК КП(б)Б пастанавіў праверыць работу раённай газеты, асабліва ў галіне работы з рабселькорамі і з пісьмамі працоўных, заслухаць на адным з бліжэйшых пасяджэнняў бюро РК даклад рэдактара газеты і склікаць пасля ўсебеларускага з'езда рабселькораў раённы рабселькораўскі злёт.

Тав. Шаірка ў комсамоле аднаўлен.

Але сёння мы не можам не адзначыць дзіўных паводзін газеты «Ленінскі сцяг». Да **27-га лютага** газета ні слова не сказала аб справе тав. Шаірка. 27-га лютага газета выступіла па сутнасці з інфармацыйнай заметкай: «Выжыць унцер-прышыбееўскія метады ў выхаванні комсамольцаў». Яна не ўзняла пытанне на належную прынцыповую вышыню, нават не заікнулася аб рабоце з селькорамі і нізавым друкам. А пункт пастановы РК КП(б)Б аб мабілізацыі партыйнай арганізацыі на паляпшэнне парткіраўніцтва селькорамі абавязваў-жа рэдакцыю іменна так паставіць пытанне.

Пасля пастановы РК КП(б)Б прайшло ўжо больш за месяц. За гэты час вышла 10 нумароў газеты. А рэдакцыя «Ленінскага сцяга» да гэтага часу не сабралася надрукаваць у газеце пастанову РК па справе селькора Шаірка. Гэта сведчыць аб тым, што рэдакцыя лёзненскай газеты недаацаніла гэту справу, не зрабіла з яе ніякіх вывадаў.



# Ініцыятыва практыка вопыт



## ХАТЫ-ЛАБАРАТОРЫІ ІЛЬНАВОДЧЫХ КАЛГАСАЎ

Ушацкая раённая газета **«Прымежны калгаснік»**, уключыўшыся ва ўсебеларускі вытворчы паход за лён, выступіла на сваіх старонках з прапановай аб стварэнні ў ільнаводчых калгасах раёна хат-лабараторый, якія папулярызавалі-б лепшыя спосабы сяўбы і апрацоўкі ільну. У спецыялізаваных хатах-лабараторыях перад пачаткам сяўбы павінна разгарнуцца сур'ёзная агравучоба брыгадзіраў, ільнаводаў і ўсяго калгаснага актыва.

## РЭДАКТАР ШАДУРКА РОБІЦЬ СПРАВАЗДАЧУ КАЛГАСНІКАМ

Чырвона-слабодская раённая газета **«Калгаснік»** змясціла цікавы матэрыял аб справаздачы рэдактара калгаснай насценгазеты. На справаздачу рэдкалегіі і на перавыбары ў памяшканне школы сабраліся ўсе калгаснікі калгаса **«Пуцілавец»**. Яны ўважліва выслухоўваюць даклад рэдактара аб ролі ў вытворчым жыцці калгаса вышаўшых за год 100 нумароў насценгазеты **«Ўдарнік»**, аб праведзеных ёю 5-ці рэйдах і 4 нарадах селькораў, аб росце вакол насценгазеты калгаснага актыва.

Агульнакалгасны сход прызнаў работу рэдкалегіі здавальняючай. Калгаснік Чайко і іншыя ў сваіх выступленнях указалі на неабходнасць сістэматычнага паказу ў насценгазеце вопыта работы лепшых ударнікаў і дасягненняў перадавых калгасных брыгад.

## «ВЫЯЎЛЯЙЦЕ ТАЛАНТЛІВЫХ ДЗЯЦЕЙ»

**«Сталінскі прызыў»** — касцюковіцкая раённая газета, пад аншлагам **«Выяўляйце талантлівых дзяцей. Усямерна развівайце дзіцячую мастацкую самадзейнасць»** змяшчае пісьмо рэдакцый «Крестьянской газеты» і газеты «Колхозные ребята» аб выяўленні талантлівых калгасных дзяцей для пасылкі на вучобу ў Маскоўскую дзяржаўную кансерваторыю.

«Сталінскі прызыў» расказвае аб выніках праведзенай у Касцюковічах у лютым алімпіяды самадзейнага мастацтва і мабілізуе масы на падрыхтоўку да 2-й раённай алімпіяды, якая адбудзецца ў маі.

## ЗА ЧЫСТАТУ І КУЛЬТУРУ Ў РАЁННЫМ ЦЭНТРЫ

Плешчаніцкая раённая газета **«Барацьбіт за калектывізацыю»** узняла важнае пытанне аб прывядзенні ў культурны выгляд дамоў, вуліц, двароў і плошчаў раённага цэнтра. У мястэчку Плешчаніцы ўжо абвешчан пяцідзеннік санагляду. Ачышчаюцца ад снегу, смецця і розных нечыстот двары і вуліцы, рамантуюцца і ставяцца новыя платы, брамы, каля пад'ездаў вывешваюцца ліхтары, будуюцца прыбіральні.

Раённая газета ставіць задачай: «Зрабіць мястэчка Плешчаніцы ўзорным для ўсіх мястэчак, калгасаў, саўгасаў і вёсак раёна».

## 3000-ы НУМАР БАБРУЙСКАГА «КОМУНІСТА»

25-га сакавіка 1935 г. бабруйская раённая газета **«Комуніст»** — адна з старэйшых раённых газет БССР — адзначае свой юбілей — выхад 3000-га нумара. Нізавы друк, рабкоры і рабочыя прадпрыемстваў Бабруйска сустракаюць юбілей раённай газеты датэрміновым выкананнем промфінплана, паляпшэннем якасці выпускаемай прадукцыі. На бабруйскім заводзе імя Варашылава абвешчан вытворчы паход за выкананне промфінплана першага квартала да 25 сакавіка. У дні падрыхтоўкі да юбілею арганізаван гурток чыткі мастацкай літаратуры. На спіртазаводзе пачаўся паход за чыстату, 28 лепшых рабочых завода здалі тэхнічны экзамен.

У сувязі з юбілеем раённай газеты ў радзе калгасаў пачаўся **паход за чыстату калгасных хат і двароў**. Калгасніца калгаса «Ўсход» **Худзец Марыя**, актыўны чытач раённай газеты, пабяліла і атынкавала сваю хату, купіла шафу, самавар. **Ляпёшкіна Марыя** набывае поўны камплект пасуды, «каб сям'я не ела з адной міскі».

Нізавыя газеты і рабселькоры Бабруйшчыны сустракаюць юбілей сваёй раённай газеты ўзмацненнем работы па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы.

